ASSOCIATION OF BYELORUSSIANS IN GREAT BRITAIN LTD.

52, Penn Road, London, N.7.

NOTICE IS HEREBY given that at the ANNUAL GENERAL MEETING of the Association of Byelorussians in Great Britain Ltd. to be held at 52 Penn Road London N.7. on Saturday 27th June 1964 at 6.30 p.m. the following special resolutions should be considered.

Special Resolutions

1. To alter Paragraph 17 to read:

"That no business shall be transmitted at any General Meeting unless a quorum is present when the Meeting proceeds to business. Save as herein otherwise provided ten members personally present shall be a quorum."

2. To amend Paragraph 57 by deleting the first part of the paragraph and substituting it with:

" At the Annual General Meeting in every year the Council shall lay before the Associatin a proper icome and expenditure account for the year since the last preceding account (or in the case of the first account since the incorporation of the Association) made up to a date not more than ~~months~~ four months before such meeting, together with a proper balance sheet made up as at the same date".

3. To insert after Paragraph 36 the following new paragraph:

"36A That no real property of the Association shall be sold unless authorised by the Association in General Meeting by ordinary resolution of which special notice has to be given".

Any member of the Association entitled to attend and vote at the above meeting may appoint another person - whether a member or not - as his proxy to attend and vote for him.

1st June, 1964. By order of the Council,

Secretary.

P. Navaro.

(P. Navaro)

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ.**

52, Penn Road, London, N.7.

**КАМУНІКАТ №1/64.**

18-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама аб пастанове Гал. Управы ЗБВБ (Прат. №174 з дня 17.4.1964 г.) адносна склiканьня 18 Агульнага Звычайнага Гадавога З'езду сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. З'езд пастаноўлена склікаць на сыботу 27-га чэрвеня на гадз. 5.30 па паўдні. Адбудзецца З'езд у Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэйпаданым адрасам.

Гал. Управа прапануе правесьці З'езд паводле наступнага Парадку Дня:

1. Адкрыцьцё З'езду,
2. Выбары Мандатнай Камісіі,
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду,
4. Прыняцьцё Пратаколу з папярэдняга З'езду,
5. Справаздачы Ўступаючай Галоўнай Управы,
6. Справаздача Аўдытара,
7. Справаздачы Аддзелаў ЗБВБ,
8. Справаздачы Адміністратараў Беларускіх Дамоў,
9. Дыскусіі над справаздачамі,
10. Справаздача Наглядной Рады,
11. Абсалюторыюм для Ўступаючай Галоўнай Управы,
12. Змены ў Статуце ЗБВБ,
13. Прыняцьце Статуту Дапамаговай Сэкцыі пры ЗБВБ,
14. Плян Працы і Буджэт на наступную кадэнцыю,
15. Выбары Новай Галоўнай Управы,
16. Выбары Наглядной Рады,
17. Назначэньне Аўдытара,
18. Розныя Справы,
19. Закрыцьцё З'езду.

Хто жадае ўнесьці якія-колечы змены да вышэйпаданага Праекту Парадку Дня павінен паведаміць Гал. Управу 10 дзён перад З'ездам.

У справе П. 12га адносна зменаў у Статуце ЗБВБ высылаецца спэцыяльны Камунікат у ангельскай мове.

Прыпамінаем усім залягаючым у аплаце сяброўскіх складак аб неабходнасьці ўрэгуляваньня залегласьцяў. Сяброўскія складкі з'яўляюцца адной з галоўных крыніцаў даходу ЗБВБ і спраўнае Функцыянаваньне арганізацыі залежыць ад акуратнага аплачваньня складак. Права голасу на З'езьдзе будуць мець толькі тыя, ў каго складкі ёсьць аплачаныя да канца сакавіка г. году, або хто ёсьць звольнены ад аплаты.

Галоўная Управа прыпамінае ўсім сябром ЗБВБ, што быць на Агульных З'ездах ёсьць ня толькі іх правам, але і грамадзкім абавязкам, і заклікае ўсіх выканаць гэты абавязак.

Сябры, якія з паважных прычынаў ня змогуць быць на З'ездзе асабіста, могуць упаважніць ад сябе іншую асобу, выпаўняючы і перасылаючы ў Канцылярыю ЗБВБ ніжэй замешчаную бланку.

---

У П А Ў Н А В А Ж А Н Ь Н Е.

Я(імя і прозьвішча)______________________________

пражываючы пад адрасам ______________________________

сябра ЗБВБ, гэтым вызначаю Сп. ______________________________

галасаваць за мяне на 18-ым Агульным З'езьдзе ЗБВБ.

[illegible] 1964 году

Багаслужба для праваслаўных у Лёндане.

Раніцай у нядзелю 28-га чэрвеня беларускі праваслаўны сьвятар з Манчастару, а. Я. Абабурка, адслужыць багаслужбу для Беларусаў з Лёндану і ўдзельнікаў З'езду ЗБВБ. Аб месцы і часе багаслужбы паведаміцца пазьней.

20-ці годдзе эміграцыі.

Бальшыня Беларусаў прабываючых цяпер на эміграцыі пакінулі Бацькаўшчыну дваццаць гадоў назад. Дзеля адзначэньня гэтых угодкаў ЗБВБ і ХАБР супольна наладзяць Акадэмію прысьвечанную гэтай справе. Адбудзецца Акадэмія ў Беларускім Доме ў Лёндане ў нядзелю 28-га чэрвеня па паўдні.

З беларускага жыцьця ў Лёндане.

У гэтым годзе да гэтага часу ў Лёндане было наладжана чатыры сяброўскія спатканьні.

У сыботу 11-га студзеня было наладжана супольнае сьвяткаваньне Каляд у Беларускім Доме ў Лёндане. Сьвяткаваньне ладзілася супольна праз ЗБВБ і ХАБР.

У сыботу 22-га лютага была наладжана Акадэмія прысьвечаная 100-ым угодкам Студзенскага Паўстаньня на Беларусі і Жмудзі. Акадэмія ладзілася супольна праз Літоўска-польскае Таварыства імя А. Міцкевіча і Лёнданскі Аддзел ЗБВБ і адбылася яна ў польскім клюбе. Акадэмію адкрыў старш. Літоўска-польскага Таварыства сп. З. Кудрэвіч, прамаўляючы да прысутных у трох мовах: беларускай, літоўскай і польскай. На Акадэміі было адчытана тры рэфераты: "Кастусь Каліноўскі" - адчытаў а. Леў Гарошка па-беларускі, "Кс. А. Мацкевіч" - адчытаў сп. Ф. Неверавічус па-літоўскі, і "З. Серакоўскі" - адчытаў сп. К. Акуліч па-польскі. Саля была прыгожа ўдэкаравана нацыянальнымі сьцягамі трох народаў і партрэтамі правадыроў паўстаньня.
З прыемнасьцю адзначаем факт, што Акадэмія і пазьней прыватныя сяброўскія дыскусіі адбыліся ў прыязнай таварыскай атмасфэры і факты паказваліся ў праўдзівым гістарычным сьвятле. Тут зусім ня выявілася так модная сярод некаторых летувіскіх і польскіх палітыкаў тэндэнцыя фарсавець свой "даробак культуральны" коштам беларускага народу. Мы лічым што падобныя імпрэзы ёсьць вельмі дзеля наладжаньня добрасуседзкіх адносінаў паміж гэтымі трыма народамі.

У сыботу 4-га красавіка была наладжана супольна праз ЗБВБ і ХАБР Акадэмія прысьвечаная 46-ым угодкам Акту Незалежнасьці 25-га Сакавіка. Акадэмія адбылася ў Беларускім Доме ў Лёндане. Адкрыў Акадэмію і прывітаў прысутных старшыня ЗБВБ сп. У. Бутрымовіч. Змястоўны рэфарат на тэму 25-га Сакавіка адчытаў сп. А. Жданковіч. Сп. Б. Варган, удзельнік Першага Ўсебеларускага Кангрэсу падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі з гэтага Кангрэсу. Па заканчэньні афіцыяльнай часткі для ўсіх прысутных было наладжана прыняцьцё.

У нядзелю 3-га мая было наладжана ў Беларускім Доме ў Лёндане праз ЗБВБ і ХАБР супольнае сьвяткаваньне Вялікадня. Па вялікодным абедзе адбылася сяброўская вечарынка.
За наладжаньне ўсіх прыняцьцяў асаблівая падзяка належыцца адміністратару Беларускага Дому ў Лёндане, сп-у Т. Скапцу і сп-і Л. Скапец.

Лёндан, 1-га чэрвеня, 1964г.

Галоўная Управа ЗБВБ.

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ.

52, Penn Road, London, N.7.

КАМУНІКАТ №2/64.

18-ы Агульны З'езд ЗБВБ.

Згодна з паведамленьнем у папярэднім Камунікаце 18-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ адбыўся ў суботу 26-га чэрвеня ў Беларускім Доме ў Лёндане. Адкрыў З'езд і прывітаў удзельнікаў старшыня Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ, сп. У. Бутрымовіч. Ён паведаміў удзельнікаў аб наглай сьмерці ў Нямеччыне былога сябры ЗБВБ, в.п. сп. П. Сыча. З'езд ушанаваў памяць пакойнага сябры праз паўстаньне і хвіліннае маўчаньне.

Мандатная Камісія, выбраная ў складзе: сп. сп. Я. Міхалюк, Я. Калбаса, М. Віценчык, па спраўджаньні мандатаў абвесьціла З'езд Важным. У Прэзыдыюм З'езду былі выбраны: сп. Я. Міхалюк - старшыня, сп. А. Шацько і П. Наваро - сакратары. Па пераняцьці Прэзыдыюмам кіраўніцтва З'езду старшыня сп. Я. Міхалюк звярнуўся з заклікам да ўдзельнікаў З'езду, а праз іх і да ўсяго беларускага грамадзтва ў Англіі, каб не шчадзілі ніякіх высілкаў у працы для дабра беларускай справы і пахадаў З'езду плённай працы.

На З'езьдзе былі зданыя наступныя справаздачы: Уступаючай Галоўнай Управы, Аўдытара/дзяржаўнага рэвізора/, Управаў Аддзелаў ЗБВБ, Адміністратараў Дамоў ЗБВБ і Наглядней Рады. З усіх справаздачаў і дыскусіяў над імі вынікла, што бяручы пад увагу цяжкія ўмовы працы, як расьцярушанасьць Беларусаў па ўсёй тэрыторыі Вялікабрытаніі і адсутнасьць пастаянных і аплачваных працаўнікоў, ЗБВБ робіць вялікую грамадзкую і ўсьведамляючую працу сярод Беларусаў і годна рэпрэзэнтуе беларускае імя сярод чужынцаў. Таксама ЗБВБ стаіць на здаровай матарыяльнай базе. Арганізацыя зьяўляецца ўласьнікам трох вялікіх дамоў, якія ўжо амаль поўнасьцю сплачаныя і касава-кніжная вартасьць якіх цэніцца на суму £8650, сапраўдная-ж рынковая вартасьць іх будзе ў прынамсі паўтара раза большай. За мінулую кадэнцыю грашовыя абароты ЗБВБ былі на суму £1800.

На прапанову Уступаючай Гал. Управы было пастаноўлена павольшыць лік сяброў Управы ЗБВБ, ствараючы функцыю другога заст. старшыні з тым, што ён будзе выбраны з сяброў з паза Лёндану, і таксама надана права старшыням Управаў Аддзелаў ЗБВБ прысутнічаць на ўсіх пасяджаньнях Галоўнай Управы ЗБВБ з правам дарадчага голасу. Старшыні Аддзелаў ЗБВБ не забавязаны прысутнічаць на пасяджаньнях Галоўнай Управы і кошты падарожжа на пасяджаньні ім звяртацца ня будуць, хіба што ў паведамленьні на пасяджаньне будзе зазначана, што іх прысутнасьць ёсьць абавязковай. Другі заст. старшыні з правінцыі таксама не забавязаны быць прысутным на ўсіх пасяджаньнях, але Гал. Управа ЗБВБ будзе забавязана звяртаць яму кошты падарожжа на ўсе пасяджаньні, на якіх ён будзе браць удзел. Ужо ад даўжэйшых гадоў перайшло ў традыцыю выбіраць Галоўную Управу ЗБВБ зпасярод Беларусаў з Лёндану і гэтыя два мерапрыемствы скіраваны, каб прыцягнуць правінцыю да больш непасрэднага ўдзелу ў агульнай працы ЗБВБ, што прывядзе да большай каардынацыі ў працы.

Уся Ўступаючая Управа ЗБВБ была выбрана нанова на наступную кадэнцыю з тымі самымі функцыямі, а на другога заст. старшыні быў аднагалосна выбраны сп. Я. Міхалюк з Брадфардзкага Аддзелу ЗБВБ. Такім чынам склад Галоўнай Управы ЗБВБ ёсьць як наступна:

| | | |
|---|---|---|
| Сп. У. Бутрымовіч | - | старшыня, |
| а. А. Надсон | - | першы заст. старшыні, |
| Сп. Я. Міхалюк | - | другі заст. старшыні, |
| Сп. П. Наваро | - | сакратар, |
| Сп. П. Асіповіч | - | скарбнік, |
| Сп. В. Тур | - | сябра Управы, |
| Сп. А. Шацько | - | сябра Управы. |

Наглядная Рада была таксама перавыбрана бяз зьмен з папярэдняга году, г. зн. у складзе:

а. Л. Гарошка - старшыня,
Сп. Я. Сяўковіч - сакратар,
Сп. Ю. Якімец - сябра.

Аўдытарам быў назначаны сп. Джозэф Гаямс, які прадаўжае быць аўдытарам ЗБВБ ад пачатку залегалізаваньня арганізацыі.

Беларуская Харытатыўная Сэкцыя пры ЗБВБ.

На Агульным З'езьдзе ЗБВБ была падрабязна абгаворана створаная пры ЗБВБ Харытатыўная Сэкцыя, якая была фармальна і аканчальна залегалізавана ў сакавіку г. году Брытанскай Харытатыўнай Камісіяй (The Charity Commission) за рэгістрацыйным № 229742 з ангельскім назовам (Byelorussian Charitable Trust). Згодна з затверджаным Статутам Сэкцыя можа праводзіць дзейнасьць на ўсёй тэрыторыі Вялікабрытаніі і паза яе межамі, г. зн. ва ўсіх краінах вольнага сьвету, дзе ёсьць дазволена харытатыўная дзейнасьць. Пераважна харытатыўныя арганізацыі ў Вялікабрытаніі маюць абмежаваны тэрытарыяльны засяг, напр. на адзін горад або на адно графства, аднак Харытатыўная Камісія ўзяла пад увагу спэцыфічныя ўмовы ў якіх будзе дзейнічаць наша арганізацыя і згадзілася на тэрытарыяльна неабмежаваны Статут.

Дзейнасьць Харытатыўнай Сэкцыі датычыць трох галоўных мэтаў:

а. Прызнаваньне запамогаў патрабуючым асобам беларускага паходжаньня, пражываючым у Вялукабрытаніі, або паза яе межамі.

б. Пашыраньне асьветы, асабліва праз навучаньне беларускай мовы і культуры; арганізаваньне школаў, сэмінарыяў і тэатраў; надаваньне стыпэндыяў і іншых узнагародаў; выдаваньне кніжак, бюлетэняў і іншых публікацыяў; арганізаваньне выставаў, адчытаў і т. п.

в. Устанаўляньне і ўтрымоўваньне сьвятыняў, дапамаганьне ў арганізаваньні прыходаў, дапамаганьне і ўтрымоўваньне сьвятароў.

Крыніцамі матарыяльных сродкаў Харытатыўнай Сэкцыі будуць ахвяры ад прыватных асоб і субвэнцыі ад арганізацыяў. ЗБВБ падпісала з Сэкцыяй Умову (Deed of Covenant) на 7 гадоў, на падставе якой Сэкцыі пераказваецца ўвесь даход з гаражаў пры Беларускім Доме ў Лёндане, што становіць £216 у год. ЗБВБ пляну̂е хутка перадаць Сэкцыі і даходы з іншых крыніцаў. Таксама некаторыя асобы выразілі згоду падпісаньня з Сэкцыяй умовы адносна ахвяраваньня пэўнай сталай сумы грошай. Грашовыя даходы Сэкцыі ня будуць падлягаць ападаткаваньню.

Кіраўнікамі Сэкцыі зьяўляюцца Мужы Даверу, або Куратары, па ангельсі Trustees, якія назначаюцца праз ЗБВБ. У сваей дзейнасьці аднак яны будуць адказнымі не перад ЗБВБ, а непасрэдна перад Харытатыўнай Камісіяй і, у выпадку надужыцьцяў, адказваць будуць Куратары самы асабіста. У сучасны мамэнт назначанымі Куратарамі зьяўляюцца: а. Л. Гарошка, Сп. П. Асіповіч і Сп. А. Шацько.

Абыходжаньне 20-ых Угодкаў Эміграцыі ў Лёндане.

У нядзелю 28-га чэрвеня было наладжана ў Лёндане сьвяткаваньне 20-ых Угодкаў апошняй беларускай эміграцыі, якое ладзілася Арганізацыйным Камітэтам з прадстаўнікоў ад ХАБР і ЗБВБ.
Раніцай была адслужана літургія ў царкве на Олд Оўк Роўд сьвятаром БАПЦ, а. І. Абабуркам. Па паўдні ў Беларускім Доме была наладжана Акадэмія прысьвечаная гэтай нагодзе. Адкрыў Акадэмію і прывітаў прысутных ад імя Арганізацыйнага Камітэту сп. П. Наваро і пазьней зрабіў прынагодны даклад, у якім супрацьставіў цяперашнюю палітычную эміграцыю з папярэднімі, якія мелі месца ў гісторыі Беларускага Народу. Дакладчык насьветліў умовы, у якіх фармаваліся беларускія арганізацыі ў розных краінах, звярнуў увагу на адмоўны і непажаданы аспэкт, якім ёсьць разбіцьцё эміграцыі на непрыязныя сабе групоўкі і падгрупоўкі, на пазытыўнае імкненьне апошнімі часамі калі не да аб'яднаньня то прынамсі да каардынацыі дзейнасьці і супрацоўніцтва, а таксама на неэфэктоўныя высілкі бальшавіцкай прапаганды дзеля спаралізаваньня дзейнасьці беларускай эміграцыі.

У другім дакладзе прысьвечаным 20-м угодкам 2-га Беларускага Кангрэсу сп. А. Жданковіч насьветліў умовы, у якіх ён адбыўся і асабліва падкрэсьліў, што 2-гі Кангрэс апрабаваў усе пастановы 1-га Усебеларускага Кангрэсу і ўняважніў усе трактаты датычачыя Беларусі і падпісаныя бяз удзелу Беларускага Народу.

Па афіцыяльнай частцы адбылося прыняцьцё пад час якога прысутныя дзяліліся паміж сабой успамінамі. Як на багаслужбе так і на Акадэміі прысутнічала вялікая колькасьць Беларусаў з Лёндану і правінцыі.

Прадчасная сьмерць в.п. Сп. Пятра Сыча.

З сумам паведамляем аб прадчаснай сьмерці ў Мюнхэне ў Нямеччыне былога сябры ЗБВБ, шматгадовага старшыні ЗБК у Ангельшчыне, пісьменьніка і грамадзкага дзеяча в.п. Сп. Пятра Сыча. Памёр ён дня 20-га чэрв. хххххх ў досыць загадковых абставінах у шпіталі, пасьля таго, як яму там быў даны ўкол. Астатнімі часамі чуўся ён досыць добра, а ўступіў у шпіталь толькі каб трохі "падлячыцца".

Нарадзіўся Пётр Сыч 18-га студзеня 1912 г у в. Батурына Вялейскага павету ў беднай сялянскай сям'і. У 1939 г. Пётр Сыч быў арыштаваны і ў наступным годзе сасланы на Сібір на 10 гадоў. Там уступае ў польскую армію і выяжджае на захад. У арміі быў у чыне лейтананта і атрымаў высокія вайсковыя адзначэньні. У беларускую грамадзкую дзейнасьць уключыўся Пётр Сыч толькі на эміграцыі, пасьля таго, як добра на практыцы пазнаў усходніх і заходніх суседаў і сутыкнуўся з патрыятычнай беларускай эміграцыяй.

Пахаваны быў в.п. Пётр Сыч дня 24-га чэрвеня ў Мюнхэне на магільніку Perlacher Forst Паховіна даканаў Яго Даст. Ул. Ч. Сіповіч. Дня 5-га ліпеня ў беларускай каталіцкай царкве сьв. Пятра і Паўла ў Лёндане была адслужана Паніхіда за супакой яго душы. Лёс не назначыў пакойнаму супачыць на сваей роднай Вялейшчыне, хай яму пухам будзе чужая зямля.

Беларускі Юнацкі Клюб пры Аддзеле ЗБВБ у Брадфардзе.

Заахвочаная добрым прабегам працы ў Беларускай Школе ў Брадфардзе Управа мясцовага Аддзелу высунула ініцыятыву, каб зарганізаваць там Беларускі Юнацкі Клюб. Гэтая думка нашла жывую падтрымку, як сярод бацькоў так і сярод малодшых, асабліва сярод малодшых, і занятки распачаліся. Апякунамі Клюбу ад Аддзелу ЗБВБ з'яўляюцца сп.А. Бута і сп-я Л. Міхалюк. Клюб мае таксама сваю Управу, якая складаецца з юнакоў: Юля Мацкевіч - старшыня, Ванда Бута - сакратар, і Анна Лемяшонак - скарбнік. Мэтай Беларускага Юнацкага Клюбу ёсьць узгадаваньне моладзі ў беларускім нацыянальным духу. Апрача заняткаў у школе ў вывучаньні беларускай мовы, літаратуры, гісторыі і геаграфіі, сябры Клюбу вучацца беларускіх народных песьняў і танцаў. Выкладчыкамі з'яўляюцца: сп. А. Бута, сп-я Л. Міхалюк, сп. С. Мак і сп. Я. Калбаса. Клюб мае абшырную і вельмі добра абсталяваную залю ў Беларускім Доме.

У нядзелю 12-га ліпеня ў Беларускім Доме была наладжана Акадэмія, прысьвечаная афіцыяльнаму адкрыцьцю Беларускага Юнацкага Клюбу. Распачалася яна Сьвятой Літургіяй адслужанай у Капліцы Беларускага Дому, апякуном БАПЦарквы на Вялікабрытанію а. І. Абабуркай. Афіцыяльную частку Акадэміі адкрыў старшыня Управы Аддзелу ЗБВБ, сп. Я. Калбаса, які разказаў гісторыю заснаваньня Клюбу і злажыў падзяку для ўсіх хто дапамог у арганізаваньні Клюбу і абсталяваньні залі для яго. Афіцыяльна адкрыў Беларускі Юнацкі Клюб сакратар Галоўнай Управы ЗБВБ, сп. П. Наваро. Ен поўнасьцю адабрыў гэтую так важную ініцыятыву Аддзелу ЗБВБ, заклікаў усіх бацькоў, каб пасылалі дзяцей Беларускую Школу і Клюб, а юнаком пахадаў, каб весела і карысна праводзілі час у Клюбе, і каб былі добрымі сынамі і дочкамі свае Бацькаўшчыны Беларусі. Наступна прамаўляў да прысутных апякун Клюбу сп. А. Бута, які падзякаваў усім супрацоўнікам за высілкі ўкладаныя ў развіцьцё Клюбу.

На мастацкую частку злажыліся беларускія народныя танцы і песьні і ігра на акардыёне. Былі выкананы тры народныя танцы: Лявоніха Пылька Янка і Крыжачок. З песень былі выкананы: "А калі памрэш ты", "Чырвоная Каліна", "Ой у полі вярба", "Капалінка", "Баба Ёўка" і ангельская песьня "There is the hole in your bucket".
У выканаьні танцаў і песьняў бралі ўдзел: Юля Мацкевіч, Ванда і Ніна Бута, Анна і Дарота Лемяшонак, Галя Мазурук, Тоні Мучынскі.
На заканчэньне мастацкай часткі ўсе юнакі агулам адсьпявалі песьню "Не пагаснуць зоркі ў небе". Усе прысутныя былі вельмі задаволеныя з так багатай і добра выкананай праграмы і таму пры зборцы грошай шчодра ахвяроўвалі на Беларускі Юнацкі Клюб.
На заканчэньне ўсе прысутныя ўзялі ўдзел у добра зарганізаваным банкеце.

Лёндан, 20-га ліпеня, 1964 г. Гал. Управа ЗБВБ.

58

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ.

52, Penn Road, London, N.7.

КАМУНІКАТ № 3/64.

Высьвячэньне Царквы БАПЦ у Нотынгаме.

Ужо ад даўжэйшага часу ў Нотынгаме існуе Беларускі Праваслаўны Прыход, настаяцелем якога быў а.І. Мірановіч, а па ягоным выезьдзе ў Амэрыку, Прыходам апякуецца а. І. Абабурка. У нядзелю, 9-га жніўня ў Нотынгаме адбылося вялікае парафіяльнае сьвята - высьвячэньне новай царквы праз а. І. Абабурку. На гэтую ўрачыстасьць прыехалі таксама Беларусы і з іншых асяродкаў - з Бірмінгаму, Брадфарду, Дарбы, Лёндану і Манчастару.

Па ўрачыстай багаслужбе было наладжана прыняцьце пад час якога прамаўлялі: сп. У.Капач ад Царкоўнага Камітэту, палкоўнік Каралькоў ад Казацкага Праваслаўнага Прыходу ў Манчастары, сакратар ЗБВБ сп. П.Наваро, сп. Я.Калбаса з Брадфарду і сп. М.Баяроўскі з Бірмінгаму.

Аб гэтай урачыстасьці абшырна пісала мясцовая ангельская прэса Івнінг Пост анд Нюс з 8-га і 10-га жніўня, Гардіан Джэрнал з 10-га жніўня, Нотынгамшыр Гардіан з 15-га жніўня, зьмяшчаючы фатаграфіі з багаслужбы і крэснага ходу.

Багаслужбы ў царкве будуць адбывацца кожнай трэцяй нядзелі. Старшынёй Царкоўнага Камітэту зьяўляецца сп. У.Капач, а царкоўным старастай сп. П. Несьцераў. Адрас царквы:

Адміністрацыя Беларускага Дому ў Лёндане.

З канцом жніўня г.году сп. Т.Скапец здаў адміністрацыю Беларускага Дому ў Лёндане з прычыны пажылага веку - сп. Т.Скапцу ёсьць 69 гадоў. Гэтай дарогай Гал.Управа ЗБВБ жадае выразіць публічную падзяку Сп.Т.Скапцу за працу ўложаную ў адміністраваньні Беларускага Дому і таксама за вельмі ўдалае наладжваньне, пры выдатнай дапамозе ягонай жонкі Ліды, усіх прыняцьцяў у сувязі з нацыянальнымі і рэлігійнымі сьвятамі. Наступным адміністратарам быў назначаны сп. П.Наваро.

Юбілей сьвятарства а.І. Абабуркі.

У нядзелю 25-га кастрычніка прыпадалі першыя ўгодкі сьвятарства а. І. Абабуркі. Раніцай а.І. Абабурка адслужыў сьв. Літургію ў саслужэньні са сьвятарамі з УАПЦ ў царкве сьв.Паўла ў Манчастары. Па багаслужбе прыхажане зарганізавалі для паважанага юбілянта прыняцьце ў Беларускім Доме. У мастацкай частцы сяброўкі з Беларускага Жаноцкага Клюбу ў Брадфардзе выступілі з беларускімі народнымі песьнямі і танцамі. З нагоды гэтага юбілею Гал. Управа ЗБВБ жадае а.І.Абабурку плённай працы на беларускай рэлігійнай ніве.

44-я Ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

У нядзелю 22-га лістапада ў Лёндане а.прат.В.Тарановіч адслужыў у царкве сьв.Спаса малебен за беларускі народ і паніхіду за ўсіх загінуўшых у змаганьні за незалежнасьць Беларусі. Такая-ж багаслужба была адслужана 29-га лістапада ў каталіцкай царкве сьв. Пятра і Паўла на Фінчлей айцамі Я. Гэрмановічам, Л. Гарошкам і А. Надсонам.
Па паўдні ў гэты дзень у Беларускім Доме ў Лёндане адбылася Акадэмія. Адкрыў і кіраваў Акадэміяй сп. А. Жданковіч. Даклад у беларускай мове зрабіў старшыня ЗБВБ, сп. У. Бутрымовіч, а ў ангельскай мове сп-я В. Рыч. У мастацкай частцы былі дэклямаваны праз сп-ю М. Рыч і сп. Дж. Нікольсона вершы ангельскіх пісьменьнікаў на беларускія тэмы. па афіцыяльнай частцы адбылося прыняцьце добра зарганізаванае сп-ам Т. і Л. Скапцамі.

У Брадфардзе 44-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня абыходзіліся ў нядзелю 6-га сьнежня. Раніцай а. І. Абабурка адслужыў багаслужбу ў капліцы Беларускага Дому. Па паўдні ў Беларускім Доме была наладжана Акадэмія мясцовым Аддзелам ЗБВБ. Даклад зрабіў старшыня Аддзелу ЗБВБ сп. Я. Калбаса. З прамовамі выступалі прысутныя з Лёндану госьці, сп. А. Жданковіч і сп. Я. Сяўковіч.

Агульная Перапісь Беларусаў у Вялікабрытаніі.

Галоўная Управа ЗБВБ паставіла сабе за заданьне правесьці перапісь усіх Беларусаў пражываючых у Вялікабрытаніі і звяртаецца з заклікам да ўсяго грамадзтва тут, каб аказала поўную падтрымку. ЗБВБ, як грамадзкая арганізацыя, лічыць сваім абавязкам выступаць ад імя ўсіх Беларусаў пражываючых тут і таму ёсьць неабходным мець наш поўны колькасны стан. Сабраныя асабістыя даныя будуць трактавацца, як сакрэтныя і толькі да ўгляду Галоўнай Управы. Статыстычны вынік перапісі будзе пазьней апублікаваны.

Прысыланьне ўсіх Беларускіх Выданьняў у ЗБВБ.

Звяртаемся да ўсіх беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў, як у Вялікабрытаніі так і паза межамі, якія выдаюць часопісі, камунікаты, звароты і інш., прысылаць прынамся адзін экзэмпляр у Гал. Управу ЗБВБ, у выпадку неабходнасьці за аплатай.

Запісваньне Маёмасьці на ЗБВБ.

Паведамляем усіх ня маючых спадкаемцаў, і іншых, жадаючых запісаць сваю маёмасьць, ці часьць яе, на ЗБВБ, што з Галоўнай Управы можна атрымаць на жаданьне формуляры тэстамэнтаў і інфармацыі адносна іх прыгатаўляньня.

Супольныя сьвяткаваньні Каляд.

У Лёндане будзе наладжана Арганізацыйным Камітэтам супольнае сьвяткаваньне Каляд у Беларускі Доме ў сыботу 9-га студзеня 1965 г.
У Брадфардзе Беларускі Юнацкі Клюб ладзіць Калядную ёлку для дзяцей у нядзелю 27-га сьнежня 1964 г. а гадз. 4-ай па паўдні.
У Манчастары 1-га студзеня а гадз. 4-ай па паўдні будзе наладжана ў Беларускім Доме Калядная ёлка длядзяцей. Для дарослых дня 9-га студзеня 1965 г. а гадз. 5-ай па паўдні будзе наладжана ў Беларускім Доме Калядняя Вечарынка.

Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году.

Вітаем усіх Беларусаў з вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыста і жадаем ім Шчасьлівага Новага Году.

Лёндан, 21-га сьнежня, 1964 г. Гал. Управа ЗБВБ.

# П А В Е Д А М Л Е Н Ь Н І

## Праваслаўная Багаслужба ў Лёндане дня 27.12.1964 г.

У наступную нядзелю, г.зн. 27-га сьнежня гэтага году, сьвятар БАПЦ, а. І. Абабурка, адслужыць Сьв. Літургію ў царкве Сьв.Спаса на Олд Оўк Роўд. Пачатак багаслужбы а гадз. 11-ай мін. 15 раніцы. Заклікаем усіх праваслаўных Беларусаў з Лёндану і ваколіцаў да асабістага ўдзелу.

Адрас царквы : St. Saviour's Church, Old Oak Road, London, W.3.
Даезд з Shepherds Bush аўтабусамі № 207 і 49,
з Hammersmith аўтабусамі № 260 і 266.

Лёндан, 21-га сьнежня, 1964 г.

Царкоўны Камітэт
Вікарыяльнай Управы БАПЦ.

## Супольнае сьвяткаваньне Калядаў дня 9.1.1965 году.

На трэці дзень Калядаў паводле старога стылю, г. зн. у суботу дня 9-га студзеня 1965 году, а гадз. 5-ай мін. 30 па паўдні будзе наладжана супольнае сьвяткаваньне Калядаў, на якое запрашаем усіх Беларусаў з Лёндану і ваколіцаў.
У праграме сьвяткаваньня будзе прыняцце для дарослых і дзяцей і ёлка з дзедам Марозам для дзяцей.
Сьвяткаваньне адбудзецца ў Беларускім Доме пад адрасам:

52, Penn Road, London, N.7.

На пакрыцьцё коштаў устаноўлена складка ў вышыні £1.10.0 ад паадзіночных асобаў і £2.0.0 ад сям'і. Аплату разам з залучанай ніжэй бланкай, адпаведна выпаўненай, просім перасылаць на рукі сакратара Арганізацыйнага Камітэту на адрас:

Mr. J. Viesialkoŭski,
38, Weltje Road, London, W.6.
Tel.: RIVerside 8591.

Лёндан, 21-га сьнежня, 1964 г.

Арганізацыйны Камітэт.

------------------- адрэзаць тут і пераслаць -------------------

Гэтым паведамляю, што жадаю прыняць удзел на супольным сьвяткаваньні Калядаў дня 9-га студзеня 1965 году.

Апрача мяне будзе са мной ___ асобаў, з якіх дарослых ___ і дзяцей ___ .

На пакрыцьцё коштаў перасылаю ___

Імя і прозьвішча ______________________ ________ /подпіс/

Адрас ______________________

______________________

59

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ.

52, Penn Road, London, N.7.

КАМУНІКАТ № 1/65.

19-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 19-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі адбудзецца ў суботу і нядзелю 26-га і 27-га чэрвеня, пачатак агадз. 6-й па паўдні, гэтага году.

З'езд адбудзецца ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэйпаданым адрасам. Праектуецца наступны Парадак Дня З'езду.

1. Адкрыцьцё З'езду,
2. Выбары Мандатнай Камісіі,
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду,
4. Прыняцьце Пратаколу з папярэдняга З'езду,
5. Справаздачы Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ,
6. Справаздача Аўдытара,
7. Справаздача Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ,
8. Справаздачы Аддзелаў ЗБВБ,
9. Справаздачы Адміністратараў Беларускіх Дамоў,
10. Дыскусіі над справаздачамі,
11. Справаздача Наглядной Рады,
12. Абсалюторыум для Ўступаючай Галоўнай Управы,
13. Плян Працы і Будкэт на наступную Кадэнцыю,
14. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ,
15. Выбары Наглядной Рады,
16. Назначэньне Аўдытара,
17. Розныя Справы,
18. Закрыцьцё З'езду.

Жадаючыя ўнесьці якія-колечы змены змены да вышэйпаданага Праекту Парадку Дня павінны паведаміць Галоўную Ўправу прынамся 10 дзён перад З'ездам.

Прыпамінаецца ўсім залягаючым у аплаце сяброўскіх складак аб неабходнасьці ўрэгуляваньня залегласьцяў. Права голасу на З'езьдзе будуць мець толькі тыя сябры, якія маюць аплачаныя сяброўскія складкі да канца сакавіка гэтага году, або якія ёсьць звольненыя ад аплаты складак.

Прыпамінаем таксама, што абавязкам усіх сяброў ЗБВБ ёсьць іх прысутнасьць на Агульных З'ездах, і заклікаем іх да выкананьня гэтага грамадзкага абавязку.

Хто аднак з паважных прычын ня зможа быць на Агульным З'езьдзе, можа ўпаважніць ад сябе іншую асобу, выпаўняючы і перасылаючы ў Канцылярыю ЗБВБ ніжэй замешчаную бланку.

---

УПАЎНАВАКАНЬНЕ.

Я імя і прозьвішча ______________________________

пражываючы пад адрасам ______________________________

сябра ЗБВБ, гэтым вызначаю Сп. ______________________________

галасаваць за мяне на 19-ым Агульным З'езьдзе ЗБВБ.

Дня, 1965 году.

Зактывізаваньне Ангельска-Беларускага Таварыства.

У выніку даўжэйшай падрыхтоўчай працы, дня 5-га лютага гэтага году адбыўся Агульны Сход Ангельска-Беларускага Таварыства. Быў прыняты новы Статут Таварыства, выбраныя кіруючыя органы і назначаны плян працы. Таварыства пляную выдаваць пэрыядычны часопіс у ангельскай мове на беларускія тэмы.

Сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці - 25-га Сакавіка.

У чацьвер 25-га сакавіка сп-я М. Макмілян, нявестка былага прэм'ер міністра Вялікабрытаніі, якая цяпер зьяўляецца Віцэстаршынёй Ангельска-Беларускага Таварыства, зрабіла ў сваім доме прыняцьце з нагоды 47-ых угодкаў прагалашэньня незалежнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка.
Газэта "Таймс" за 26-га сакавіка зьмясьціла вестку аб гэтым падаючы лісту больш знаных асобаў прысутных там. Між іншымі на прыняцьці былі прысутнымі:
Яго Дастойн. Уладыка Ч. Сіповіч, а. Монсіньёр У. Салавей, старш. Ангельска-Беларускага Таварыства сп. А. Гэрбэрт, старш. ЗБВБ сп. У. Бутрымовіч, скарб. ЗБВБ сп. П. Асіповіч, сп. Я. Дамінік, сп. Савіцкі, сп. Г. Пікарда. З дыпляматаў былі прысутныя Нямецкі амбасадар, Гішпанскі амбасадар, першы і другі сакратары Француўзкай амбасады ў Лёндане. Былі таксама прысутнымі добра знаныя прадстаўнікі ангельскай арыстакратыі, як маркіз і маркіза Дуфэрін і Ава, Лёрд Ст. Освальд, Леды Гаскэт, Леды Гарлех, Барон Бістам, Сэр Б. Валей-Когэн былы мэр гор. Лёндану. З палітычных кругоў былі прадстаўнікі ад іншых паняволеных камунізмам народаў, некалькі былых міністраў з папярэдняга кансэрватыўнага Ўраду, панад дзесяць парлямэнтарыстаў, як з Кансэрватыўнай партыі так і ўрадовай партыі Працы.

Бясспрэчна, гэтае прыняцьце было вялікім асягненьнем беларускай вызвольнай справы на міжнароднай арэне.

У нядзелю 28га сакавіка ладзілася сьвяткаваньне 25-га Сакавіка для ўсіх Беларусаў з Лёндану і ваколіцаў. Распачалося яно раніцай багаслужбамі - для праваслаўных багаслужбу і малебен за Беларускі Народ адслужыў мітрафорны пратаярэй а. В. Тарановіч, для каталікоў Уладыка Ч. Сіпові адслужыў літургію ў саслужэньні з мітрафорным пратаярэем а. У. Салаўём і а. А. Надсонам.
Акадэмія прысьвечаная 25-у Сакавіку адбылася па паўдні ў Беларускім Доме. Адкрыў яе ад імя арганізацыйнага Камітэту сп. А. Жданковіч.
**прынагодны рэфэрат даў старш. ЗБВБ сп. У. Бутрымовіч.**
У мастацкай часткі вучні Беларускай Школы Сьв. Кірыла далі праграму з беларускіх народных песьняў, ігры на акардыёне і жалейках і дэклямацыяў. Па афіцыяльнай часткі было зладжана для ўсіх прысутных прыняцьце.

У Брадфардзе сьвяткаваньне 25-га Сакавіка адбылося адбылося ў суботу 27-га сакавіка, і распачалася багаслужбай і малебенам за Беларусь, адслужаныя сьвятаром БАПЦ а. І. Абабуркам. З мастацкага пункту гледжаньня Акадэмія была наладжана вельмі ўдала. Рэфэрат, адчытаны сп. Б. Кляйновым на фоне мантажу беларускай музыкі і народных песьняў. Папоўнена Акадэмія была беларускімі народнымі песьнямі і танцамі сяброўкамі і сябрамі Беларускага Юнацкага Клюбу. На заканчэньне Акадэміі было наладжана агульнае прыняцьце. Акадэмія была ладжана мясцовым Аддзелам ЗБВБ і бралі ў ёй удзел Беларусы з усяго Еркшыру. Аб сьвяткаваньні пісалася і была зьмешчаная фатаграфія ў мясцовай ангельскай газэце "Тэлеграф анд Аргус" за 29-га сакавіка.

У Манчэстэры сьвяткаваньне 25-га Сакавіка адбылося ў нядзелю 28-га сакавіка. Багаслужбу і малебен за Беларусь адслужыў а. І. Абабурка ў казацкай капліцы. Акадэмія, якой кіраваў старш. Аддз. ЗБВБ сп. М. Яськевіч, адбылася ў Беларускі Доме, з падобнай праграмай як у Брадфардзе.

У Бірмінгаме багаслужба і малебен з нагоды 25-а Сакавіка былі адслужаны а І. Абабуркай у нядзелю 11-га красавіка.

Лёндан, 1-га чэрвеня, 1965 г. Гал. Управа ЗБВБ.

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, LONDON, N. 7

КАМУНІКАТ № 2/65

19-ты Звычайны Агульны З'езд З.Б.В.Б.

Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў ЗБВБ. адбыўся ў cыботу 26чэрвеня ў Беларускім доме ў Лёндане. Адкрыў З'езд і прывітаў прысутных старшыня Гал. Управы ЗБВБ., сп. Ул. Бутрымовіч. Ен заклікаў удзельнікаў З'езду, каб забераючы голас у дыскусыях, падыходзілі да спраў рачова і выказваліся канкрэтна, не трацячы шмат часу на справы мала важныя. Наступна зьвярнуўся да пленуму із просьбай падаваць кандыдатаў для выбару Мандатнай Камісіі. Па правядзеньні галасаваньня, у склад Мандатнай Камісіі увайшлі: Я.Калбаса -Старшыня, а. Л. Гарошка - сакратар, сп. М.Баяроўскі- сябра. Посьля 20 хвіл. перапынку, у часе якога Ман. Камісія праверала ўпраўненьні сяброў і дэлегатаў на права голасу на З'езьдзе, старшыня Ман. Камісіі адчытаў пратакол, агалошаваючы правамоцнасьць Агульнага З'езду ЗБВБ.

У Прызыдыюм З'езду былі выбраныя: а.А. Надсон - старшыня, сп. А. Лашук і сп. Я. Сяўковіч - сакратарамі. а. А. Надсон падзякаваў удзельнікам за хуткі выбар Прэзыдыюма, ды заклікаў пленум, каб уважна й цярпліва выслухалі усіх справаздач, посьля якіх, рачова заберaлі голас у дыскусіях над справаздачамі.

Па прыняцьці павесткі З'езду, быў прачытаны пратаколь папярэдняга Агульнага З'езду ЗБВБ. Пратакол быў прыняты без засьцярог.

З'езд выслухаў наступных справаздач: старшыні уступаючай Гал. Управы, Аўдытара, Упраў Аддзелаў ЗБВБ., Адміністратараў дамоў - ЗБВБ., Дапамаговай сэкцыі пры ЗБВБ. ды Наглядной Рады. Із справаздач вынікае, што праяўляецца шмат добрае волі й ахвярнасьці з боку шматлікіх сяброў арганізацыі, асабліва яе актыву.

З дыскусіяў выявілася, што пажаданым есьць, каб Гал. Управа З.Б.В.Б., у меру магчымасьці, часьцей высылала у асяродкі -Аддз. ЗБВБ. прадстаўнікоў, на ладжаныя у асяродках імпрэзы, ды важнейшыя зборкі. Агавараваючы плян працы, зьвернута спэцыяльна ўвагу, каб Гал. Управа распачала прыгатаваньні для выдачы брашуры інфармацыйнае аб ЗБВБ. у ангельскай мове.

Перад выбарамі Гал. Управы, быў зроблены перапынак, каб можна было падмацаваць сілы, посьля З-х гадз. працы З'езду.

Посьля перапынку, распачаліся выбары сяброў Гал. Управы, праз галасаваньне на паданых кандыдатаў, на паасобныя функцыі. Па выбарах выпаў наступны склад сяброў Гал. Управы:

| | | |
|---|---|---|
| Сп. Бутрымовіч Ул. | -старшыня | |
| а.Гарошка Л. | -I заст. старшыні | |
| сп. Калбаса Я. | -II заст. -"- | /Брадфорд/ |
| сп. Лашук А. | -сакратар | |
| сп. Асіповіч П. | -скарбнік | |
| сп. Наваро П. | -сябра Управы | |
| сп. Якімец Ю. | -сябра Управы | |

У Наглядную Раду выбрана: а. Абабурка Я.
а. Надсон А.
сп.Міхалюк Я.

Функцыі падзеляць на паседжаньне першай кантролі. Аўдытарам быў надалей выбраны сп. Джозэф Гаямс.

Закрываючы З'езд, а. Надсон падзякаваў удзельнікам за іх адданасьць беларускай справе, жадаючы плённай працы ў далейшым.

З'езд закончыўся а гадз. 11 ночы, адсьпеваньнем Гімну: Мы выйдзем шчыльнымі радамі.

Божая служба для Праваслаўных.

У нядзелю 27 чэрвеня была адслужаная а. Я. Абабуркам сьв. Літургія для Праваслаўных Беларусаў у доме ЗБВБ. У часе Божае службы, сьпеваў вучнёўскі хор із інтарнату сьв. Кірылы Тураўскага, пад кіраўніцтвам сп. Пікардо.

На Божае службе, апрача учарашніх удзельнікаў Агульнага З'езду сяброў ЗБВБ., прыехала шмат асоб із Лёндану, ды яго ваколіц, а таксама із Кэмбрідж, ды Бірмінгаму.

Гадавыя зборкі сяброў Аддз. ЗБВБ.

Паручаецца Управам Аддз. ЗБВБ. правядзеньне у працягу месяца жніўня, гадавых зборак сяброў Аддз., дзеля інфармацыі аб адбытым Агульным XIX З'езьдзе ЗБВБ., здачы справаздач уступаючых Упраў Аддзелаў, ды выбараў новых Упраў. Пратаколы із гадавых зборак, просіцца прыслаць у Гал. Управу на 15 верасьня гг., для зацьверджаньня.

Сяброўскія білеты.

Паручаецца Управам Аддз. ЗБВБ. сабраць ад сяброў білеты, ды пераслаць іх Гал. Управе для прадоўжаньня іх важнасьці. Сябры, якіх білеты не маюць месца на прадоўжаньне, павінны уплаціць па 1/- за бланкі новых білетаў. Управы Аддз. перакажаць аплаты за білеты разам са сьпіскамі асоб, якім трэба выставіць новыя білеты.

Сябры, якія прыналежаць непасрэдна да Гал. Управы у аплаце сяброўскіх складак, перашлюць свае білеты для прадоўжаньня у Гал Управу. У выпадку патрэбы новага білету, дашлюць аплату 1/- у пісьме у Гал. Управу паштовамі маркамі.

Лёндан, дня 20 ліпень 1965г.

За Гал. Управу ЗБВБ

Сакратар

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52, PENN ROAD, LONDON, N.7.



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ у ВЯЛІКАБРЫТАНІІ
52, Penn Road, LONDON, N. 7

К а м у н і к а т № 1/66

20-ты Звычайны Гадавы З'езд сяброў ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца усіх сяброў ЗБВБ., што 20-ты Агульны гадавы з'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вяліка Брытаніі мае адбыцца ў суботу дня 18 чэрвеня 1966г. Пачатак З'езду а гадз. 4.00 не пазьней гадз. 4.30 па паўдні, у памешканьні дому ЗБВБ. у Лёндане, пад вышэй паданым адрасам. Прапануецца наступны парадак павесткі З'езду: /Пастанова Гал. Управы ЗБВБ. з дня 14 травеня гг./

1. Адкрыцьцё З'езду.
2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прызыдыюма З'езду.
4. Прыняцьцё пратаколу з папярэдняга З'езду.
5. Справаздачы уступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Справаздача Старшыні дапамаговай сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Справаздачы Упраў Аддз. ЗБВБ./Паводле альфавіту/
9. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.
10. Дыскусіі над справаздачамі.
11. Справаздача Наглядной Рады ЗБВБ.
12. Абсалюторыюм для уступаючай Гал. Управы ЗБВБ.
13. Плян працы і буджэт на наступнаю кадэнцыю.
14. Прывітаньні і рэзалюцыі З'езду.
15. Выбары Галновай Гал. Управы ЗБВБ.
16. Выбары Наглядной Рады
17. Назначэньне аўдытара.
18. Розныя справы.
19. Закрыцьцё З'езду-нацыянальны Гімн.

Сябры, або Управы Аддз. ЗБВБ., жадаючыя ўнесьці якія-колечы зьмены да прапанаванае павесткі З'езду, павінны паведаміць Гал. Управу ЗБВБ. прынамся 10 дзён перад З'ездам.

Паведамляецца, што права голасу на З'езьдзе будуць мець толькі тыя сябры, якія аплоцяць сяброўскія складкі уключна за месяц сакавік гг.

Прыязджаючыя на З'езд сябры і дэлегаты, павінны мець із сабой сяброўскія білеты. Хто не маець, павінен перад З'ездам залад-дзіць фармальнасьці атрыманьня у час білету.

Дня 19 чэрвеня ...будуць адслужаныя сьв. Літургіі: для Праваслаўных у беларускім доме, пачатак а гадз. 10.00 раніцай. Сьв. Літургію адслужыць а. Янка Абабурка. Для католікаў будзе адслужаная сьв. Літургія у капліцы "сьв.сьв. Пятра і Паўлы у "Мар'ян гаўс". Пачатак а агдз. 10.30

Посьля Божых служб, у беларускім доме/адрас як вышэй/ будзе скромны пачастунак для прысутных, як удзельнікаў З'езду, таксама для запрошаных на Божыя службы вернікаў.

Посьля пачастунку, адбудзецца даклад.

Заклікаецца сяброў ЗБВБ., каб прыехалі на З'езд, асабліва пражываючых у Лёндане, ды яго ваколіцах, а таксама з далейшых мясцовасьцяў хто зможа.

Лёндан, дня 24 травень 1966г.

За Гал. Управу ЗБВБ.
[signature]
Сакратар

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52, PENN ROAD, LONDON, N.7.
TEL. NORTH 1455

К а м у н і к а т № 1/67

21-шы Звычайны Гадавы Зьезд сяброў і дэлегатаў З.Б.В.Б.

Гэтым падаецца да агульнага ведама й паведамляецца усіх сяброў ЗБВБ., што 21-шы Агульны Звычайны гадавы Зьезд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі мае адбыцца дня 1-га ліпеня 1967 года. Пачатак Зьезду а гадз. 4.00 па паўдні, у памешканьні дому ЗБВБ. ў Лёндане, пад вышэй паданым адрасам.

Прапануецца наступны парадак павесткі Зьезду:/Пастанова Гал. Управы ЗБВБ. з дня 19 чэрвеня гг., прат. № 192/

1. Адкрыцьцё Зьезду і Малітва.
2. Выбыры Мандатнай Камісіі.
3. Выбыры Прызыдыюма.
4. Прыняцьцё пратаколу з папярэдняга Зьезду.
5. Справаздачы уступаючай Гал. Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыі з дзейнасьці дапамаговай сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфармацыі з дзейнасьці Беларускага Клюбу у Манчэстар.
9. Справаздачы Упраў Аддзелаў ЗБВБ./Паводле альфавіту/
10. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ./Паводле альфавіту/
11. Справаздача Юнацкага Клюбу пры Аддзеле ЗБВБ. у Брадфорд.
12. Дыскусіі над справаздачамі.
13. Справаздача Наглядная Рады ЗБВБ.
14. Абсалюторыюм для уступаючай Гал. Управы ЗБВБ.
15. План працы.
16. Выбары новай Гал. Управы ЗБВБ.
17. Выбары Наглядная Рады ЗБВБ.
18. Назначэньне аўдытара.
19. Розныя справы.
20. Закрыцьцё Зьезду -Нацыянальны Гімн.

Сябры, або Управы Аддз. ЗБВБ., жадаючыя унесьці якія-колечы дапаўненьні да прапанаванага парадку павесткі Зьезду, павінны паведаміць Гал. Управу ЗБВБ. прынамся 10 дзён перад Зьездам.

Права голасу на Зьезьдзе будуць мець толькі тыя сябры, якія будуць мець аплочаныя сяброўскія складкі уключна за месяц сакавік 1967 г.

Прыезджаючыя на Зьезд сябры й дэлегаты, павінны мець із сабой важныя сяброўскія білеты.

Дня 2 лепеня гг. будуць адслужаныя сьв. Літургіі: для Праваслаўных у доме ЗБВБ., пачатак а гадз. 10.00 раніцы, а для Каталікоў у капліцы сьв.сьв. апосталаў Пятра й Паўла у "Мар'ян гаўс", а гадз. 10.30 раніцы.

Пасьля Божых служб, у доме ЗБВБ. будзе скромны пачастунак для удзельнікаў Зьезду, ды прысутных на Божых службах вернікаў.

Заклікаецца сяброў ЗБВБ. каб прыехалі на Зьезд, асабліва пражываючых у Лёндане і яго ваколіцах, а таксама з далейшых мясцовасьцяў кто зможа.

Лёндан, дня 3 чэрвень 1967 год.

За Гал. Управу ЗБВБ.
[signature]
Сакратар.

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, LONDON, N.7

К а м у н і к а т Нр.2/67 (62)

21-шы Звычайны Агульны Зьезд З.Б.В.Б.

Сёлета 1-га ліпеня ў Лёнданскім Беларускім Доме было вялікае ажыўленьне. Гэта з усіх адзьдзелаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі зьбіраліся сябры і дэлегаты на свой 21-ы Агульны Зьезд. У назначанай гадзіне папалудні пасьля супольнае малітвы "Ойча наш" старшыня галоўнае ўправы ЗБВБ сп.П.Навара, прывітаўшы ўсіх прысутных, запрапанаваў згодна з парадкам дня выбраць Мандатную Камісію. Яна ў складзе: сп.сп.СтМак, Я.Каўбаса і М.Ясюкевіч, пераглянуўшы картатэку сяброў і лісту прысутных, сьцьвердзіла правамоцнасьць Зьезду.

Далей выбрана Прэзыдыю Зьезду ў складзе: старшыня сп.Я Міхалюк, сакратары - сп.Я.Сеўковіч і сп.М.Яськевіч і яны перанялі кіраўніцтва Зьездам. Падзякаваўшы за давер і за гонар сп.Я Міхалюк прачытаў прысланыя прывітаньні для Зьезду ад беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў, між якімі было двох быўшых старшыняў ЗБВБ. Наступна а.архімандрыт Леў прачытаў пратакол з мінулагодняга Агульнага Зьезду, а за тым адбыліся спрваздачы з дзейнасьці ЗБВБ за апошні год. Заняло-б шмат мейсца, калі-б падаваць хоць кароценькі зьмест кожнае з іх. Але будзе даволі пералічыць іх, каб убачыць, што дзейнасьць ЗБВБ усьцяж расьце і самая арганізацыя разьвіваецца. Вось яны: Аб дзейнасьці галоўнае ўправы падаў справаздачу старшыня галоўнае ўправы сп.П.Навара; аб фінансавым і матэрыяльным стане арганізацыі падаў рапорт аўдытара скарбнік галоўнае ўправы сп.П.Асіповіч; аб дзейнасьці Харытатыўнае Сэкцыі дадаткова да камунікату гэтае Сэкцыі падаў высьненьні старшыня Сэкцыі а.архім.Леў; аб дзейнасьці новастворанага Клюбу пры Мачэстэрскім адзьдзеле ЗБВБ гаварыў сп.М.Ясюкевіч; аб дзейнасьці Брадфордскага адзьдзелу і юнацкага клюбу пры ім прачытаў абшырную справаздачу старшыня сп.Я.Каўбаса; справаздачу мужа даверу з Бэрмінгамскага адзьдзелу сп.Ёўлева прачытаў сакратар гал.упр. сп.А.Лашук; аб дзейнасьці Лёнданскага адзьдзелу прачытаў справаздачу старшыня сп.Я.Міхалюк; з дзейнасьці адзьдзелу ў Манчэстэр падаў кароткую справаздачу дэлегат сп.С.Рагель. Наступна адбыліся справаздачы адміністратараў Беларускіх дамоў: сп.Хв.Лемяшонак - з Брадфорду, сп.П.Навара - з Лёндану, сп.М.Віценьчык - з Манчэстэр(яго справаздачу прачытаў сп.С.Рагель).

Сьледам за справаздачамі адбылася дыскусія над імі. Была яна часам вельмі ажыўленая, але рачовая і яна дапоўніла і так вымоўныя даныя аб жыцьці, росьце і дзейнасьці ЗБВБ. Не прамоўчвалі так-жа і недахопаў. На іх, побач з асягненьнямі зьвярнула ўвагу так-жа і Наглядная Рада ў сваім рэвізійным пратаколе, які прачытаў старшыня сп.Я.Міхалюк. Прапанову Нагляднае Рады прызнаць уступаючай галоўнай управе абсалютoрыя з падзякай Зьезд прызнаў аднагалосна.

У дыскусіі над плянам працы асаблівая ўвага была зьвернена на падрыхтоўку належнага азначэньня ў наступным годзе 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, а так-жа на азначэньне іншых нацыяльных сьвятаў. Парушана так-жа пытаньне патрэбы набыцьця дому ў Бэрмінгам і зьвернена ўвагу на больш блізкі кантакт між сябрамі галоўнае ўправы і адзьдзеламі.

Пасьля кароткага перапынку і падвячорку Зьезд стаў перад важным і заўсёды клапатлівым пытаньнем - выбарам новае галоўнае ўправы, бо-ж усе сябры выконваюць бясплатна грамадзкую працу як

дадатак да свае цяжкае заработнае працы, таму ня раз можна было пачуць пры нагодзе выбараў: "Прашу зьняць маю кандыдатуру". Але гэтым разам выбрана галоўную ўправу бяз лішніх дыскусіяў у такім складзе: старшыня - сп.П.Навара,

заступнік старшыні - а.архім. Леў,

сакратар - сп.Я.Міхалюк,

скарбнік - сп.П.Асіповіч.

А Наглядная Рада выбрана ў такім складзе: а.А.Надсон, а.Я. Абабурка і сп.Я.Сяўковіч.

Аўдытарам ад часу залегалізаваньня ЗБВБ зьяўляецца сп. Джозэф Гаймс ; - ён-жа быў назначаны і на далей.

У розных справах былі прачытаны і аднаэгодна прыняты гучнымі воплескамі Рэзалюцыі. Наступна яшчэ раз парушана некаторыя пытаньні зьвязаныя з азначэньнем 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, як набыцьцё адпаведнае літаратуры, сувэніраў і пад.

Закончана Зьезд у бадзёрым настрою з надзеяю на лепшую будучыню - агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну.

З нагоды Зьезду ў нядзелю 2-га ліпеня былі адпраўленыя ўрачыстыя Службы Божыя - для праваслаўных служыў а.Я.Абабурка ў Беларускім Доме; для каталікоў - а.архімандрыт Леў у Марыйскім Доме.

## ВЕЧАР ПАЭЗІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

З нагоды 50-ых угодкаў сьмерці М.Багдановіча лёнданскі аддзел ЗБВБ супольна з рэдакцыяю ангельскага паэтычнага часапісу MANIFOLD быў наладжаны 6-га чэрвеня ў салі Беларускага Хлапцоўскага Інтэрнату ім.сьв.Кірылы Тураўскага літаратурны вечар, на якім ведамая перакладчыца беларускае паэзіі сп-ня Вера Річ прачытала зьмястоўны рэфэрат аб жыцьці і творчасьці беларускага паэта М.Багдановіча. Рэфэрат быў ілюстраваны мастацкім чытаньнем вершаў М.Багдановіча ў ангельскім перакладзе тое-ж сп-ні В.Річ - выканалі іх здольныя дэклямататары. Так сам рэфэрат, як і дэклямацыі былі на высокім узроўні, за што ўсім выканаўцам належыцца шчырае прызнаньне.

## КАНЦЭРТ БЕЛАРУСКАЕ МУЗЫКІ

Беларуская Хлапцоўская Школа ім.сьв.Кірылы Тураўскага ў Лёндане ладзіла I8-га чэрвеня канцэрт у сваёй салі. Маладыя выканаўцы - вучні Школы - пад кіраўніцтвам а.Робэрта Тамушанскага, выканалі цэлы рад беларускім мэлёдыяў: на жалейках, у аркестры і хорам. У міжчасе, калі зьмяняліся выканаўцы на сцэне, там-жа апавядаліся вясёлыя дыялёгі. Усе прысутныя на канцэрце разыходзіліся з добрым уражэньнем.

## БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ У ЛЁНДАНЕ

Запачаткаваны ад некалькі гадоў у Марыйскім Доме Беларускі Музэй і які мясьціўся ў адным стэндзе, нядаўна атрымаў асобны пакой у доме Нр.39 Holden Rd. London, N.12.

# РЭЗАЛЮЦЫІ
# 2І-га АГУЛЬНАГА ЗЪЕЗДУ ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
## З І-га ліпеня 1967 году

## РЭЗАЛЮЦЫЯ АБ ПАЛАЖЭНЬНІ НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Мы, беларуская эміграцыя ў Вялікай Брытаніі, як і ўся беларуская эміграцыя, што жыве ў вольным сьвеце, жывём так-жа жыцьцём усяго беларускага народу. Мы цешымся ўсімі асягненьнямі і здабыткамі нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне, але мы так-жа падзяляем усе іхныя цярпеньні і нядолю. На вялікі жаль вельмі рэдка даходзяць з Бацькаўшчыны радасныя весткі, бо ад калі заіснавала бальшавіцкая ўлада і да сёньняшняга дня, усюды, дзе яна ўзяла верх, у кожнай галіне жыцьця пануе прыгнобленьне і зьдзек клікі верхаводаў над падуладнымі, але навонках вядзецца крыклівая прапаганда аб свабодным і шчасьлівым жыцьці. Але ніякая прапаганда ня можа зьмяніць сапраўднага палажэньня, якое выглядае так:

Да гэтага часу большая частка беларускага этнаграфічнага абшару знайходзіцца па-за межамі БССР.

Увесь дзяржаўны апарат Савецкае Беларусі ёсьць бязвольнаю марынэткаю ў руках маскоўскіх валадароў. Такою-ж марынэткаю ёсьць дэлегацыі ад БССР у Аб'еднаных Нацыях і ЮНЭСКО.

Усе эканамічныя багацьці Беларусі эксплаатуюцца па грабежніцку.

Беларускае сялянства сіламоц загнанае ў калгасы церпіць горшы зьдзек і бядоту, як калісь пры паншчыне, за выняткам толькі некалькі калгасаў на паказ.

У Савецкай Беларусі, больш чым дзе, вядзецца ўзмоцненае прасьледаваньне рэлігіі. З калішніх пяцёх праваслаўных епархіяў асталася толькі адна, а каталікі ня маюць ніводнага біскупа, пры тым ува Усходняй Беларусі няма нават ніводнага каталіцкага сьвятара. Ад 1958 г. масава закрываюцца сьвятыні ўсіх веравызнаньняў і зачынена адзіную праваслаўную Духоўную Сэмінарыю ў Жыровічах.

Пад рознымі прэтэкстамі руйнуюцца выдатныя памяткі беларускае культуры.

Фальшуецца беларуская гісторыя.

Узмоцненым тэмпам вядзецца русыфікацыя Беларусі. Уся адміністрацыя, судаўніцтва, выклады ўва ўсіх вышэйшых навучальных установах вядуцца толькі парасейску, хоць на паперы беларуская мова лічыцца дзяржаўнаю моваю. На агульны лік І64 розных пэрыёдыкаў аж 55 выдаецца парасейску, пры тым уканцы І962 г. усе тыя пэрыёдыкі, якія мелі паралельныя выданьні ў двох мовах, спынена беларускія выданьні.

Беларускую моладзь масава высылаецца ў небеларускія абшары з тым, каб яны там асталіся, а на Беларусь прысылаюцца расейцы.

Усе гэтыя і шматлікія іншыя крыўды і зьдзекі беларускі народ мусіць пераносіць моўчкам, бо ён пазбаўлены свабоды слова і абстаўлены густою сеткаю агентаў МВД.

Усе гэтыя бясчынствы робіць камуністычная партыя, бо яе верхаводы ёсьць дыктатарамі ў краю. І гэтыя дыктатары ўжываюць усіх спосабаў, каб у вольным сьвеце было ведама якнайменш аб тых бясчынствах.

# ПРАТЭСТ

## СУПРАЦЬ ЗЬДЗЕКАЎ БАЛЬШАВІЦКАЕ ЎЛАДЫ НАД БЕЛАРУСКІМ НАРОДАМ

Таму што эміграцыя ёсьць непадзельнаю часткаю ўсяго Беларускага Народу, дзеля гэтага яна можа і мусіць быць амбасадарам народу ў вольным сьвеце; несьці праўду аб жыцьці і цярпеньнях народу на Бацькаўшчыне. Тымчасам эміграцыя ня можа зрабіць нічога больш, як голасна выказаць перад усім сьветам свой рашучы пратэст супраць зьдзекаў і гвалтаў бальшавіцкае ўлады над беларускім народам на Бацькаўшчыне.

Таму мы, беларусы з Вялікае Брытаніі, сабраўшчыся на 2І-шы Алульны Зьезд:

рашуча пратэстуем супраць інкарпарацыі вялікае часткі беларускага этнаграфічнага абшару ў чужыя рэспублікі;

мы пратэстуем супраць марыянэтачнае дэлегацыі БССР у Аб'еднаных Нацыях і ЮНЭСКО і дамагаемся сапраўднае беларускае дэлегацыі ў гэтыя найвышэйшыя міжнародныя арганізацыі і ўва ўсе іхныя адзьдзелы;

мы пратэстуем супраць грабежніцкае эксплуатацыі прыродных багацьцяў Беларусі;

мы пратэстуем супраць прасьледаваньня рэлігіі і масавага закрываньня сьвятыняў;

мы пратэстуем супраць руйнаваньня памяткаў беларускае культуры і супраць фальшаваньня беларускае гісторыі;

мы пратэстуем супраць усіх мерапрыемстваў русыфікацыі Беларусі і супраць дыскрымінацыі беларускае мовы ў адміністрацыі, у прэсе і ў вышэйшых навучальных установах;

мы пратэстуем супраць зьдзекаў з сялянства ў калгасах і саўгасах;

мы пратэстуем супраць высыланьня беларускае моладзі ў Казахстан і Сібір і супраць насыланьня расейцаў у Беларусь;

мы пратэстуем супраць дыктатуры аднае партыі;

мы пратэстуем супраць пазбаўленьня беларускага народу свабоды слова і свабодных выбараў.

Мы зьвяртаемся да ўсіх людзей добрае волі з гарачым заклікам далучыць свой голас да гэтага нашага пратэсту, каб праз гэта спыніць бясчынствы бальшавікоў ня толькі ў Беларусі, але і на ўсіх іншых абшарах.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ АБ ДЗЕЙНАСЬЦІ САВЕЦКІХ АГЕНТАЎ СУПРАЦЬ ЭМІГРАЦЫІ

Савецкая прапаганда ўсялякімі спосабамі старалася і стараецца ачорніваць беларускую эміграцыю, прыпісваючы ёй розныя злачынствы, якія нібыта яна мела зрабіць падчас нямецкае акупацыі Беларусі. Вось-жа ў імя праўды мы заяўляем, што сучасныя эмігранты калісьці першыя рабілі ўсё магчымае, каб бараніць беларускі народ ад назістоўскіх напасьцяў і за гэта няраз самі былі ахвярамі назістоўскіх жарстокасьцяў.

Першымі-ж і найбольш дзейнымі супрацоўнікамі нямецкіх назістаў былі былыя польскія ўрадоўцы. З першых-жа дзён акупацыі Беларусі немцамі яны самі зглошваліся да нямецкіх ваенных уладаў і прапанавалі ім свае паслугі. Гэткія чынам асабліва ў Заходняй Беларусі кадры паліцыі, адмінстрацыі, перакладчыкаў і сакратарак пры ваенных камандантах былі перапоўнены палякамі. І яны сваімі даносамі, а часам нават сваімі рукамі, вынішчалі беларускі актыў. Каб бараніцца ад іх і каб весьці змаганьне за волю Беларусі неаб-

ходна было твары́ць свае кадры адміністрацыі нават і ў тых вузкіх рамках, на якія дазваляла нямецкая акупацыйная ўлада, бо тольні людзі на адміністрацыйных становішчах маглі заступацца за сваіх суродзічаў перад нямецкімі ўладамі, што яны і рабілі часта рызыкуючы сваім жыцьцём. І аб усіх гэтых фактах савецкая прапаганда чамусьці не заікаецца ні адным словам.

Затое савецкая прапаганда насьміхаецца з беларусаў нацыяналістаў, што яны і ў адміністрацыі і ў іншых установах мацна залежалі ад немцаў. Так было сапраўды. Але пры іншых нагодах тая-ж савецкая прапаганда прыпісвае якраз тым залежным ад немцаў беларусам злочыны, якія маглі рабіць толькі спэцыяльныя нямецкія аддзелы. Дзе-ж тады лёгіка? Хто забіў, а каго судзяць?!

Вынішчэньне каля 2-х мільёнаў жыхароў Беларусі ў часе нямецкае акупацыі ёсьць страшэннаю крываваю ранаю і застанецца назаўсёды глыбока ў памяці народу. І ў імя праўды мы прыпамінаем, што беларускі нацыянальны актыў рабіў усё магчымае, каб ратаваць беларускае насельніцтва, але затое маскоўскія агэнты ў радох партызанаў былі найбольшымі правакатарамі масавага зьнішчэньня беларускіх вёсак. Гэта яны каля некаторых вёсак наўмысна рабілі нейкі сабатаж ці напад на нямецкія вайсковыя часьці, каб праз гэта сьцягнуць туды нямецкія карныя адзьдзелы. Таму мы заяўляем, што беларускі народ побач з нямецкімі карнікамі не забудзецца так-жа і аб тых правакатарах і аб належнай кары для іх.

Прыпамінаем так-жа, што яшчэ да вайны і пасьля вайны савецкія энкавэдысты і цяпер эмвэдысты вынішчылі амаль два мільёны беларусаў. Цяпер савецкія верхаводы звальваюць віну за тыя жудасныя масавыя злачынствы на людзей з-пад знаку "культу асобы", але да гэтага часу нікога за тыя злачынствы не пакарана. Пытаемся: дзе-ж справядлівасьць?

Ад некаторага часу савецкія агэнты запрашаюць паасобных беларускіх эмігрантаў адведаць сваіх родных на бацькаўшчыне. Пэўна-ж, міла адведаць сваіх блізкіх і свой родны кут. Але савецкія агэнты стараюцца выкарыстаць такія адведзіны, каб упрэгчы тых адведвальнікаў у нявольнае, ці нават дабравольнае супрацоўніцтва з імі, трымаючы пад пагрозаю долю тых, каго адведвалі на бацькаўшчыне. Таму асьцерагаем усіх перад гэткаю небясьпекаю.

- - - - - -

Уканцы, мы беларускія эміграны ў Вялікай Брытаніі падобна як і ўся беларуская нацыянальная эміграцыя ў вольным сьвеце, заяўляем, што мы не хавалі і цяпер не хаваем нашае дзейнасьці. Мы маем на мэце вярнуцца ў Бацькаўшчыну- у вольную і незалежную Беларусь. Дзеля гэтага мы і знайшліся на эміграцыі. Мы не шкадавалі і не шкадуем ніякіх высілкаў і ахвяраў, каб Беларусь была вольнаю і незалежнаю дзяржаваю ў этнаграфічных граніцах. І мы верым, што гэты сьветлы дзень прыйдзе. І тады Беларускі Народ аддасьць кожнаму адпаведна да яго дзейнасьці.

Лёндан, дня І-га ліпеня 1967 г.

ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52, Penn Road, LONDON, N.7.

КАМУНІКАТ Нр.63

Лёндан 20-га жніўня 1967 г.

Новая Пастанова аб сплаце пазыкаў за куплю дамоў

Нядаўна Брытыйскі Парлямант выдаў новую Пастанову адносна пазыкаў на будаўніцтва, на якую лічым сваім абавязкам зьвярнуць увагу ўсіх нашых суродзічаў. Гэтая пастанова называецца: Housing Susidies Act, 1967 - Option Mortgage Scheme.

Яна дае дзьве магчымасьці ўсім жыхаром Вялікае Брытаніі, якія пазычылі ці пазычаюць грошы на куплю дому ў Building Society, Insurance Companies ці ў іншых падобных установах - або надалей плаціць працэнты ад пазыкі, як і дагэтуль і як дагэтуль мець зьніжку ад падатку, - або злажыць паданьне ў тыя інстытуцыі, у якіх пазычана грошы, каб плаціць працэнты ад пазыкі паводля зьніжковае тарыфы і ня мець ніякае зьніжкі ад падатку.

Гэтая пастанова Парляманту ўзгляднівае той факт, што асобы, якія маюць малы даход, або вялікія сем'і і плацяць працэнт ад пазыкі на дамы, вельмі часта мусяць плаціць сумы, якія перавышаюць увесь іхны даход і таму гэтая плата для іх ёсьць многа большым фінансавым цяжарам ніж для тых асобаў, якія маюць большы даход і плацяць падатак 0-8-3 за кожны £ даходу.(Даход падлягаючы падатку 0-8-3 ад £ пачынаецца ад сумы, за якую плоціцца £ 80 падатку!.

Паводля новае пастановы Парляманту можна будзе плаціць зьніжаны працінт на 2% (нармальна плаціцца ад 6% да $7\frac{1}{8}$%) і сплаціць доўг хутчэй, або папрасіць, каб зьменшылі месячныя сплаты прыблізна на шостую частку ($^1/_6$) і сплачваць пазыку ў тым часе, як папярэдне ўзгоднена з пазыкадаўцам.(Building Society ці іншаю падобнаю ўстановаю). Цяпер пераважна плаціцца $7\frac{1}{8}$% і таму зьменшаны працэнт будзе $5\frac{1}{8}$% - гэта значыць кожны год будзе менш на £ 20 ад £ I.000 пазыкі.

Асобы, якія сплачваюць раты свае пазыкі I.IX, мусяць пераслаць выпаўнены фармуляр (FORM OMI і 13 HSA) не пазьней 3I.XII.I967 у тую ўстанову, ад якое маюць пазыку.(Building Society)

Калі-б гаспадарчы год Building Society канчаўся 30.X, ці 3I.XI, або 30.XII- I967 г., тады фармуляры трэба пераслаць перад канцом гаспадарчага году. Значыць, хто мае пазыку ў нейкай фінансавай установе, у якой гаспадарчы год канчаецца 30.IX(верасьня)I967 г. дык асталося вельмі мала часу. Таму неабходна чым хутчэй выпаўніць фармуляры і пераслаць іх у установы, якія далі пазыку.

Беларусы, каторыя плацяць вельмі малы падатак, або зусім яго ня плацяць, - для іх бяз сумніву будзе больш карысна плаціць зьменшаны працэнт пры сплаце пазыкаў. Але для тых асобаў, якія плацяць крыху большы і вялікі падатак - каб сказаць як ім выгадней плаціць, трэба ўзгляднціь: сямейны стан, асабісты век, век дзяцей, ці ёсьць іншы даход акрамя ўласнага заработку, даход ад лякатараў і т.д. Тут вельмі цяжка падаць усе належныя інфармацыі. Але ўжо шмат каму Building Society прыслала інфармацыйную брашурку: YOUR GUIDE TO THE OPTION MORTGAGE SCHEME. У гэтай кніжцы ёсьць патрэбныя для выпаўненьня фармуляры. Усім беларусам, якія маюць пазыкі, радзіцца дакладна прастудыяваць гэтую малую кніжку і яшчэ дадаткова зьвярнуцца па інфармацыі да

кагосьці кампэтэнтнага, напрыклад да Accountant'а падаючы яму весткі аб даходзе з папярэдніх гадоў і спадзяваным даходзе ў будучыні і ўсе асабістыя і сямейныя даныя. Пры тым зьвяртаем увагу, што ня ўсе адвакаты могуць быць добрымі раднікамі ў гэтай справе, бо бальшыня з іх мала паінфармаваная ў справе падаткаў.

Галоўная Управа ЗБВБ зьвяртае асаблівую ўвагу ўсіх беларусаў, якія маюць пазыкі, зьвязаныя з купляю дамоў, каб дакладна пераглянулі свае абставіны адносна пазыкі і толькі там, дзе будзе выгадней, каб скарысталі з магчымасьці плачэньня зьменшаных працэнтаў ад пазыкі і каб дзеля гэтага своечасова перасылалі, куды трэба, належна выпаўненыя фармуляры. Толькі ў свaім часе перасланыя фармуляры ў Building Society ці іншыя падобныя ўстановы, будуць узятыя пад увагу. Гэтыя фармуляры будуць перасланыя тымі ўстановамі ў Міністэрства Скарбу. У выпадку, калі-б потым сталіся якія асабістыя зьмены, УЖО БУДЗЕ НЕМАГЧЫМА АДКЛІКАЦЬ АБО УНЯВАЖНІЦЬ ФАРМУЛЯР, ПАПЯРЭДНЕ ПЕРАСЛАНЫ Ў МІНІСТЭРСТВА СКАРБУ аж да часу поўнае сплаты пазыкі. Гэта так-жа неабходна мець на ўвеце, выпаўняючы фармуляр.

Галоўная Управа ЗБВБ.

К А М У Н К А Т
ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52, Penn Road, LONDON, N.7.

Нр. 64. Л ё н д а н 18-га сьнежня 1967 г.

ГАЛОЎНАЯ УПРАВА З.Б.В.Б. ЖАДАЕ УСІМ СУРОДЗІЧАМ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНІХ СЬВЯТАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ.

ПЕРАВЫБАРЫ Ў АДЗЬДЗЕЛАХ ЗБВБ

На агульнай Гадавой Зборцы адзьдзелу Брадфорд 23-га ліпеня пасьля справаздачы ўступаючае ўправы і прызнаньня ёй абсалюторыі выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня - сп.Я.Калбаса, сакратар - сп.Ст.Мак,скарбнік - сп.А.Калько, сябра ўправы - сп. А.Сасна, адміністратар Дому - сп.Хв.Лемяшонак.

У Лёнданскім адзьдзеле Гадавая Зборка адбылася 1-га кастрычніка. Пасьля справаздачы ўступаючае ўправы і дыскусіі над ёю выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня - сп.Я.Сеўковіч, сакратар - сп.А.Лашук, скарбнік - А.Шацько. Намечана так-жа плян працы на будучыню.

Адзьдзел у Манчэстэр Гадавую Зборку меў 6-га жніўня. На Зборцы прысутнічаў так-жа сакратар Галоўнае Управы сп.Я.Міхалюк. З справаздачы відаць было, што за мінулы год арганізацыйнае жыцьцё адзьдзелу значна ажывілася. У новую ўправу выбрана: старшыня - сп.Хв.Кажаневіч, заступнік старш.- сп.Ул.Гінько, сакратар - сп. М.Яськевіч, скарбнік - сп.М.Віценьчык.

У Бэрмінгаме мужам даверу і далей зьяўляецца сп.М.Бўлеў.

УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ КАМУНІЗМУ

Сёлета ў зьвязку з 50-ымі ўгодкамі кастрычніцкае рэвалюцыі ў Расеі, грамадзтва Вялікае Брытаніі належна ўшанавала памяць 94 мільёнаў людзкіх ахвяраў, якіх закатавалі камуністы ўва ўсіх тых краінах, дзе яны дарваліся да ўлады. Урачыста-жалобная Акадэмія адбылася ў Royal Albert Hall 31-га кастрычніка а 8-ай гадзіне вечара з удзелам нацыянальных прадстаўнікоў ад усіх краінаў (ажно 20), дзе сёньня валадараць камуністы. Сцэна была адпаведна ўдэкаравана напалову спушчанымі нацыянальнымі сьцягамі. У праграму Акадэміі ўваходзілі: прамова лёрда С.Освальда і кароткія прамовы прадстаўнікоў ад кожнае нацыянальнае групы з адпаведнымі мастацкімі выступленьнямі большых нацыянальных групаў.

Ад імені беларусаў гаварыў старшыня ЗБВБ сп.П.Навара, затым хор беларускіх хлопцаў з Лёндану адсьпяваў "Магутны Божа" і "Вечная памяць". Акрамя таго беларускія дзяўчаты ў нацыянальных касьцюмах памагалі арганізатарам распаўсюджваць праграмы,а прадстаўнікі ITV узялі кароткія інтарв'ю ад а.архімандрыта Льва і ад аднаго хлапца з хору.

Прамова сп.П.Навары надрукована ў справаздачы аб урачыстасьці ў East West Digest Vol.III, Nr.12.

АКАДЭМІІ Ў ЧЭСЬЦЬ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

З нагоды 47-ых угодкаў Слуцкага збройнага чыну Лёнданскі адзьдзел ЗБВБ ладзіў акадэмію 26-га лістапада ў памешканьні Беларускага Дому. На праграму Акадэміі зложыліся: рэфэрат сакратара адзьдзелу сп.А.Лашука і артыстычнае чытаньне нашых ангельс-

кіх сяброў: сп-чні В.Річ, сп-чні Діяны, сп-ні М.Річ і сп.Дж.Нікольсона беларускіх вершаў у ангельскім тлумачэньні. Зьмест вершаў быў удала дабраны да праграмы акадэміі.

Пасьля адбылося сяброўскае прыняцьце.

Таго-ж дня ўшанавалі памяць случчакоў у Брадфордзе.

У Манчэстэр акадэмія ў чэсьць Слуцкага Паўстаньня адбылася І0-га сьнежня. У праграму акадэміі ўваходзілі: кароткі рэфэрат аб значэньні Слуцкага збройнага чыну і чытаньне аб гісторыі тае падзеі з брашуры Пр.Каваля.

У БРЫТЫЙСКАЙ РАДЗЕ ПОМАЧЫ ЎЦЕКАЧОМ

На гадавой Зборцы Брытыйскае Рады Помачы ўцекачом, якая адбылася 30.XI у Кокстэн Гол ад імені ЗБВБ удзельнічаў заступнік старшыні ЗБВБ а.архім. Леў Гарошка.

ЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСАВЕДЫ

Падобна як ў мінулым годзе Англо-Беларускае Таварыства сёлета наладзіла цыкл лекцыяў з беларускае літаратуры і мастацтва ў памешканьні

Да гэтага часу прачытана наступныя лекцыі:

І7.XI - Беларускія вучоныя ў Заходняй Эўропе ад XУ да XУII ст. чытаў сп.Гай Пікарда.

24.XI - Арганізацыя і адміністрацыя юстыцыі ў Беларусі за часоў Вялікага Княства; чытаў сп.Гай Пікарда;

I.XII - Адраджэньне славяншчыны ў беларускай літаратуры XУII ст. чытаў а.А.Надсон.

У наступным годзе яшчэ будуць прачытаны лекцыі:

26.I - Граматычныя зьмены ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. - праф.Р.Г. дэ Брэй.

23.II - Аляксандар Рыпінскі - жыцьцё і творчасьць пісьменьніка І9 ст. - др.М.Л. Даніловіч.

СКАРЫНІНСКАЯ ВЫСТАЎКА

Для азначэньня 450 угодкаў беларускага друку і для ўшанаваньня памяці першага беларускага друкара д-ра Францішка Скарыны адчынена выстаўку фотаздымкаў, кнігаў і часапісаў з адпаведнымі артыкуламі ў памешканьні Беларускага Музэю ў Лёндане 39 Holden Road, N.12 . Выстаўка будзе адчынена да 3І.XII.

ЯЛІНКІ

Ужо ўвайшло ў традыцыю беларусаў у Англіі сустракаць Калядныя Сьвяты і Новы Год пры супольных ялінках. Дык і сёлета для беларусаў з Лёндану школа сьв.Кірылы Тураўскага і Лёнданскі адзьдзел ЗБВБ ладзяць ялінку ў нядзелю І7.XII у памешканьні Школы. А беларусы ў Манчэстэр плянуюць дзьве ялінкі: для моладзі стараньнем Беларускага Клюбу ялінка адбудзецца 6-га студзеня, а для дарослых стараньнем адзьдзелу ЗБВБ у нядзелю 7-га студзеня.

АДВЕДЗІНЫ ХВОРЫХ

Старшыня галоўнае ўправв ЗБВБ сп.П.Навара адведаў хворых беларусаў, якія ўжо даўжэйшы час знайходзяцца ў шпіталі ў Эпсон і ня маюць ні родных ні прыяцялёў у Англіі.

БРАШУРА АБ СЛУЦКІМ ПАЎСТАНЬНІ

Стараньнем Галоўнае ўправы ЗБВБ выдана на ратататары брашуру Пр. Каваля аб гісторыі Слуцкага збройнага чыну. Яе можна купіць па 2 шыл. у канцылярыі Галоўнае ўправы.

ЮБІЛЕЙНЫЯ КАНВЭРТЫ

Брадфордскі адзьдзел ЗБВБ выдаў юбілейныя канвэрты з нагоды 50-ых угодкаў БНР. Хто жадае іх набыць, хай зьвяртаецца на адрас: Mr.J.Kalbasa, 14 Southey Place, Bradford 3.

## У АДЗЬДЗЕЛАХ ЗБВБ.

Брадфордскі і Манчэстэрскі адзьдзелы ЗБВБ 24-га Сакавіка супольна ладзілі Акадэмію ў Беларускім Доме ў Манчэстэры ў чэсьць 50-ых угодкаў абвешчаньня Б.Н.Р. Таго дня раніцаю а.Янка Абабурка адслужыў сьв.Літургію, а папалудні адбылася Акадэмія. Яе адчыніў старшыня Манчэстэрскага адзь.ЗБВБ сп.Кажаневіч і прачытаў прысланыя прывітаньні, а старшыня Брадфордскага адзьдз. сп.Я.Каўбаса адчытаў Дэкларацыю Б.Н.Р. Рэфэрат аб 50-ці гадовым шляху Акту 25-га Сакавіка прачытаў сакратар галоўнае ўправы ЗБВБ сп.Я.Міхалюк. Ад імені англійскіх госьцяў прамаўлялі: сп.Джон Грагам і сп. Вільсон. Наступна адбылася мастацкая частка Акадэміі, праграму якое выканаў царкоўны хор БАПЦ у Манчэстэры, чаргуючы свае нумары з акордыяністам сп.Антонам Мучынскім і дуэтамі а.Янкі Абабуркі з сужонкаю і з сп-няю Л.Рудзінскаю. З дэкламацыямі беларускіх вершаў выступаў сп. Ігнацік. На заканчэньне Акадэміі ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн. Затым Беларускі Манчэстэрскі Клюб ахвяраваў пачастунак усім прысутным.

## СКАРЫНІНСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў МАНЧЭСТЭРЫ

Выстаўка, прысьвечаная 450-годзьдзю пачатку беларускага друку і беларускага першадрукара д-ра Францішка Скарыны наладжаная ў Беларускім Музэю ў Лёндане мела немалы посьпех і таму ня дзіва, што Манчэстэрскі адзьдзел ЗБВБ пастараўся яе перавезьці да сябе на на два месяцы (люты і скавік) у Беларускі Клюб. З гэтае нагоды 3-га сакавіка а.архімандрыт Леў Гарошка меў даклад у Беларускім Клюбе аб жыцьці і дзейнасьці д-ра Фр.Скарыны і пасьля дакладу адказваў на запытаньні слухачоў.

Згодна з беларускаю традыцыяю для азначэньня так важных угодкаў Беларускі Клюб наладзіў для прысутных сытны пачастунак, у часе якога за сталом залунлі доўганезмаўкаючыя беларускія песьні. Гэты дзень пакінуў у прысутных памятны і прыемны ўспамін.

## НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ

З нагоды візыты ў Англіі старшыні European Freedom Council сп.Оле Б'ёрн Крафт у таварыстве Данскае Парлямэнтарнае дэлегацыі ў Лёндане была наладжана прыхільнікамі Эўрапэйскае Рады Міру ў яго чэсьць прыняцьце, на якім удзельнічала дэлегацыя ад ЗБВБ.

Управа ангельскага адзьдзелу Міжнароднае Сацыяльнае Службы мела 3-га красавіка ў Лёндане Гадавы Сход, на якім ад галоўнае ўправы ЗБВБ быў прысутны заступнік старшыні.

Камітэт Паняволеных Народаў у Брадфордзе, да якога належаць: беларусы, латышы, летувісы, мадзяры, палякі і украінцы, ладзіў 18-га траўня канцэрт з нагоды 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці тых народаў.

## БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ

Хлапцоўская Беларуская Школа ім.сьв.Кірылы Тураўскага ў Лёндане ладзіць 30-га чэрвеня а гадз.3.00 па палудні свой гадавы Канцэрт. Прагарама будза складацца з выступленьняў хору, аркестры і дэкламацыяў. Канцэрт адбудзецца ў школьнай салі 39 Holden Rd,, London, N.12.

# К А М У Н І К А Т

## ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ Ў ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52 Penn Road, LONDON, N.7

Нр. 65 Л ё н д а н 30-га траўня 1968 году

### 22-і ЗВЫЧАЙНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД СЯБРОЎ І ДЭЛЕГАТАЎ З.Б.В.Б.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 22-і Агульны Звычайны Гадавы Зьезд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі мае адбыцца дня 29-га чэрвеня 1968 году. Пачатак Зьезду а гадзіне 3,30 па паўдні, у памешканьні Дому ЗБВБ у Лёндане пад вышэй паданым адрасам.

Прапануецца наступны Парадак Дня(Пастанова Галоўнае ўправы ЗБВБ з дня 3,У,68; прат.Нр.198):

1. Адкрыцьцё Зьезду і малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма.
4. Прыняцьцё пратаколу з папярэдняга Зьезду.
5. Справаздачы ўступаючае галоўнае ўправы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыі з дзейнасьці Харытатыўнае Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфармацыі з дзейнасьці Беларускага Клюбу ў Манчэстэр.
9. Справаздачы ўправаў адзьдзелаў ЗБВБ(паводля альфабэту).
10. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ(паводля альфабэту).
11. Інфармацыі Юнацкага Клюбу пры адзьдзеле ЗБВБ у Брадфорд.
12. Дыскусіі над справаздачамі.
13. Справаздача Наглядная Рады ЗБВБ.
14. Абсалюторыюм для ўступаючае Галоўнае Управы ЗБВБ.
15. Плян працы.
16. Выбары новае Галоўнае Управы ЗБВБ.
17. Выбары Наглядная Рады ЗБВБ.
18. Назначэньне аўдытара.
19. Розныя справы.
20. Закрыцьцё Зьезду - Нацыянальны Гымн.

Управы адзьдзелаў і сябры, якія жадаюць унесьці нейкія дапаўненьні прапанаванага парадку дня, павінны паведаміць аб гэтым Галоўную Управу ЗБВБ прынамся 10 дзён перад Зьездам.

Права голасу на Зьезьдзе будуць мець толькі тыя сябры, якія будуць мець заплочаныя сяброўскія складкі да сакавіка 1968 г.уключна.

Едучы на Зьезд, сябры і дэлегаты, павінны мець з сабою важныя сяброўскія білеты.

Дня 30-га чэрвеня гг. будуць адслужаны сьв.Літургіі: для праваслаўных у доме ЗБВБ а гадз.10,00 раніцы, а для каталікоў у капліцы сьв.апост.Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўс а гадз.10.30 раніцы.

Пасьля сьв-ых Літургіяў у Доме ЗБВБ будзе скромны пачастунак для ўдзельнікаў Зьезду і прысутных на багаслужэньнях вернікаў.

Удзельнікі Зьезду будуць мець нагоду паслухаць Беларускі Канцэрт вучняў Беларускае Школы ім.сьв.Кірылы Тураўскага 30-га чэрвеня а гадз.3.00 па палудні і аглянуць выстаўку:"50 годзьдзе Беларускае Народнае Рэспублікі" ў Беларускім Музэі.

Галоўная Управа ЗБВБ заклікае ўсіх сяброўпрыехаць на Агульны Зьезд - выканаць свае сяброўскія абавязкі.

За Галоўную Управу ЗБВБ.

Я. Міхалюк

Сакратар.

50-ыя УГОДКІ АБВЕШЧАНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Б.Н.Р.

Для належнае інфармацыі аб 50-ых угодках абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі галоўная ўправа ЗБВБ выдала сёлета на пачатку сакавіка брашуру: The Proclamation of Byelorussian Independence 25th of March 1918.

АКАДЭМІЮ ў чэсьць 50-ых угодкаў абвешчаньня Б.Н.Р. Лёнданскі адзьдзел ЗБВБ ладзіў 24-га сакавіка. Таго дня раніцаю былі адпраўлены Службы Божыя: для праваслаўных - у украінскай царкве, а для каталікоў - беларускай капліцы Айцоў Марыянаў. Папалудні адбылася ўрачыстая акадэмія ў салі Беларускае Хлапцоўскае Школы ў Лёндане. Адчыніў Акадэмію старшыня Лёнданскага Адзьдзелу ЗБВБ сп.Я.Сеўковіч, вітаючы прысутных пабеларуску і паангельску. Рэфэрат аб гісторыі і значэньні Сакавіковага Акту прачытаў сп.А.Лашук. Затым прамаўляў сп.Обэрон Гэрбэрт. Наступна адбылася мастацкая частка Акадэміі, якую выканалі вучні Беларускае Хлапцоўскае Школы ў Лёндане ім. сьв.Кірылы Тураўскага.

Закончылася Акадэмія прыгожа наладжаным прыняцьцем.

Мяйсцовая ангельская газэта Finchley Times падала 29-III прыхільную справаздачу аб Акадэміі.

ПРЫНЯЦЬЦЕ З НАГОДЫ 50-ых УГОДКАЎ Б.Н.Р.

Галоўная Управа ЗБВБ ладзіла 25-га Сакавіка ў Бэльгійскім Клюбе ў Лёндане прыняцьце для:сяброў дыплёматычнага корпусу, сяброў ангельскага парлямэнту, ангельскіх сяброў беларускага народу з палітычных і акадэмічных кругоў і сяброў беларускіх установаў у Лёндане. На прыняцьці між іншымі былі: Rt.Hon.Lord Harlech, P.C.,K.C.M.G., former British Ambassador in U.S.A., Rt.Hon.Hugh Fraser, M.B.E., and Lady Antonia Fraser; Mr.Anthony Kershaw, M.C.,M.P.; Mr.Maurice Macmillan, M.P., and Hon.Mrs.Maurice Macmillan, Mr.Nicolas Ridley, M.P.; Mr.Evans Gwynfor, M.P.; Mr, James Scott-Hopkins, M.P. and Mrs.James Scott-Hopkins; Mr.Auberon Herbert; Mr.Gay Picarda; The Dowager Lady Birdwood; Mr.A,Torma, Estonian Legation; Mr.Vincas Balickas, Charge d'Affaires of Lithuania and Mrs.Vincas Balickas; Mr.Teodotos V.Ozolins, Charge d'Affaires of Latvia and Mrs. T.V. Ozolins; Mr.and Mrs.Thang Trong Nghia, Embassy of Viet-nam; Count E.Raczynski, former Polish Ambassador in London; Mr.D.G.Stewart-Smith; Mr.James Dingley, The Universpty of Reading; Mr.Stepan Onysko, Ukrainian National Council; Mr.R.Lisowskyj, Association of Ukrainians in Gr.Britain; Prince Jan Sapieha; Sir Victor Raikes K.B.E.; Mr.Mrs. James Allason; Mrs.Pierre Picarda; Mr.Noel Picarda; Mrs.Magdalena Rich; Miss Viera Rich i шмат іншых.

У часе прыняцьця прамаўлялі: старшыня галоўнае ўправы ЗБВБ сп.Павал Навара і ад госьцяў - старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства сп.Обэрон Гэрбэрт. У міжчасе беларускія юнакі і юначкі раздавалі госьцям нядаўнавыданыя ангельскія брашуры.

Прысутныя на прыняцьці карэспандэнты штодзенных ангельскіх газэтаўThe Times,The Daily Telegraph падалі ў тых газэтах зьмястоўныя зацемкі аб беларускай урачыстасьці.

Таго-ж дня галоўная ўправа ЗБВБ выслала ліст да прэм'ера ангельскага ўраду сп.Вільсона, на які з ягонае канцыляры І-га сакавіка быў атрыманы адказ.

## У АДЗЬДЗЕЛАХ ЗБВБ.

Брадфордскі і Манчэстэрскі адзьдзелы ЗБВБ 24-га Сакавіка супольна ладзілі Акадэмію ў Беларускім Доме ў Манчэстэры ў чэсьць 50-ых угодкаў абвешчаньня Б.Н.Р. Таго дня раніцаю а.Янка Абабурка адслужыў сьв.Літургію, а папалудні адбылася Акадэмія. Яе адчыніў старшыня Манчэстэрскага адзь.ЗБВБ сп.Кажаневіч і прачытаў прысланыя прывітаньні, а старшыня Брадфордскага адзьдз. сп.Я.Каўбаса адчытаў Дэкларацыю Б.Н.Р. Рэфэрат аб 50-ці гадовым шляху Акту 25-га Сакавіка прачытаў сакратар галоўнае ўправы ЗБВБ сп.Я.Міхалюк. Ад імені англійскіх госьцяў прамаўлялі: сп.Джон Грагам і сп. Вільсон. Наступна адбылася мастацкая частка Акадэміі, праграму якое выканаў царкоўны хор БАПЦ у Манчэстэры, чаргуючы свае нумары з акордыяністам сп.Антонам Мучынскім і дуэтамі а.Янкі Абабуркі з сужонкаю і з сп-няю Л.Рудзінскаю. З дэкламацыямі беларускіх вершаў выступаў сп. Ігнацік. На заканчэньне Акадэміі ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн. Затым Беларускі Манчэстэрскі Клюб ахвяраваў пачастунак усім прысутным.

## СКАРЫНІНСКАЯ ВЫСТАЎКА Ў МАНЧЭСТЭРЫ

Выстаўка, прысьвечаная 450-годзьдзю пачатку беларускага друку і беларускага першадрукара д-ра Францішка Скарыны наладжаная ў Беларускім Музэю ў Лёндане мела немалы посьпех і таму ня дзіва, што Манчэстэрскі адзьдзел ЗБВБ пастараўся яе перавезьці да сябе на на два месяцы (люты і скавік) у Беларускі Клюб. З гэтае нагоды 3-га сакавіка а.архімандрыт Леў Гарошка меў даклад у Беларускім Клюбе аб жыцьці і дзейнасьці д-ра Фр.Скарыны і пасьля дакладу адказваў на запытаньні слухачоў.

Згодна з беларускаю традыцыяю для азначэньня так важных угодкаў Беларускі Клюб наладзіў для прысутных сытны пачастунак, у часе якога за сталом залуналі доўганезмаўкаючыя беларускія песьні. Гэты дзень пакінуў у прысутных памятны і прыемны ўспамін.

## НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ

З нагоды візыты ў Англіі старшыні European Freedom Council сп.Оле Б'ёрн Крафт у таварыстве Данскае Парлямэнтарнае дэлегацыі ў Лёндане была наладжана прыхільнікамі Эўрапэйскае Рады Міру ў яго чэсьць прыняцьце, на якім удзельнічала дэлегацыя ад ЗБВБ.

Управа ангельскага адзьдзелу Міжнароднае Сацыяльнае Службы мела 3-га красавіка ў Лёндане Гадавы Сход, на якім ад галоўнае ўправы ЗБВБ быў прысутны заступнік старшыні.

Камітэт Паняволеных Народаў у Брадфордзе, да якога належаць: беларусы, латышы, летувісы, мадзяры, палякі і украінцы, ладзіў 18-га траўня канцэрт з нагоды 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці тых народаў.

## БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ

Хлапцоўская Беларуская Школа ім.сьв.Кірылы Тураўскага ў Лёндане ладзіць 30-га чэрвеня а гадз.3.00 па палудні свой гадавы Канцэрт. Праграма будза складацца з выступленьняў хору, аркестры і дэклямацыяў. Канцэрт адбудзецца ў школьнай салі 39 Holden Rd,, London, N.12.

КАМУНІКАТ

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ у ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52 Penn Road, LONDON, N.7

Нр. 66 Лёндан 31-га ліпеня 1968 году

22-і ЗВЫЧАЙНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД З.Б.В.Б.

На спакойных карыдорах Беларускага Дому ў Лёндане 29-га чэрвеня папалудні станавілася ўсё больш і больш гаманліва. Гэта сходзіліся сябры Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі на 22-і звычайны Гадавы Зьезд. Адчыніў яго старшыня ЗБВБ сп. П. Навара і пасьля супольнае малітвы "Ойча наш" прывітаў прысутных ды запрапанаваў выбраць Мандатную Камісію. Аднагалосна былі выбраны: сп-ры Я.Каўбаса, Ул.Бутрымовіч і М.Баяроўскі. Яны перагляну́ўшы лісту прысутных і сяброўскую картатэку прызналі Зьезд правамоцным. Затым быў прыняты парадак дня, пададны ў Камунікаце Нр.65 і быў выбраны Прэзыдыюм Зьезду ў складзе: старшыня- сп.Я. Каўбаса; скратары - а.архім.Леў і сп.А.Лашук.

Пратакол з папярэдняга Гадавога Зьезду прачытаў сп.Я.Сеўковіч - папраўкаў да яго ня было ніякіх. Затым пайшлі справаздачы. За час свае кадэнцыі дзейнасьць Галоўнае ўправы ЗБВБ, яе адзьдзелаў і сэкцыяў была вельмі актыўная і паважная. Годна былі азначаны беларускія нацыянальныя ўгодкі і важнейшыя рэлігійныя сьвяты. Аб гэтым паведамлялася ў папярэдніх Камунікатах, дзеля гэтага тут пералічым толькі асобаў, якія давалі справаздачы. Пачаў іх старшыня галоўнае ўправы сп.П.Навара вельмі рачова пералічыўша праробленую працу. Рапорт аўдытара зрэфэраваў скарбнік галоўнае ўправы сп.П.Асіповіч. Матэрыяльны стан арганізацыі добры і ёсьць надзея, што ў будучыні будзе яшчэ лепшы, бо арганізацыя мае 3 дамы, 4 гаражы, прыход разам са складкамі быў 1966 ф.шт. і амаль такіж быў расход. Аб дзейнасьці канцылярыі галоўнае ўправы гаварыў сакратар сп.Я.Міхалюк. Інфармацыіі аб дзейнасьці Харытатыўнае Сэкцыі падаў а.архім. Леў. Аб дзейнасьці Беларускага Клюбу ў Манчэстэры паінфармаваў сп.М.Яськевіч. Затым былі пададны справаздачы з дзейнасьці адзьдзелаў: сп.Я.Каўбаса - з Брадфорду, сп.М.Баяроўскі - з Бэрмінгам, сп.М.Яськевіч - з Манчэстэр, сп.Я.Сяўковіч - з Лёндане. Аб адміністрацыі Беларускіх дамоў падалі справаздачы: сп.Я.Каўбаса прачытаў справаздачу сп.Хв.Лемяшонка з Брадфорду, сп.М.Віцэнчык - Манчэстэру і сп.П.Навара - з Лёндану. Аб дзейнасьці юнацкага клюбу ў Брадфордзе паінфармаваў сп.Я.Каўбаса. Затым сп.Я.Сеўковіч прачытаў пратакол Нагляднае Рады.

Аб усіх гэтых справаздачаў і інфармацыях адбылася жывая і рачовая дыскусія, у часе якое былі пададны больш дакладныя выясьненьні так аб дзейнасьці галоўнае ўправы ЗБВБ, як і яе адзьдзелаў і сэкцыяў. Пасьля чаго ўступаючай галоўнай упрае была прызнаная абсалюторыя з падзякаю праз гучныя воплескі.

У дыскусіі аб пляне працы прызнана трымацца практыкі з мінулых гадоў.

Штогод найбольш "цяжкім" заданьнем Зьезду былі выбары галоўнае ўправы. Сёлата сталася інакш. Пасьля кароткае вымены думак Зьезд аднагалосна праз воплескі выбраў усю ўправу з мінулага году. Гэта значыць: старшыня - сп.П.Навара,

заступнік старшыні - а.архімандрыт Леў,

сакратар - сп.Я.Міхалюк,

скарбнік - сп.П. Асіповіч.

Гэткім-жа спосабам перавыбрана Наглядную Раду ў складзе: а.А. Надсон, а.Я.Абабурка і сп.Я.Сяўковіч.

Аўдытарам назначана сп.Джозэфа Гаямса, які выконвае гэтую функцыю ад часу залегалізаваньня ЗБВБ.

У гэтым часе на Зьезд прыехалі: старшыня Англо-Беларускага Таварыства сп.Обэрон Гэрбэрт і сакратар сп.Гай Пікарда ды паведамілі, што заступніца старшыні Англо-Беларускага Т-ва сп-ня Маўрыкія Макмілян выбрана заступніцаю старшыні ўправы кансэрватыўнае партыі. Ёй ад імя Зьезду выслана прывітальную тэлеграму.

У Розных Справах высьнена праўнае становішча беларускага клюбу ў Манчэстэры і ўканцы на прапанову старшыні прэзыдыюму Зьезду замест вянка на магілу гэн.Фр.Кушаля сабраша ахвяры на газэту "Беларус".

На заканчэньне ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гымн.

Наступнага дня ў нядзелю 30-га чэрвеня былі адпраўлены для дэлегатаў Зьезду Службы Божыя: для праваслаўных у Беларускім Доме, а для каталікоў у капліцы Марыйскага Дому. А папалудні таго-ж дня Хлапцоўская Беларуская Школа ім.сьв.Кірылы Тураўскага наладзіла прыгожы канцэрт беларускае музыкі. Прасторная школьная саля ледва магла ўмясьціць слухачоў. Добрае выкананьне канцэрту, прыгожая нацыянальная вопратка выканаўцаў-вучняў і хоць сьціплы, але смачны пачастунак - усё гэта зрабіла доўгапамятнае ўражэньне.

## НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ

The Foreign Affairs Circle ладзіў 8,УІ прыняцьце, на якім удзельнічалі: старшыня галоўнае ўправы ЗБВБ сп.П.Навара і старшыня Лёнданскага адзьдзелу ЗБВБ сп.Я.Сяўковіч.

Грузінская калёнія ў Англії ладзіла ў Лёндане І5.УІ урачыстае прыняцьцё з нагоды 50-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Грузіі. Ад імя беларусаў былі на прыняцьці прадстаўнікі галоўнае ўправы ЗБВБ і прадстаўнікі сэктару Рады БНР.

Амбасада Паўднёвага Ветнаму 20.УІІ ладзіла акадэмію і прыняцьце для дыплёматычных прадстаўнікоў дзяржаваў вольнага сьвету і прыхільных ім народаў.На гэтай урачыстасьці ад імя беларусаў былі: заст.старшыні ЗБВБ а. архім.Леў і сакратар ЗБВБ сп.Я.Міхалюк.

## У АНГЛО-БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ

Англо-Беларускае Таварыства мела І0.УІІ гадавую Зборку, на якой пасьля справаздачаў управы і дыскусіі аб праробленай працы за мінулы год выбрана новую ўправу ў такім складзе:

President: Lord Harlech
Vice President: Hon.Mrs. Maurice Macmillan
The Rt.Rev.Ceslaus Sipovic, Bishop of Mariamme, Apostolic Visitor of Byelorussian
Chairman: Auberon Herbert Esq.
Vice Chairman: The Marchioness of Dufferin and Ava
John Joliffe Esq.
Stanislau Savicki Esq.
Hon. Treasurer: Paul Asipovich Esq.
Hon. Secretary: Guy de Picarda Esq.
Member: John Michaluk Esq.

## З ДЗЕЙНАСЬЦІ КАНЦЫЛЯРЫІ З.Б.В.Б.

Чарговае паседжаньне галоўнае ўправы ЗБВБ, якое адбылося дня 26.УІ ў Беларускім Доме, было 200-ым ад часу існаваньня ЗБВБ.

К А М У Н І К А Т
ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52 Penn Road, LONDON, N.7

Нр. 67 Лёндан І2-га сьнежня 1968 году

УСІМ БЕЛАРУСАМ І ЎСІМ НАШЫМ ПРЫЯЦЕЛЯМ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ ЖАДАЕМ ВЯСЁЛЫХ СЬВЯТ НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ.

Галоўная ўправа З.Б.В.Б.

## ПЕРАВЫБАРЫ Ў АДЗЬДЗЕЛАХ ЗБВБ

У Брадфордзе гадавая зборка Адзьдзелу ЗБВБ адбылася І5-га верасьня ў Беларускім Доме. Пасьля справаздачы ўступаючае ўправы, дыскусіяў, выясьненьняў і ўдзяленьня абсалюторыі з падзякаю за плённую працу, выбрана новую ўправу ў такім складзе:

старшыня - сп.Я.Калбаса
сакратар - сп.С.Мак
скарбнік - сп.А.Калько
сябра ўправы - сп.А.Сасна
адміністратар Дому - сп.Хв.Лемяшонак.

У Манчэстэрскім Адзьдзеле ЗБВБ гадавая зборка адбылася 8-га верасьня. Справаздача ўступаючае ўправы выказала, што арганізацыйнае і грамадзкае жыцьцё апошнім часам значна ажывілася, ня гледзячы на некаторыя цяжкасьці вонкавага характару. Даўшы ўступаючай управе абсалюторыю з падзякай, выбрана новую ўправу ў такім складзе:

старшыня - сп.Х.Кажаневіч
заступнік старшыні - а.Я.Абабурка
сакратар - сп.М.Яськевіч
скарбнік - сп.Ул.Гінько.

Адміністратарам Дому на далей астаўся сп.М.Віценьчык.

Яшчэ раней, бо 4-га траўня адбылася ў Манчэстэры зборка сяброў Беларускага Клюбу, на якой з прыемнасьцю сьцьверджана, што дзейнасьць Клюбу йдзе памысна, а фінансавыя абароты паважна ўзрастаюць. Новую ўправу Клюбу выбрана ў такім складзе: старшыня - сп.Ул. Рудзінскі
сакратар - сп.М. Яськевіч
скарбнік - сп.Х. Кажаневіч.

У Бэрмінгамскім Адзьдзеле ЗБВБ мужам даверу і далей астаецца сп.М. Ёўлеў.

## ФІЛІЯ ПАРЫСКАГА БЛЁКУ

Прадстаўнікі паасобных народаў, якія ўвайходзяць у міжнародную антыбальшавіцкую арганізацыю "Парыскі Блёк", мелі ў Лёндане З-VIII арганізацыйную зборку з мэтаю залажыць тут філію гэтае арганізацыі. На зборцы ўдзельнічалі прадстаўнікі: армянаў, беларусаў, грузінаў і украінцаў. Пастаноўлена парабіць адпаведныя захады для праўнага афармленьня Філіі Парыскага Блёку, а тымчасам трымаць бліжэйшую лучнасьць між нацыянальнымі арганізацыямі ўспомненых народаў у Англіі.

## СУПРАЦЬБАЛЬШАВІЦКІЯ ДЭМАНСТРАЦЫІ

Акупацыю бальшавіцкім войскамі Чэхаславаччыны выклікала агульнае абурэньне ўва ўсім вольным сьвеце. Адным з выяваў гэтага абурэньня ў Лёндане была міжнародная антысавецкая дэманстрацыя 24-га жніўня, у якой удзельнічалі: беларусы, латышы, летувісы, мадзяры, чэхі, украінцы і эстонцы. Дэманстрацыйны паход з цэлым лесам плякатаў, сьцягоў і гучных антысавецкіх клічоў выйшаў з Гайд Парку і пайшоў да Савецкае амбасады. Адтуль паход пайшоў яшчэ да Выстаўкі Савецкае Прамысловасьці. Рэха тае дэмастрацыі ня толькі гучна лунала па лёнданскіх вуліцах, але так-жа адбілася і на старонках лёнданскіх газэт.

Два месяцы пазьней з нагоды Канфэрэнцыі АБН(Антыбальшавіцкі Блёк Народаў) і Эўрапэйскае Рады Свабоды, якая адбывалася ў Лёндане ад I8-га да 20-га кастрычніка; у апошні дзень Канфэрэнцыі адбылася так-жа антысавецкая дэманстрацыя, у якой разам з іншымі народамі ўдзельнічалі так-жа беларусы.

## ІНФАРМАЦЫІ АБ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Ведамая ангельская паэтка і рэдактарка ангельскага часапісу паэзіі і мастацтваManifold сп-чняВера Річ ладзіла супольна з Лёнданскім Адзьдзелам ЗБВБ 26-га кастрычніка ў салі Беларускае Хлапцоўскае Школы ў Лёндане Вечар сучаснае беларускае паэзіі. Даклад і вершы сучасных беларускіх паэтаў у сваім-жа тлумачэньні чытала Вера Річ. Пасьля дакладу для ўдзельнікаў Вечару было наладжана прыняцьце.

У наспуным месяцы 25.XI сп-чня Вера Річ мела даклад у Іпсвіч для ангельскага Паэтычнага Таварыства ў Софолк аб беларускай літаратуры апошніх 60-і гадоў. Даклад багата ілюстраваны вершамі ў ангельскім тлумачэньні выклікаў паважнае зацікаўленьне ў слухачоў.

Пры гэтай нагодзе варта ўспомніць, што на старонках часапісу Manifold няраз зьяўлялісявесткі з беларускага культурна-грамадзкага жыцьця і вершы беларускіх паэтаў у ангельскім тлумачэньні Веры Річ. Да гэтага часу там зьявіліся вершы: М.Танка, Маміны рукі Mather's HandsНр.I3, с.I3; Л.Геніюш - На начлезеIn the Night-Pasture Нр.I5, с.I3; М.Багдановіча Мая песьня May Song Нр.I8, с.20; Я.Сіпакова, Зялёнае воблака на рынку-A green Cloud in the Market.

## БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ

На запросіны Міжнароднага Камітэту ў Стівэнадж Беларуская Хлапцоўская Школа ў Лёндане I-га лістапада дала ў названым Клюбе канцэрт беларускае песьні і музыкі. Да арганізацыі канцэрту шмат прычыніўся сп.Я.Пякарскі. У тым-жа Клюбе ў дзень канцэрту была выстаўка беларускіх тканінаў і вышыўкаў. Мяйсцовая газэта Stevenage Gazette 7.XI падала аб Канцэрце кароткую зацемку.

## У МІЖНАРОДНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ

Сёлета ў нямецкім горадзе Кэніґштайн між 3I.VII і 4.VIII адбыўся ўжо I8-ы з чаргі міжнародны кангрэс "Царква ў бядзе" Хоць сёлета Кангрэс быў не такі людны, як папярэднія, але ня менш важны. Падобна як на папярэдніх кангрэсах там была так-

сама беларуская дэлегацыя, хоць і ў зьменшаным складзе - 5 чалавек. Як і ў мінулых гадох, так і сёлета, там у малітвах і маніфэстацыях успаміналася Беларусь.

Брытыйская Рада Помачы Уцекачом мела 26.XI свой агульны гадавы Сход. На ім беларускія арганізацыі рэпрэзэнтаваў заступнік старшыні галоўнае ўправы ЗБВБ а.архімандрыт Леў.

Паэты і прыхільнікі ангельскага часапісу Manifold ладзілі 9.XI у памешканьні Каралеўскае Шкоцкае Карпарацыі гадавое прыняцьце, на якім прысутнічалі беларускія госьці. На пачатку прыняцьця а.архімандрыт Леў пабагаславіў сталы.

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

Лёнданскі Адзьдзел ЗБВБ ладзіў 30.XI у Беларускім Доме акадэмію ў чэсьць 48-ых угодкаў Слуцкага збройнага чыну. Адчыніў Акадэмію старшыня Лёнданскага Адзьдзелу сп.Я.Сеўковхч і перадаў слова сакратару Адзьдзелу сп.А.Лашуку, які прачытаў зьместоўны рэфэрат аб слуцкіх падзеях. Закончылася Акадэмія адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну. Затым для прысутных было наладжана скромнае прыняцьце.

Манчэстэрскі Адзьдзел ЗБВБ ушанаваў 48-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня І.XII. У гэты дзень пасьля Службы Божае а. Я.Абабурка адправіў паніхіду за случчакоў і сказаў казаньне аб ахвярным учынку слуцкіх патрыётаў.

## ТЭЛЕВІЗІЯ - АБ БЕЛАРУСАХ

Ангельская тэлевізійная станцыя ВВС І. дня 29.XI а гадзіне І8 да І8,І0 мела цікавую перадачу аб беларускім асяродку ў Лёндане. Паказвалі багаслужэньне ў беларускай усходне-каталіцкай капліцы ў Марыйскім Доме, беларускую хлапцоўскую школу ім.сьв.Кірылы Тураўскага, хор тае школы, беларускі музэй і інш. Перадача суправаджалася кароткім інтэрв'ю з сакратаром Англо-Беларускага Таварыства і гутаркаю сп. Левіна аб адносінах да нацыянальных меншасьцях у Савецкім Саюзе.

## СТАРАНЬНІ АБ БЕЛАРУСКІХ ПЕРАДАЧАХ У В.В.С.

Ужо ня раз беларусы ў Англіі рабілі спробы, каб ангельскае радыё ВВС мела рэгулярныя беларускія перадачы. Нажаль да гэтага часу ўсе тыя спробы аставаліся бяз выніку. Ня глядзячы на гэта сёлета Англо-Беларускае Таварыства, галоўная ўправа ЗБВБ, Беларускае Каталіцкае Душпастырства ў Англіі і Беларускае Праваслаўнае Душпастырства ў Англіі ўлажылі супольны зварот да ўсіх ангельскіх дэпутатаў, лёрдаў і больш актыўных дзеячоў. На зварот ужо прыйшло шмат адказаў. Некаторыя толькі паведамляюць аб атрыманьні ліста, некаторыя выказваюць пры гэтым свае засьцярогі, але ёсьць так-жа нямала лістоў з вельмі прыхільнымі водзывамі.

Напрыклад адзін з дэпутатаў між іншым піша: "Я зусім згаджаюся з вашым паглядам, выказаным у вашым лісьце і напісаў Галоўнаму Дырэктару ВВС, пераконваючы яго, ажыцьцявіць такую палітыку."

Іншы дэпутат піша: "Я поўнасьцю прыхіляюся да ўсяго,

што вы пішаце, і зьвяртаюся да ВВС, каб яны абмеркавалі магчымасьць пашырыць радыёперадачы так-жа і на беларускую мову".

Іншы зноў кажа коратка: "Я напэўна падтрымаю вас, так як вы гаворыце".

Ёсьць так-жа прыхільныя адказы ў імені некалькіх "аднадумцаў".

## НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

Прадстаўнікі ўсіх грамадаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Англіі мелі I2.X совй трэці Агульны Зьезд у Брадфордзе. Выслухаўшы справаздачы парахвіяльных Камітэтаў і разгледзеўшы ўсе актуальныя патрэбы свайго рэлігійнага жыцьця, выбрана новую ўправу Экзэкутывы Рады БАПЦ у Англіі ў такім складзе:

старшыня - сп.Б.Кляйноў
сакратар - сп.Я.Калбаса
скарбнік - сп.Хв.Лемяшонак.

Наступнага дня I3.X, з нагоды пятых угодкаў а. Янкі Абабуркі вернікі і Рада БАПЦ ладзілі прыняцьце, на якім прысутнічаў сакратар галоўнае ўправы ЗБВБ сп. Я.Міхалюк. Ён ад імені ЗБВБ перадаў падарунак айцу юбіляту, як выяў прызнаньня за шчырую душпастырскую дзейнасьць.

## ЛЕКЦЫІ АБ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Ужо трэці год Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане ладзіць сэрыю лекцыяў з розных галінаў беларускае культуры. Сёлета лекцыі будуць адбывацца ў Брытыйскай Акадэміі Burlington House, Piccadilly, W.1 у чацьвяргі а гадз.6,30 па палудні ў такім парадку:

5.XII, Англа-Беларускія адносіны ў I9I8-I920 гг. прачытаў сп.Гай Пікарда.
I2.XII, Якуб Колас і эвалюцыя нацыянальнага эпічнага стылю ў беларускай літаратуры. - прачытае сп-ня Вера Річ
23.I, Геаграфія Беларусі ў ХУІ веку. - Рышард Фрэнч(Унівэрсытэцкая Калегія і Школа Славянскіх і Усходнеэўрапэйскіх Студыяў).
I3.II, Баркулабаўская хроніка (I563-I608). - а.Аляксандар Надсон.
6.III, Аляксандар Ельскі(I834-I9I6).- сп.Арнольд Б. МакМілін(Школа Славянскіх і Усходнеэўрапэйскіх Студыяў).
I5.У, Techновішча беларускае мовы ў студыях параўнаўчае славянскае філялёгіі. - праф. Робэрт Оті (Прафэсар параўнаўчае філялёгіі ў Оксфордскім Унівэрсытэце).

На лекцыі ўступ вольны.

## НА ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЕ

Пасьля даўжэйшага зацішша ў беларускім выдавецкім руху сёлета адбыўся зрух у гэтай галіне. Ажывілася так-жа і ангельскія публікацыі адносна Беларусі.

Ангельскі рэлігійны часапіс Eastern Churches Reviev Нр.4 з I967/68 г. зьмясціў на стар.347-358 вялікі артыкул а. А. Надсона Spiritual Writings of St. Cyril of Turaŭ і выдаў гэты артыкул асобнаю адбіткаю ў форме брашуры. Цана 2.ш.

Амаль адначасна артыкулы а.Аляксандра Надсона аб сьв. Кірыле Тураўскім, якія зьяўляліся на старонках часапісу "Божым шляхам", былі выданы асобнаю кніжкаю з тытулам: "Сьвяты Кірыл Тураўскі". Стар.II0, цана 5 шыл.

Сёлета выйшаў з двухгадовым апазьненьнем часапіс The Journal of Byelorussian Studies Nr.2 , але затое ў большым абыйме - на I46 стар. Зьмест багаты і цікавы.

Брадфордскі Камітэт Паняволеных Народаў сёлета выдаў брашуру: The Captive Nations 1918-1968, дзе паданы кароткія інфармацыі аб: Беларусі(с.3-9), Эстоніі, Мадзяршчыне, Латвіі, Летуве, Польшчы і Украіне.

СЬВЯТКАВАНЬНЕ КАЛЯД

Акрамя багаслужэньняў, якія з нагоды сьвятаў Нараджэньня Хрыста будуць адпраўляцца ўва ўсіх беларускіх сьвятынях у Англіі, яшчэ адбудуцца ў Калядным часе такія ўрачыстасьці:

Беларуская Хлапцоўская Школа ім.сьв.Кірылы Тураўскага ў Лёндане ладзіць Калядную Ялінку ў суботу I4-га сьнежня а гадз.I7,30. У праграме ёсьць: Бэтлейка, калядкі ў выкананьні вучнёўскага хору, музыка і сьв. Мікалай з мяшком падарункаў. А пасьля - прыняцьце для госьцяў.

У Манчэстэры Служба Божая на Каляды адбудзецца ў Беларускім Доме ў аўторак 7.I.69 а гадз. I2. І адразу пасьля багаслужэньня адбудзецца абед у тым-жа Доме, ладжаны супольна Аддзелам ЗБВБ і Беларускім Клюбам.

Для дзяцей у Манчэстэры ладзіцца ялінка ў суботу 4.I.69 а гадз.I6 у Беларускім Доме. І ўжо цяпер Дзед Мароз абяцаў арганізатарам, што пасьля пачастунку прыйдзе да дзяцей з поўным мяшком падарункаў, калі бацькі не забудуцца яго хараша папрасіць.

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52 Penn Road, LONDON, N.7

Нр. 68 Л ё н д а н 23-га траўня 1969 году

23-і ЗВЫЧАЙНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД СЯБРОЎ І ДЭЛЕТАГАЎ З.Б.В.Б.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 23-і Агульны Звычайны Гадавы Зьезд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца дня 28-га чэрвеня І969 году ў памешканьні Дому ЗБВБ у Лёндане пад вышэй паданым адрасам. Пачатак Зьезду а гадзіне 3,30 па паўдні.

Прапануецца наступны Парадак Дня (Пастанова Галоўнае Ўправы ЗБВБ з дня ІІ-У, прат.Нр.205):

І. Адкрыцьцё Зьезду і малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма Зьезду.
4. Прыняцьце пратаколу з папярэдняга Зьезду.
5. Справаздача ўступаючае Галоўнае Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнае Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфармацыя з дзейнасьці Беларускага Клюбу ў Манчэстэр.
9. Справаздачы ўправаў адзьдзелаў ЗБВБ.
І0.Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.
ІІ.Інфармацыя Юнацкага Клюбу пры адзь. ЗБВБ у Брадфордзе.
І2.Дыскусіі над справаздачамі.
І3.Справаздача Нагляднае Рады ЗБВБ.
І4.Абсалюторыя для ўступаючае Галоўнае Ўправы ЗБВБ.
І5.Плян працы.
І6.Выбары новае Галоўнае Ўправы ЗБВБ.
І7.Выбары Нагляднае Рады ЗБВБ.
І8.Назначэньне аўдытара.
І9.Справа прадажы старога дому і куплі новага ў Брадфордзе.
20.Розныя справы.
2І.Закрыцьцё Зьезду. -Нацыянальны Гімн.

Управы адзьдзелаў і сябры, якія жадаюць унесьці нейкія дапаўненьні да прапанаванага Парадку Дня, павінны паведаміць аб гэтым Галоўную Ўправу ЗБВБ прынамся І0 дзён перад Зьездам.

Прыпамінаецца ўсім, што права голасу на Зьезьдзе маюць тыя сябры, якія заплацілі сяброўскія складкі да сакавіка І969 г. уключна.

Едучы на Зьезда, сябры і дэлегаты, павінны мець з сабою важныя сяброўскія білеты.

У нядзелю 29-га чэрвеня будуць адслужаны сьв.Літургіі: для праваслаўных у Доме ЗБВБ а гадз. І0,00 раніцы, а для каталікоў у капліцы сьв.апост. Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўс а гадз. І0,30.

Пасьля сьвятых Літургіяў будзе скромны пачастунак у Доме ЗБВБ для ўдзельнікаў Зьезду і прысутных на багаслужэньні вернікаў.

Галоўная Ўправа ЗБВБ заклікае ўсіх сяброў прыехаць на Агульны Зьезд - выканаць свой сяброўскі абавязак.

За Галоўную Ўправу ЗБВБ

[signature]

Сакратар

## ДАКЛАД УЛАДЫКІ ЧЭСЛАВА

Летам мінулага году і ўвосень уладыка Чэслаў візітаваў манстыры айцоў Марыянаў розных нацыянальнасьцяў у ЗША, Аўстраліі Аргэнтыне, Бразіліі. Пры гэтай нагодзе адведваў такжа беларускія асяродкі ў тых краінах і ў Новай Зэляндыі. А па дарозе, вяртаючыся ў Эўропу, затрымоўваўся на пару дзён у Індыі і ў Палестыне. Калі ў часе Калядных Сьвятаў уладыка Чэслаў завітаў у Лёндан, дык на прапанову лёнданскага адзьдзелу ЗБВБ дня 7-I-69 ён - зрабіў цікавы даклад аб сваіх уражэньнях з таго падарожжа наагул і аб сваіх спатканьнях з беларусамі ў асаблівасьці.

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ КАЛЯДАЎ

Сёлета беларусы ў Манчэстэры стараньнем адзьдзялу ЗБВБ і Беларускага Клюбу двойчы сьвяткавалі Каляды. Перш для дзяцей 4-I., а потым 7-I для дарослых. Для дзяцей была і ялінка, і пачастунак, і дарункі; а для дарослых была ўрастая Служба Божая і супольны абед у Беларускім Доме. Прыгожа і міла было за тым супольным сталом, бо за ім сядзелі беларсы быццам адна вялікая сям'я - беларуская сям'я на чужыне з сваім духоўным айцом.

Ужо ўвайшло ў звычай лёнданскіх беларусаў сустракацца ў часа Калядных сьвятаў як не каля ялінкі, дык прынамся за супольных сталом. Сёлета такая сустэча адбылася вечарам у суботу II-I у Беларускім Доме. Між прысутнымі быў так-жа мілы госьць - уладыка Чэслаў. За супольным сталом у шчырай і прыязнай атмасфэры супольная бяседа прадаўжалася да позняга вечара.

Ад вякоў існуе на Беларусі прыгожы звычай, што Калядны час гэта час узаемных адведзінаў і гасьцяваньняў. Дзеля захаваньня гэтага звычаю ўправа адзьдзелу ЗБВБ у Брадфордзе ладзіла I2-I разам з парахвіяльнаю ўправаю БАПЦ у мяйсцовым Беларускім Доме супольны абед пасьля Службы Божае, якую адправіў а.Янка. За сытна застаўленым сталом усе былі адначасна і госьцямі і гаспадарамі і адною вялікаю сям'ёю.

## З.Б.В.Б. У МІЖНАРОДНЫМ ЖЫЦЬЦІ

У Кітайскім Нацыянальным Цэнтры ў Лёндане I8-га лютага было прыняцьце з нагоды Новага Месячнага Году. Ад імя беларусаў удзельнічаў на прыняцьці старшыня Лёнданскага Адзьдзелу ЗБВБ сп. Я.Сеўковіч.

З нагоды 5I-ых угодкаў утвараньня Украінскае Нацыянальнае Рады, Лёнданскі адзьдзел УНР ладзіў 26-I урачыстае прыняцьце ў Эстонскім Клюбе. Ад беларусаў удзельнічалі на прыняцьці сябры галоўнае ўправы і ўправы Лёнданскага Адзьдзелу ЗБВБ: сп.сп. Я.Міхалюк, Я.Сяўковіч і А.Лашук.

Міжнародны Цэнтр Грамадзкае Апекі ў Вялікай Брытаніі меў I5-IУ сваю Звычайнюю Гадавую Зборку. Гэтая арганізацыя мае розныя сувязі з шматлікімі грамадзкімі і дабрадзейнымі арганізацыямі, дык гавадыя Зборкі бываюць шматлюдныя. Сёлета на Зборцы ўдзельнічаў заступнік старшымі галоўнае ўправы ЗБВБ архімандрыт Леў.

САКАВІКОВЫЯ УРАЧЫСТАСЬЦІ

Як штогод, так і сёлета, ува ўсіх адзьдзелах ЗБВБ былі ўрачыста азначаныя 5І-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.

У Лёндане стараньнем мяйсцовага адзьдзелу ЗБВБ Сакавіковая Акадэмія адбылася 29-ІІІ ў салі інтэрнату Беларускае Хлапцоўскае Школы ім. сьв.Кірылы Тураўскага. Вечарам таго дня старшыня Лёнданскага адзьдзелу сп.Я.Сеўковіч, прывітаўшы прысутных пабеларуску і паангельску, прачытаў пабеларску зьмястоўны даклад аб значэньні 25-га Сакавіка і аб сучасным становішчы вызвольнага змаганьня.

Пасьля дакладу вучні Беларускае Хлапцоўскае Школы ў беларускай нацыянальнай вопратцы прыгожа адсьпявалі некалькі беларускіх патрыятычных песень. Іхняя-ж мешаная аркестра і аркестра жалеек памастацку выканала некалькі беларускіх мэлёдыяў; быў так-жа і салявы нумар маладога дудара - ён назьбіраў найбольш воплескаў.

На заканчэньне ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн. Пасьля ў той-жа салі ўсе прысутныя спажывалі сьціплы пачастунак і цешыліся супольным спатканьнем.

У Брадфордзе адзьдзел ЗБВБ ладзіў акадэмію 30.ІІІ у сваім Доме. Раніцаю таго дня а.Янка адслужыў сьв.Літургію і малебень за беларускі народ і за змагароў, якія злажылі сваё жыцьцё на аўтар Бацькаўшчыны,ды сказаў прынагаднае зьмястоўнае казаньне. А папалудні адбыўся ўрачысты сход, на якім сп.Ст.Мак прачытаў цікавы рэфэрат аб значэньні Сакавіковага Акту. Пасьля ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн. Закончылася ўрачыстасьць супольным пачастункам за сытна застаўленымі сталамі.

У Манчэстэры ўрачыстае сьвяткаваньне ладзілі супольна: адзьдзел ЗБВБ і Беларускі Клюб 6-ІУ у сваім Доме. Раніцаю а.Янка адслужыў сьв.Літургію і Малебень за Беларусь ды сказаў прынагаднае патрыятычнае казаньне, а папалудні адбылася акадэмія, на якой а.Янка прачытаў вельмі зьмястоўны рэфэрат аб значэньні акту 25-га Сакавіка і сучасным стане беларускага вызвольнага руху. Пасьля афіцыяльнае часткі ўправа Беларускага Клюбу ладзіла пачастунак для ўсіх прысутных.

ГАДАВАЯ ЗБОРКА

Беларускі Клюб у Манчэстэры пры ЗБВБ меў 3-У. сваю гадавую Зборку. Справаздача ўступаючае ўправа вымоўна сьведчыла, што праца Клюбу за справаздачны пэрыяд разьвівалася вельмі памысна; Агульны аброт Клюбу сягаў £ 7.000. Дык прызнаўшы ўступаючай ўправе абсалюторыю з падзякай, выбрана новую ўправу у такім складзе: старшыня сп. Ст.Мак
сакратар сп. М.Яськевіч
скарбнік сп. Х.Кажаневіч.

ЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСАВЕДЫ

Як паведамлялася ў папярэднім "Камунікаце", між І5-ХІІ-68 і І5-У-69 Англа-Беларускае Таварыства ладзіла ў Лёндане цыкль лекцыяў з розных галінаў беларускае культуры. Лекцыі адбываліся ў адной з саляў Брытыйскае Акадэміі. Амаль усе яны былі

на высокім навуковым узроўні і выклікалі паважнае зацікаўленьне ня толькі ў слухачоў, але так-жа ўва ўсіх брытыйскіх славістаў і прыяцеляў беларускага народу.

## НА РАЗЬВІТАНЬНІ

Дэлегат Апостальскага Пасаду ў Лёндане Я.Э. архіб.І.Кардінале перанесены на становішча Апостальскага Нунцыя ў Бруксэлі. З гэтае нагоды Вэстмінстэрскі архібіскуп Яго Эмінэнцыя кардынал Я.Гінэн І2-У.адправіў Службу Божую ў саслужэньні Ап. Дэлегата і іншых ерархаў, а пасьля гэтага ўладзіў разьвітальны банкет, на якім было шмат прадстаўнікоў з дыплёматычнага корпусу і дэлегатаў ад рэлігійных установаў, між якімі быў архімандрыт Леў ад Беларускае Каталіцкае Місіі і Беларускіх Айцоў Марыянаў.

## "АПОКРЫФ" ПААНГЕЛЬСКУ

На старонках паэтычна-мастацкага ангельскага часапісу Manifold ужо няраз зьяўляліся вершы беларускіх паэтаў у ангельскім тлумачэньні паэткі Веры Річ. Нядаўна ў яе-ж тлумачэньні ў Нр.27 зьявіўся "Апокрыф" Максіма Багдановіча з прыгожаю зацемкаю ва ўступным артыкуле, што гэта "бадайшто найпрыгажэйшае з усіх моваў выказаньне сапраўднае ролі паэта ў грамадстве".

## УВАГА: ТЭЛЕВІЗІЯ

Незалежная ангельская тэлевізія Independent Television у нядзелю І-УІ а гадз. І8,І5 будуць надаваць трансмісію аб хрысьціянстве ў Савецкім Саюзе наагул і аб палажэньні ў асобных рэспубліках; у тым ліку і аб Беларусі.

---

### Сьвятой памяці Уладзімір КАПАЧ

Пасьля доўгае і цяжкае хваробы дня 2-га траўня памёр Уладзімір К а п а ч , пакінуўшы ў глыбокім суме жонку і двое сіратаў. Пакойны паходзіў з Наваградчыны, радзіўся ў вёсцы Вераскава І924 году. Ад юнацкіх гадоў удзельнічаў у беларускім грамадзкім жыцьці. Знайшоўшыся ў Англіі пасьля другое сусьветнае вайны разам з іншымі беларускімі юнакамі, быў актыўным сябрам ЗБВБ. Хаўтурнае багаслужэньне ў капліцы і на магільніку ў Нотінгаме адправіў а.Янка Абабурка, дня 6-У. За дамавінай разам з блізкімі роднымі йшла вялікая грамада ягоных прыяцялёў і знаёмых.

Вечны супакой ягонай душы!

---

К А М У Н І К А Т
ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52 Penn Road, LONDON, N.7

Нр. 69 Л ё н д а н 29-га жніўня 1969 году

# ГАДАВЫ ЗЬЕЗД

Кожны гадавы зьезд кожнае арганізацыі зьяўляецца паважнаю падзеяю ў яе жыцьці. Калі-ж управа арганізацыі можа на гадавым зьездзе паказаць сваім сябром багаты плён выкананае працы, тады гадавы зьезд зьяўляецца ня толькі паважнаю падзеяю, але так-жа і радаснаю. Ваось такім і быў 23-і Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, які адбыўся сёлета 28-га чэрвеня ў Беларускім Доме ў Лёндане. Адчыніў яго старшыня галоўнае ўправы сп. П.Навара і пасьля супольнага адсьпяваньня "Ойча наш"прывітаў усіх прысытных ды згодна з Парадкам Дня запрапанаваў выбраць Мандатную Камісію. Выбранымі былі: сп-ры Янка Каўбаса, Янка Сяўковіч і Васіль Тур. У часе карткага перапынку яны перагледзелі лісту прысутных і картатэку сяброў ЗБВБ ды прызналі Зьезд правамоцным.

Пасьля гэтага быў прыняты бяз ніякіх зьменаў Парадак Дня, паданы ў папярэднім Камунікаце і выбраны Прэзыдыюм Зьезду ў такім складзе: старшыня - сп.Я.Каўбаса, сакратары - спсп. А.Лашук і Я. Сяўковіч.

Падзякаваўшы за давер і прачытаўшы прывітаньне, старшыня Зьезду перадаў слова сакратару сп.А.Лашуку. Ён прачытаў пратакол з папярэдняга Зьезду; пратакол быў напісаны так дакладна і прыгожа, што Зьезд узнагародзіў сакратара воплескамі. Далей пайшлі справаздачы. Распачаў іх старшыня галоўнае ўправы сп.П.Навара. Ён падаў агульны агляд дзейнасьці ЗБВБ за справаздачны пэрыяд. Аб матэрыяльным стане арганізацыі гаварылася ў рапорце аўдытара; яго зрэфэраваў і паясьніў скарбнік сп.П.Асіповіч. Аб дзейнасьці канцэлярыі, якая была даволі ажыўленаю, гаварыў сакратар сп.Я.Міхалюк. Аб дзейнасьці Харытатыўнае Сэкцыі паведамлялася ў Камунікаце гэтае Сэкцыі, а дадатковыя весткі падаў скарбнік сп.П.Асіповіч.

Затым пайшлі справаздачы з Адзьдзелаў. Адны з іх кароткія, іншыя абшырныя і дакладныя, але ўсе яны сьведчылі, што беларускае арганізацыйнае жыцьцё ў Англіі ў радох ЗБВБ жыва пульсуе ўва ўсіх яго галінах, дзе толькі б'ецца шчырае беларускае сэрца. Аб гэтым вымоўна можа сьведчыць самая колькасьць справаздачаў. Вось яны: Аб Клюбе ў Манчэстэры - сп.М.Яськевіч; аб Юнацкім Клюбе ў Брадфордзе - сп.Я.Каўбаса. Аб дзейнасьці Адзьдзелаў ЗБВБ справаздачы йшлі ў альфабэтычным парадку: з Брадфорду - сп.Я.Каўбаса, з Бэрмінгаму прысланую справаздачу прачытаў сп.Я.Міхалюк, з Лёндану - сп.Я.Сеўковіч, з Манчэстэр - а.Я.Абабурка. Аб Беларускіх Дамох падавалі справаздачы іхныя адміністратары: з Брадфорду - сп. Хв. Лемяшонак, з Манчэстэру - сп.М.Яськевіч, з Лёндану - сп. П.Навара. Усе гэтыя справаздачы дапоўніў і абагульніў, дадаючы некалькі заўвагаў, пратакол Нагляднае Рады, які прачытаў а.Я.Абабурка.

Дыскусія над справаздачамі была кароткая, але вельмі рачовая і выявіла яшчэ больш вымоўна тую вялікую працу, якую выкала галоўная ўправа, дык ня дзіва, што ёй прызнана абсалютораю з падзякай.

Адносна пляну працы, вырашана трымацца практыкі мінулых гадоў.

Хоць сябры ўступаючае галоўнае ўправы мелі шчырае жаданьне, каб у новую ўправу паклікаць людзей, якія маюць больш вольнага часу, яле такіх сяброў не знайшлося і выбрана на новую кадэнцыю ўсю ўправу з мінулага году: старшыня - сп.П.Навара, заступнік

старшыні - а.архімандрыт Леў, сакратар - сп.Я.Міхалюк, скарбнік - сп.П.Асіповіч.

Таксама перавыбрана бяз зьменаў і Наглядную Раду: а:А.Надсон, а.Я.Абабурка і сп.Я.Сяўковіч.

Аўдытарам астаўся сп.Джозэф Гаямс.

Адносна Беларускага Дому ў Брадфордзе, зьезд зацьвердзіў прадажу старога дому за £3200 і куплю новага дому за £4100.

У Розных Справах дыскутавалася пытаньне беларускае прэсы і англамоўнае прэсы аб Беларусі The Journal of Byelorussizns Studies У выніку дыскусіі было сабрана на "Беларуса"

Ад імя Зьезду была выслана тэлеграма прэзыдэнту БНР сп. М. Абрамчыку.

На заканчэньне ўсе прысутныя адсьпявалі беларускі нацыянальгымн. Пасьля для ўсіх прысутных быў наладжаны скромны пачастунак.

Наступнага дня ў нядзелю для дэлегатаў Зьезду былі адпраўлены Службы Божыя: для праваслаўных адпраўвіў а.Янка ў Беларускім Доме, а для каталікоў а.Робэрт у Марыйскім Доме.

## ГАДАВЫЯ ЗБОРКІ Ў АДЗЬДЗЕЛАХ ЗБВБ

У Манчэстэры Гадавая Зборка адбылася I2.VII. Справаздача ўступаючае ўправы аднавіла ў памяці сяброў усе тыя шматлікія цяжкасьці і клопаты з якімі давялося мець дачыненьне ня толькі ўправе адзьдзелу, але і ўсім сябром, за апошні год. Дык прызнаўшы абсалюторыю, выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня сп.Х. Кажаневіч, заступнік старш. -сп-ня Б.Рагель, сакратар - сп. М. Яськевіч, скарбнік сп.С.Рагель, адміністратар Дому сп.М.Віценьчык.

У Брадфордзе Гадавая Зборка адбылася I7.VIII. Пасьля справаздачы ўступаючае ўправы аб сваёй дзейнасьці і інфармацыі аб Гадавым Зьезьдзе ў Лёндане прызнана ўправе абсалюторыю і выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня - сп.Я.Каўбаса, сакратар і скарбнік сп.С.Мак, сябра ўправы сп.А.Сасна, адміністратар Дому - сп. Хв.Лемяшонак.

## УВАГА: НОВЫ АДРАС !

У зьвязку з перанясеьнем Беларускага Дому ў Брадфордзе ў новае памешканьне ўправа адзьдзелу ЗБВБ, управа Рады БАПЦ і ўправа Юнацкага Клюбу перанесены ў новае памешканьне. Усю карэспандэнцыю для гэтых установаў просіцца слаць на новы адрас: 12 Walmer Villas, Manningham, Bradford 8.

## НА МІЖНАРОДНАЙ НІВЕ

Амбасада Паўднёвага Ветнаму ў Лёндане ладзіла 20.VII прыняцьце з нагоды Жэнэўскае Канвэнцыі адносна Ветнаму. Ад імені беларусаў прысутнічалі на прыняцьці: сп.Я.Міхалюк, сп.Я.Бунчук і сп. А. Здапковіч.

## У АНГЛА-БЕЛАРУСКІМ ТАВАРЫСТВЕ

Гэтая арганізацыя паволі расьце і колькасна і якасна. Яна мела сваю Гадавую Зборку 24.VII.Абгаварыўшы актуальныя справы і прыняўшы новых сяброў,перавыбрана кіраўніцтва і ўправу з мінулага году бяз ніякіх зьменаў.

Часапіс, які выдае гэтая арганізацыя: The Journal of Byelorussian Stud. ужо друкуецца Нр.3 і рыхтуецца да друку Нр.4.

## МІЛЫ ГОСЬЦЬ

Былы старшыня ЗБВБ сп.М.Нікан, які цяпер жыве ў Астраліі, адведваючы Эўропу, завітаў так-жа і ў Лёндан і быў вельмі жаданым госьцем у беларускіх арганізацыях і сваіх старых знаёмых.

К А М У Н І К А Т
ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52 Penn Road, LONDON, N.7

Нр. 70 Лёндан 20-га сьнежня 1969 году

УСІМ БЕЛАРУСАМ І ЎСІМ НАШЫМ ПРЫЯЦЕЛЯМ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ ЖАДАЕМ ВЯСЁЛЫХ СЬВЯТ НАРАДЖЭНЬНЯ ХРЫСТА І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!

Галоўная ўправа З.Б.В.Б.

- - - - - - - - -

БЕЛАРУСКІ КЛЮБ "САКАВІК" У БРАДФОРДЗЕ

Нованабыты Беларускі Дом у Брадфордзе прастарнейшы за папярэдні і дае магчымасьць разгарнуць шырэй грамадзкую працу. У зьвязку з гэтым пры адзьдзеле ЗБВБ утворана Беларускі Грамадзкі Клюб "Сакавік", у якім 29.IX.69 адбылася першая зборка сяброў, на якой абгаварыўшы арганізацыйныя справы і намеціўшы плян працы, выбрана ўправу ў такім складзе: старшыня сп.А.Калько, сакратар сп.Я.Калбаса, скарбнік сп.Х.Лемяшонак, сябры сп.сп. Б. Кляйноў і А.Мучынскі.

АДКРЫЦЬЦЁ КЛЮБУ

Урачыстае адкрыцьцё Беларускага Клюбу "Сакавік" адбудзецца I7-га студзеня I970 г. праз Брадфордзкага Лёрда Маёра з удзелам прадстаўнікоў ад беларускіх грамадзкіх і рэлігійных арганізацыяў у Англіі і запрошаных гасьцей.

ЛЁНДАНСКІ АДЗЬДЗЕЛ З.Б.В.Б.

Гадавая зборка Лёнданскага Адзьдзелу ЗБВБ адбылася 5-га кастрычніка ў Беларускім Доме. Пасьля справаздачы ўступаючае ўправы і кароткае дыскусіі ды абсалюторыі з падзякаю выбрана новую ўправу ў наступным складзе: старшыня - сп.Я.Сяўковіч, сакратар - а.Р.Тамушанскі, скарбнік - сп-ня Л.Міхалюк.

ПАДЗЯКА

Доўгагадовы адміністратар Беларускага Дому ў Манчэстэр сп.М.Віценьчык пераехаў у Брадфорд. Галоўная ўправа ЗБВБ яму шчыра дзякуе за ахвярную працу адміністратара Дому і выказвае яму шчырае беларускае "Шчасьць Божа!" на новым мейсцы жыхарства і пры ўладжаньні клюбу ў Брадфордзе.

НОВЫ АДМІНІСТРАТАР

З днём I-га кастрычніка I969 г. Адміністратарам Беларускага Дому ў Манчэстэры назначаны сп.С.Рагель. Галоўная ўправа ЗБВБ жадае яму найлепшых посьпехаў у працы.

ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Сёлета першы раз у Вялікай Брытаніі ад 9-га да I6-га лістапада быў зарганізованы Тыдзень Паняволеных Народаў. Ініцыятарам гэтага "Тыдня была Брытыйская Ліга для Эўрапэйскае Свабоды. На праграму "Тыдня" складаліся маніфэстацыі, зборкі і Мітынгі. Адбываліся яны ў Лёндане, Брадфордзе, Манчэстэры і Нотінгаме. Ува ўсіх гэтых гарадох разам з прадстаўнікамі іншых народаў удзельнічалі так-жа і беларусы. У зьвязку з маніфэстацыямі паасобныя нацыянальныя групы высылалі мэмарыялы Брытыйскаму прэм'еру сп.Г.Вільсану. Ад вольных беларусаў у Лёндане мэмарыял падпісаў сп.П.Юнах. Ад Беларусаў у Брадфордзе сп.Я.Калбаса.

У праграме падрыхтоўкі да "Тыдня" 7.XI адбылася прэсавая

канфэрэнцыя, на якой ад беларусаў прысутнічалі сп.П.Асіповіч і сп.К.Глінскі.

Дня 13-га лістапада для прадстаўнікоў ад удзельнікаў Тыдня Паняволеных Народаў Саюз Украінцаў у Вялікай Брытаніі ладзіў прыняцьце. У перапоўненай салі ад імені беларусаў прысутнічалі старш.гал.управы ЗБВБ сп.П.Навара з жонкаю, сакратар гал.упр. ЗБВБ сп.Я.Міхалю і а.П.Вяліkі.

У Брадфордзе з нагоды "Тыдня" Лёрд Маёр прыняў дэлегацыі паняволеных народаў, якая складалася з беларусаў, летувісаў, украінцаў і эстонцаў. Усе яны былі ў нацыянальных вопратках. Мяйсцовая газэта Teleghraph and Argus падала аб гэтым прыняцьці прыхільную зацемку.

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ЧЫНУ

Лёнданскі адзьдзел ЗБВБ 30-га лістапада азначыў 49-ыя ўгодкі Слуцкага ваеннага чыну. З гэтае нагоды была адпраўлена Служба Божая ў капліцы Марыйскага Дому, а папалудні адбылася акадэмія, на якой сп.Г.Пікарда прачытаў зьмястоўны рэфэрат аб водгуках у ангельскай прэсе аб Слуцкім паўстаньні. Затым было прыняцьце для ўсіх удзельнікаў.

## КУРС ЛЕКЦЫЯЎ БЕЛАРУСАВЕДЫ

Ужо чацьвёрты год Англа-Беларускае Таварыства ў Лёндане зарганізавала ккурс лекцыяў на тэмы розных галінаў беларускае культуры. Сёлета лекцыі адбываюцца ў тым-жа будынку Брытыйскае Акадэміі, што і летась, толькі ў іншай салі - Таварыства Антыквараў. Паведамленьні з праграмаю лекцыяў былі разасланы два месяцы таму, але хто яшчэ жадаў-бы іх мець, можа атрымаць у канцылярыі Галоўнае Управы ЗБВБ і канцылярыі Англа-Белар.Т-ва.

## НАВІНЫ З ПРЭСЫ

Сёлета Кангрэгацыя для Усходняе Царквы выдала вялікую кнігу La Sacra Congregazione per le Chiese Orientale nel cinquantesimo della fondazione 1917-1967.Roma 1969 у якой на стар. 251-258 зьмешчаны артыкул уладыкі Ч.Сіповіча: I Bielorussi Да таго шмат разоў прынагадна ўспамінаецца аб беларусах у агульнай частцы і ў некаторых дакумантах.

---

Лякальная Лёнданская газэта з перадмесьця Фіншлі The Finchley Press, October 10th 1969 Nr 3962 зьмясьціла цікавы інфармацыйны артыкул аб беларускай хлапцоўскай школе, бібліятэцы і капліцы ў Лёндане з загалоўкам: The Refugee Community Holden Road ... it's a Good Place to Live, Say the Exiles.

# КАМУНІКАТ

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52 Пэнн Р-д, Лёндан, Н.7

---

Нр. 71 Лёндан, 23-га траўня, 1970 году

---

## 24 - і ЗВЫЧАЙНЫ ГАДАВЫ ЗЬЕЗД СЯБРОЎ І ДЭЛЕГАТАЎ З.Б.В.Б.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 24-і Агульны Звычайны Гадавы Зьезд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца дня 20-га чэрвеня, 1970 году ў памешканьні Школы школы сьв. Кірыла Тураўскага, 39 Гольдэн Р-д, Лёндан, Н.12. Даезд: Ўодсайд Парк падземка. Пачатак Зьезду а гадз. 3,30 па паўдні.

Прапануецца наступны Парадак Дня /Пастанова Галоўнай Ўправы ЗБВБ з дня 22-га красавіка, прат. Нр. 210/:

1. Адкрыцьцё Зьезду і малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма Зьезду.
4. Прыняцьце пратаколу з папярэдняга Зьезду.
5. Справаздача ўступаючае Галоўнае Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыя з здейнасьці Харытатыўнае Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфармацыя беларускіх клюбоў: Манчэстэр -- Брадфорд.
9. Справаздачы управаў аддзелаў ЗБВБ.
10. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.
11. Інфармацыя Юнацкага Клюбу пры аддз. ЗБВБ у Брадфорлзе.
12. Дыскусіі над справаздачамі.
13. Справаздача Наглядднае Рады ЗБВБ.
14. Абсолюторыя для ўступаючае Галоўнае Ўправы ЗБВБ.
15. Плян працы.
16. Выбары новае Галоўнае Ўправы ЗБВБ.
17. Выбары Наглядднае Рады ЗБВБ.
18. Назначэньне аўдытара.
19. Розныя справы.
20. Закрыцьцё Зьезду. -- Нацыянальны Гімн.

Ўправа аддзелаў і сябры, якія жадаюць унесьці нейкія дапаўненьні да прапанавага Парадку Дня, павінны паведаміць аб гэтым Галоўную Ўправу ЗБВБ прынамся 10 дзён перад Зьездам.

Прыпамінаецця ўсім, што права голасу на Зьездзе маюць тыя сябры, якія заплацілі сяброўскія складкі да сакавіка 1970 году уключна.

Едучы на Зьезда, сябры і дэлегаты, павінны мець з сабою важныя сяброўскія білеты.

У нядзелю 21-га чэрвеня будуць адслужаны сьв. Літургіі: для праваслаўных у школе сьв. Кірыла Тураўскага, 39, Гольдэн Р-д. Н.12 а гадз. 10,30 раніцай, /адслужыцца Настаяцелем БАПЦарквы айцом Янкам/, у капліцы сьв. апост. Пятра і Паула ў Мар'ян Гаўз а гадз. 8,15 ран. для каталікоў.

Пасьля сьвятых Літургіяў будзе скромны пачастунак у Школе для ўдзельнікаў Зьезду і прысутных на багаслужэньні вернікаў.

Галоўная Ўправа ЗБВБ заклікае ўсіх сяброў прыехаць на Агульны Зьезд - выканаць свой сяброўскі абавязак.

За Галоўную Ўправу ЗБВБ

Я. Міхалюк

Я. Міхалюк

Сакратар

Згуртаваньне Беларусаў у В.Брытаніі
52, Penn Rd., LONDON, N.7 9RE.

# КАМУНІКАТ № 72

25-ты агульны звычайны гадавы зьезд сяброў й дэлегатаў ЗБВБ.

Галоўная Управа ЗБВБ. падае да ведама усіх сяброў, што 25-ты гадавы зьезд сяброў й дэлегатаў адбудзецца 17 ліпеня 1971 года ў памешканьні дому ЗБВБ. у Лёндане 52, Penn Rd., LONDON, N.7 9RE.
Пачатак Зьезду а гадзіне 15.00. Рэестрацыя прыбыўшых а гадз. 14.00

Прапануецца наступны парадак зьезду:

1. Адкрыцьце й малітва.
2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма Зьезда.
4. Прачытаньне й прыняцьце пратаколу з папярэдняга Зьезду.
5. Справаздача уступаючай Гал. Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыя Дапамаговае сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфармацыя беларускіх клюбаў: Брадфорд і Манчэстар.
9. Справаздачы Управаў Адзьдзелаў ЗБВБ.
10. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.: Брадфорд-Манчэстар - Лёндан.
11. Інфармацыя Юнацкага клюбу пры Адзьдзеле ЗБВБ. у Брадфордзе.
12. Справаздача Нагляднае Рады ЗБВБ.
13. Дыскусіі над справаздачамі.
14. Абсолютарыюм для усупаючай Гал. Управы ЗБВБ.
15. Плян працы.
16. Выбары новае Гал. Управы ЗБВБ.
17. Выбары Нагляднае Рады ЗБВБ.
18. Назначэньне аўдытара.
19. Устанаўленьне сумы сябр. складкі.
20. Дата 25-тых угодкаў ЗБВБ.
21. Розныя справы.
22. Закрыцьце Зьезду - Нацыянальны гімн.

Час і месца сьв. Літугіі для удзельнікаў Зьезду будзе падаены па закрыцьці Зьезду.

Управы Адзьдзелаў, ці паасобныя сябры, якія жадаюць унесьці нейкія дапаўненьні да парадку Зьезду, павінны паведаміць аб гэтым Галоўнаю Управу ЗБВБ. не пазьней 10 дзён перад датай Зьезду.
Падаецца да ведама, што права голасу на Зьезьдзе будуць мець толькі тыя сябры, што маюць аплочаныя сяброўскія складкі да красавіка 1971г.
Едучы на Зьезд, усе сябры павінны мець із сабой важныя сяброўскія білеты. Хто із сяброў не зможа прыбыць на Зьезд, можа даць упаўнаважаньне на права голасу за сябе іншаму сябру, уручаючы яму упаўнаважаньне.

Лёндан, дня 19 чэрвнь 1971г.

За Гал. Управу ЗБВБ.
Сакратар.

/-/ А. Лашук

Галоўнае Управе З.Б.В.Б.

Я - _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ пражываючы _________________ сябра ЗБВБ., вызначаю сп. _______________, а у выпадку, каб успомнены ня мог гэтага выканаць, сп. _______________ да галасаваньня ад майго імя на звычайным Зьезьдзе ЗБВБ., які адбудзецца 17 ліпеня 1971г., і на кожным адложаным Зьезьдзе, што сьцьверджаю ўласнаручным подпісам.

Подпіс _______________

_______________ дня _______________ 1971г.

ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, LONDON, N7 9RE

КАМУНІКАТ Нр. 73 --- ЛЕНДАН --- IO-га Чэрвеня, I972 г.

26-ы агульны звычайны гадавы з'езд ЗБВБ

Гэтым падаецца да агульнага ведама, што 26-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца у суботу дня I-га ліпеня, I972 году у памешканні Дому ЗБВБ у Лёндане пад адрасам, як вышэй.

Прапануецца наступны Парадак Дня З'езду:

I. Адкрыццё З'езду і Малітва. 2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду. 4. Прыняцце Пратаколу з папярэдняга З'езду.
5. Справаздача уступаючай Гал. Управы. 6. Справаздача Аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасці харытатыўнай Сэкцыі.
8. Інфармацыя з дзейнасці Беларускіх Клюбаў у Брадфордзе і Манчэстары.
9. Справаздачы Управаў Аддзелаў ЗБВБ.
IO. Справаздачы Адміністратараў Дамоў ЗБВБ. II. Дыскусіі над справаздачамі.
I2. Справаздача Нагляднай Рады ЗБВБ.
I3. Абсолюторыюм для уступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
I4. Плян працы на наступную кадэнцыю. I5. Выбары новай гал. управы.
I6. Выбары новай нагляднай рады. I7. Назначэнне аўдытара.
I8. Розныя справы. I9. Закрыццё З'езду і Нацыянальны Гімн.

Управы Аддзелаў, ці паасобныя сябры ЗБВБ жадаючыя ўнесці якія-колечы дапаўненні да гэтага праекту Парадку Дня З'езду павінны паведаміць аб гэтым Гал. Управу не пазней як IO дзён перад тэрмінам з'езду, г.зн. да 2I-га чэрвеня г. году. Каб мець права голасу на З'ездзе неабходна мець сяброускія складкі аплачаныя да сакавіка г.году уключна. Усе сябры і дэлегаты павінны мець з сабой важныя сяброускія легітымацыі.

Архіяпіскап Ул. Андрэй у Англіі

У верасні мінулага году наведаў беларускія асяродкі ў Англіі Архіяпіскап БАПЦ Ул. Андрэй. Дня I2-га верасня Ул. Андрэй узвёў у сан святара сябру ЗБВБ сп. Янку Пякарскага. Гал. Управа ЗБВБ вітае новага беларускага святара і жадае яму поспеху у рэлігійнай ніве. Уладыка Андрэй адслужыў багаслужбы у наступных асяродках: у Нотынгаме 29-га жніўня, у Брадфордзе 5-га верасня, у Манчэстары I2-га верасня, у Бірмінгаме I9-га верасня, у Лёндане 26-га верасня, у Кэмбрыджы 3-га кастрычніка.

У Лёндане ведамыя ворагі БАПЦ стараліся сарваць назначаную багаслужбу на дзень 26-га верасня у царкве св. Лукі на Пенн Роўд. Яны зачалі шантажаваць і страшыць настаяцеля гэтай царквы а. Піктона. Аднак гэты варожы плян ім не ўдаўся і Ул. Андрэй адслужыў св. Літургію вельмі урачыста у саслужэнні аа. Я. Абабуркі і Я. Пякарскага пры удзеле вялікай колькасці вернікаў.

5I-ыя Угодкі Слуцкага Паўстання

У Лёндане Акадэмія з нагоды 5I-ых угодкаў Слуцкага Паўстання была наладжаная мясцовым Аддзелам ЗБВБ і адбылася у Беларускім Грамадзкім цэнтры на Фінчлей. Старшыня Аддз. ЗБВБ, сп. Я. Сяуковіч прывітаў прысутных, і сакратар аддз. ЗБВБ, а. Р. Тамушанскі прачытаў прынагодны рафарат. Па афіцыяльнай часці было тут-жа наладжана прыняцце.

Міжнародны Канцэрт Песень і Танцаў

У нядзелю 5-га снежня мінулага году быў наладжаны у Hammersmith Town Hall /заходні Лёндан/ міжнародны канцэрт песень і танцаў. У канцэрце ўзялі удзел I4 міжнародных юнацкіх групаў, сярод іх і беларуская група. Канцэрт прайшоў з вялікім поспехам.

Рэпрэзэнтацыйная праца ЗБВБ

Прадстаўнікі ад ЗБВБ бралі ўдзел у наступных імпрэзах і прыняццях:

На прыняцці ў Палаце Лёрдаў ладжаным Таварыствам Мазэпы дня 26.IO.7I г.
На прыняцці ў В'етнамскай амбасадзе, якое адбылося дня 28.IO.7I г.
На прыняцці у Албанцаў у сувязі з угодкамі незалежнасці.
На інтэр-дэнамінацыйнай багаслужбе у парафіяльнай царкве на Кінгскрос. Пазней на прыняцці у царкоўнай залі ў гутарцы са святаром з гэтай царквы а. Солтэрам выявілася, што ён мае дакументальныя паказанні да ягонага сваяцтва з беларускай святой Еўфрасіняй Полацкай

На прэсавай канфэрэнцыі ладжанай 29.I.1972 праз УНР з нагоды прыезду През. УНР Левіцкага.
На прыняцці у Палаце Лёрдаў ладжаным стараннямі Эўрапэйскай Групы Лучнасці /European Liaison Group/ дня - 2.I.72. Гэтая арганізацыя апошнімі часамі праяуляе вялікую актыўнасць і мае вельмі добрыя кантакты з ангельскімі палітычнымі чыньнікамі. Сп. П. Асіповіч з'яуляецца скарбнікам гэтай арганізацыі і укладае у яе шмат працы.

На прыняцці 21.I.72 ладжаным прадстаўніцтвам УНР з нагоды дня незалежнасці Украіны.
На прыняцці у Літоускім Клюбе дня 28.I.72 ладжаным Эўрапэйскай Групай Лучнасці, дзе выступаў з прамовай пасол парляменту Сп. Стуарт-Сміт.
На прыняцці у літоускім клюбе дня I6.2.72 ладжаным Літоускім Камітэтам з нагоды Дня Незалежнасці Літвы.

## Старшыня Рады БНР Др. В. Жук-Грышкевіч у Англіі.

Старшыня Рады БНР, разам з жонкай Др. Раісай Жук-Грышкевіч наведалі большыя беларускія асяродкі у Вялікабрытаніі Былі яны тут ад I4-га да 23-га красавіка г. году. Прыехалі яны з Канады на спэцыяльнае запрошанне Гал. Управы ЗБВБ у сувязі са святкаваннем 25-ці годдзя ЗБВБ. Др. В. Жук-Грышкевіч быў ініцыятарам і закладчыкам ЗБВБ у 1946 годзе і ягоным першым старшынёй. Др. Жук-Грышкевіч быў галоўным прамоўцам на урачыстай акадэміі прысвечанай 25-ці годдзю ЗБВБ, якая адбылася дня I6.4.72 у Беларускім Грамадзкім Цэнтры на Фінчлей. На Акадэміі прысутнічалі мясцовыя беларусы і прыехаўшыя спэцыяльна з іншых асяродкаў з Англіі і Францыі. Таксама былі прадстаўнікі ад большасці чужынецкіх арганізацыяў. На рукі старшыні святочнай Акадэміі была надаслана вялікая колькасць віншавальных тэлеграмаў ад беларускіх і чужынецкіх арганізацыяў у вольным свеце, а таксама ад паасобных беларусаў былых сяброў, ці сымпатыкаў ЗБВБ.
Прамаўлялі на Акадэміі апрача ўспомненага Др. В. Жук-Грышкевіка, Яго Даст. Ул. Ч. Сіповіч, старш. ЗБВБ Сп. Я. Міхалюк, старш. Згуртавання Беларусаў Канады Др. Р. Жук-Грышкевіч, старш. Хаўрусу Беларускіх Работнікаў у Францыі Сп. М. Наумовіч і прадстаўнік украінцаў праф В. Шаян.
Др. В. Жук-Грышкевіч правіў канфэрэнцыі з сябрамі Рады БНР -- у Лёндане дня I5.4.72, у Брадфордзе 21.4.72, у Манчэстары 22.4.72. Тутжа былі прынятыя прысягі ад двух новых радных БНР, сп. Х. Кажаневіч і сп. Хв. Лемяшонак.

## 54-ыя Угодкі Абвешчання Незалежнасці Беларусі

У Брадфордзе Акадэмія з гэтай нагоды была наладжана ў суботу 25-га сакавіка у Беларускім Доме ў Брадфордзе. Даклад на тэму Акту 25-га сакавіка зрабіў заст. старш. Гал. Управы ЗБВБ сп. Хв. Каханевіч.

У Манчэстары Акадэмія адбылася ў Беларускім Клюбе дня I5-га красавіка. Даклад зрабіў заст. Старш. Гал. Управы сп. Хв. Кажаневіч.

У Лёндане святкаванне 25-га сакавіка было спалучана са святкаваннем 25-ці годдзя заснавання ЗБВБ.

## Шлюб сп. Гая Пікарды

У суботу I5.4.72 адбыўся ў царкве св. Этыльдрыды шлюб сп. Г. Пікарды і сп-і Сузан Фільдінг. Сп. Г. Пікарда ёсць сакратаром Ангельска-Беларускага Таварыства і чынным сябром ЗБВБ. Ён таксама мае ганаровае беларускае грамядзянства, наданае яму былым старш. Рады БНР б.п. інж. М. Абрамчыкам. На шлюбе было прысутных многа беларусаў, прыяцеляў сп. Г. Пікарды, між іншых Уладыка Ч. Сіповіч, Старш. Рады БНР ДР. В. Жук-Грышкевіч.

Гал. Управа ЗБВБ жадае Сп-ву Пікардам шмат шчасця і памыснасці з нагоды іх шлюбу і спадзеецца, што гэтым мы придбалі яшчэ аднаго сымпатыка і працоўніка для беларускай справы.

## Сп. Кастусь Мярляк у Англіі

Сваю прафэсійную паездку ў Эўропу /Галяндыю/ Сп. К. Мярляк выкарыстаў, каб наведаць Беларускі асяродак у Лёндане.
У нядзелю 21.5.72 па багаслужбе Сп. К. Мярляк зрабіў даклад у бібліятэцы ім. Фр. Скарыны для мясцовых беларусаў. Дакладчык глыбока прааналізаваў беларускае арганізацыйнае жыцце у Амэрыцы. Па дакладзе адбылася даўжэйшая дыскусія.

Гал. Управа ЗБВБ

ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Галоўнае Управе ЗБВБ

Я ______________________________ пражываючы ________________ сябра ЗБВБ, вызначаю сп. ________________, а у выпадку, каб успомнены ня мог гэтага выканаць, сп. ________________ да галасавання да майго імя на звычайным З'ездзе ЗБВБ, які адбудзецца дня ____________, і на кожным адложаным З'ездзе, што сцверджаю ўласнаручным подпісам.

____________дня ------------ 197__г. Подпіс ____________________

ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Галоўнае Управе ЗБВБ:

Я __________________________пражываючы __________________сябра ЗБВБ, вызначаю сп. __________, а у выпадку, каб успомнены ня мог гэтага выканаць, сп. __________ да галасавання ад майго імя на звычайным З'ездзе ЗБВБ, які адбудзецца ______________, і на кожным адложаным З'ездзе, што сцверджаю ўласнаручным подпісам.

Подпіс ____________________

_____________ дня ______________ 197___г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XX | СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ | № 1 (129)


## 25-годзьдзе ЗБВБ

Другая Сусьветная вайна мела вялізарны ўплыў на Беларусь і на беларусаў. Гэтая вайна прычыніла страшэнную руіну: спусташэньне і разбурэньне нашых гарадоў і вёсак зьнішчыла масу людзей дый вялікі лік насельніцтва быў выселены, забраны ў палон, разагнаны ці змушаны быў ратавацца ўцёкамі. Калі ўлічыць, што Беларусь у I-ую вайну была арэнай баёў і доўгі час перарэзаная фронтамі нямецка-расейскім, а пасьля польска-бальшавіцкім дый ад 1921 да 1941 падзеленая паміж Польшчай і Расеяй, а ў II-ой вайне таксама пад фронтамі і падзелена ворагамі, якія яе ўзаемна вынішчалі, а змагаліся найбольшыя дзяржавы сьвету, дый верхаводамі іх былі найгоршыя тыраны сьвету — Гітлер і Сталін, — дык у гэтай сусьветнай катастрофе Беларусь была архярай прызначанай да поўнага зьнішчэньня!

Аднак нельга не адцеміць і некаторых пазытыўных зьявішчаў: пасьля апошняй вайны тэрыторыя Беларусі павялічылася блізу ўдвая і значна паглыбілася нацыянальная сьведамасьць, асабліва сярод маладога пакаленьня.

У выніку вайны тысячы беларусаў апынуліся й розных чужых краінах. Усіх іх называюць палітычнымі эмігрантамі — уцекачамі, хоць шматлікія з іх ня былі замешаныя ў ніякую палітыку, а толькі дзеля няпрыязных палітычных умоваў былі змушаныя пакінуць бацькаўшчыну.

У Вялікай Брытаніі знайшлося каля 15 тысяч беларусаў, пераважна былых вайсковых розных арміяў і прывезеных сюды перасяленцаў з Нямеччыны.

Беларусы зьявіліся сюды, як тыя «Рабінзоны»: яны тут нікога не зналі дый і іх ня знаў ніхто. А нетрапная назва «Белёрашша» і «Белёрашшан» зусім не памагала брытыйцам зразумець, хто мы такія. А некаторыя беларусы былі ў дакумэнтах запісаныя палякамі (каталікі), расейцамі (праваслаўныя), або нават латышамі ці летувісамі!

Урэшце тэгеранскі і ялтанскі дагаворы Савецкага ўраду з Брытаніяй і з Амэрыкай прадбачвалі прымусовую рэпатрыяцыю былых грамадзян Савецкага Саюзу. Таму кожны, як могучы, уцякаў якнайдалей ад савецкага насілля і гвалту!

Не зважаючы на ўсялякія цяжкасьці, беларускія патрыёты, якія заўсёды мелі з сабою сувязь, пачалі арганізаваць на чужыне сваё грамадзка-культурна-рэлігійнае жыцьцё.

Кіпячая дзейнасьць асабліва праяўляецца ў гадах 1946—48. І тады хроніка беларускіх падзеяў адзначае:

— Першы сход Ініцыятыўнай Групы Беларусаў у Вял. Брытаніі, 22 верасьня 1946 г. ў Лёндане.

— Першы Камунікат той-жа Ініцыятыўнае Групы, якая пастанавіла арганізаваць ЗБВБ. (Камунікат бяз даты, але мусіў выйсьці ў лістападзе 1946).

— Першы нумар беларускага часапісу «На Шляху» (30 лістапада 1946).

— Першы Агульны Зьезд ЗБВБ, які адбыўся ў Лёндане 18 і 19 студзеня 1947 г. пры вялікай колькасьці прысутных, пераважна былых жаўнераў.

— Першы нумар «Беларуса на чужыне» (7 кастрычніка 1947 г.).

— Першы куплены Беларускі Дом у Лёндане (29 кастр. 1948 г. былі закончаные ўсе фармальнасьці куплі).

— Першая беларуская арганізацыя зьлегалізаваная ў Вял. Брытаніі, як супалка з абмежанаю адказнасьцю (24 сьнежня 1948).

*

Калі мы ўспамінаем некаторыя важныя здарэньні з дзейнасьці ЗБВБ, дык варта назваць і тых людзей, якія першымі ўзяліся за грамадзкую працу.

Ідэйным закладчыкам ЗБВБ быў др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч, а найбольш рухлівым ягоным супрацоўнікам, які праз нейкі час трымаў у чамадане пад вайсковым ложкам усе сьпісы сяброў, камунікаты і заявы, быў Віктар Сенкевіч. Вось-жа гэтыя два дзеячы распачалі сэрыю Старшыняў Галоўнае Управы — Др. В. Жук-Грышкевіч і Сакратароў — В. Сенкевіч. Ад самага пачатку да іх далучыліся: А. Надсон, К. Нор, Ч. Кукель,



...Міхалюк, Старшыня




Ф. Бартуль і інш. Хутка ўцягнуліся ў працу П. Асіповіч, М. Нікан, У. Курыла, М. Яськевіч, М. Баяроўскі, П. Навара, А. Лашук, Ул. Бутрымовіч, Я. Сяўковіч, Я. Міхалюк, Т. Какаженевіч і нямала іншых з Лёндану дый з іншых гарадоў і мясцоў Брытаніі.



*Учасьнікі II-га Агульнага Зьезду ЗБВБ. Лёндан. 2. V. 1948.*

У радох сяброў ЗБВБ ахвярна працавалі беларускія сьвятары, а цяперашнія біскупы: А. Крыт, Ч. Сіповіч, а таксама Архімандрыт Л. Гарошка, Протоерей Я. Абабурка і а. Р. Тамушанскі.

Праявамі канкрэтнай дзейнасьці ЗБВБ трэба лічыць: куплю і адміністраваньне трох Беларускіх Дамоў, выдаваньне часапісаў і брашур, зборку грошаў на розныя харытатыўныя, грамадзкія і культурныя патрэбы, арганізаваньне нацыянальных сьвятаў, (перадусім 25 Сакавіка і Слуцкага паўстаньня) а таксама рэлігійных — каталіцкіх і права-



*Учасьнікі XXV-га Агульнага Зьезду ЗБВБ. Лёндан. 17. VII. 1971.*

слаўных, дый супрацоўніцтва з арганізацыямі іншых нацыяў у камітэтах, як: Central Coordinating Committee; The European Liaison Group; Anglo-Byelorussian Society, — а таксама арганізаваньне дакладаў, лекцыяў, прыняцьцяў і вечарынаў.

У будучыні пільны гісторык ЗБВБ павінен будзе падлічыць, колькі і калі і дзе адбываліся ўспомненыя факты — пасьведчаньне дзейнасьці ЗБВБ. Памогуць яму ў гэтым Камунікаты Галоўнае Управы (85), пратаколы Агульных Зьездаў (25), пратаколы паседжаньняў Гал. Управы (218) і пратаколы зборкаў Аддзелаў, артыкулы ў розных газэтах і часапісах аб працы ЗБВБ.

Тут з прызнаньнем трэба сьцьвердзіць, што ЗБВБ бяздзейным ня было! Магло-бы яно зрабіць і больш, а магчыма многія справы залагодзіць і лепш. Аднак, на жаль, зашмат працы кладзецца на ахвярныя адзінкі, калі іншыя, прыдбаўшы капейку, вельмі натужваюцца яе павялічыць, а часамі аддаюць увесь вольны час толькі тэлевізіі ... А прытым і лютая сьмерць падкошвае рады беларускіх патрыётаў і дзеячоў. Нарастае, праўда, маладое пакаленьне, але яно пераважна ўзгадаванае ў чужых школах, ня ведае роднай мовы і мала цікавіцца краінай, грамадзкай працай і справамі бацькоў.

ЗБВБ прабавала няраз арганізаваць свае школкі, займацца моладзьдзю, але дзеля шматлікіх перашкодаў вынікі нашых натугаў у гэтай галіне былі мізэрныя.



Сваю прафэсійную паездку ў Эўропу /Галяндыю/ Сп. К. Мярляк выкарыстаў, каб наведаць Беларускі асяродак у Лёндане.

У нядзелю 21.5.72 па багаслужбе Сп. К. Мярляк зрабіў даклад у бібліятэцы ім. Фр. Скарыны для мясцовых беларусаў. Дакладчык глыбока прааналізаваў беларускае арганізацыйнае жыцьцё у Амэрыцы. Па дакладзе адбылася даўжэйшая дыскусія.

Глянуўшы на прабыты шлях 25 гадоў, шлях складаны, загружаны каменьнямі-валунамі, трэба было-б спытацца: Што далей?

«Дваццаць пяць год!
А яшчэ колькі?
Хто скажа?
Хто тут прарок?
Колькі нас пры дарозе той ляжа
У чужы няпрытульны пясок?»

Гэта ўзята з вершу Пятруся Сыча, які пісаў яго ў 10-ю гадавіну ЗБВБ. І сам ужо лёг у пясочку на могілках у Мюнхэне. Мы аднак ідзём далей. Праблема не зьмянілася.

Для падтрыманьня унутранай дысцыпліны нас чакаюць зьезды, паседжаньні, выбары у Ўправу, лекцыі і інш., за што ніхто нікому ня плаціць.

Мы і надалей павінны і будзем пашыраць веду аб нашай Бацькаўшчыне сярод чужынцаў, падтрымліваць сваіх суродзічаў і свае установы, інфармаваць грамадзтва аб сапраўдных дасягненьнях нашага народу і аб злачынствах і крыўдах, якія прычыняе беларускаму грамадзтву і адзінкам партыйны рэжым у БССР.

Заданьне вялікае і адказнае: дай, Божа, усім нам сілы і вытрыманасьці!

*Лёндан. 18-га студзеня 1972 г.* *А. Дз-ка.*

# Сьвятой памяці Дамінік Аніськo

Падаём вынятки з КАМУНІКАТУ разасланага пасьля сьмерці Дамініка Аніські, дапаўняючы паведамленьнем аб пахаваньні.

У панядзелак пасьля Калядаў, 28-га сьнежня 1971 г. раптоўна памёр у Беларускім Доме ў Лёндане ДАМІНІК АНІСЬКО. Прычына сьмерці пададзеная доктарам: востры або хранічны бранхіт. Такжа цяжкі жыцьцёвы шлях і пажылы век зрабілі сваё.

*

Дня 7 студня 1972 г. ў пятніцу ў капліцы Сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Марыян Гоуз перад труной з целам памёршага была адслужана Сьв. Літургія айцом Язэпам Гэрмановічам у рымскім абрадзе ў беларус-

«надаць кірунак хрысьціянскі». Гэтай вялікай ідэі Аніська астаўся верны ва ўсіх сваіх творах аж да сьмерці!

Ад 1949 году жыў у Беларускім Доме ў Лёндане і жыў з пэнсіі, працуючы прынагодна. Высылаў пачкі і лякарствы сваяком і розным людзям, якія да яго зьвярталіся.

*

Усе мы добра помнім дзядзьку Дамініка: невялікага росту, сінія дабрадушныя вочы, лагодная ўсьмешка, далікатнасьць і ветлівасьць у голасе, скромная вопратка, шчырая бяз ніякае позы пабожнасьць — вось незабыўныя уласьцівасьці Аніські.

Гэты навонкі сьціплы, ціхі чалавек таіў

праанализаваў беларускае арганізацыйнае жыцце у Амэрыцы. Па дакладзе адбылася даўжэйшая дыскусія.

# К А М У Н І К А Т

## ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52 Пэнн Рд. Лёндан, Н.7

Нр. 74 Л ё н д а н 26-га траўня 1973 году

### 27 -ы ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗБВБ

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што згодна з пастановай Гал. Управы ЗБВБ з дня 28.4.73 /Прат. Нр.224/ 27-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброу і дэлегатаў Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня 23-га чэрвеня гэтага году ў Беларускім Доме у Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд разпачнецца а гадз. 3-яй па паўдні.

Гал. Управа падае наступны праект Парадку Дня З'езду:

I. Адкрыццё З'езду і Малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма З'езду.
4. Прыняцце пратаколу з папярэдняга З'езду.
5. Справаздача уступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфарм. з дзейнасці Бел. Клюбаў у Манчэстэры і Брадфордзе.
9. Справаздачы управаў аддзелаў ЗБВБ.
IO. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.
II. Дыскусіі над справаздачамі.
I2. Справаздача Наглядная Рады ЗБВБ.
I3. Абсолюторыюм для уступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
I4. Справы Беларускіх Клюбаў у Манчэстэры і Брадфордзе.
I5. Плян працы на наступную кадэнцыю.
I6. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
I7. Выбары новай Наглядная Рады і Сяброўскага Суду.
I8. Назначэнне аўдытара.
I9. Розныя справы.
20. Закрыццё з'езду і Нацыянальны Гімн.

Калі хто жадае ўнесці змены ці дапаўненні да гэтага праекту парадку дня, той павінен паведаміць аб гэтым Галоўную Управу не пазней, як IO дзён перад тэрмінам З'езду, г. зн. да I3-га чэрвеня гэтага году. Права чыннага удзелу на З'ездзе будуць мець толькі сябры, якія маюць аплачаныя сяброускія складкі прынамсі да сакавіка гэтага году уключна. Усе удзельнікі З'езду павінны мець з сабой важныя сяброўскія легітымацыі.

Багаслужбы для Ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю дня 24-га чэрвеня будуць адслужаныя наступныя Багаслужбы:
Для каталікоў а гадз. IO.30 у капліцы Св. Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўз на Фінчлей.
Для праваслаўных а гадз. I2.45 у англіканскай царкве Св. Сіляс і Усіх Святых на Пэнтон Стр. Кінгс Крос.

За Галоўную Управу ЗБВБ

Я. Міхалюк, Старшыня

Źmiest

******************************

XXV-ci HODŹDZIE ZBVB

1946 - 1971

******************************

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52 Пэнн Рд. Лёндан Н.7.

---

Нр. 75 Л ё н д а н 25-га траўня 1974 году.

---

## 28 -ы ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗБВБ

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсім сяброў ЗБВБ, што згодна з пастановай Гал. Управы ЗБВБ з дня 18.5.74 /Прат. Нр. 228 28-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртавання Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня 29-га чэрвеня гэтага году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд распачнецца а гадзіне 3-яй па паўдні.

Галоўная Ўправа падае наступны праект Парадку Дня З'езду:

1. Адкрыццё З'езду і Малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма З'езду.
4. Прыняцце пратаколу з папярэдняга З'езду.
5. Справаздача ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача Аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфарм. з дзейнасці Бел. Клюбаў у Манчэстэры і Брадфордзе.
9. Справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ.
10. Справаздачы Адміністратараў дамоў ЗБВБ.
11. Дыскусіі над справаздачамі.
12. Справаздача Наглядняй Рады ЗБВБ.
13. Абсолюторыюм для ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
14. Плян працы на наступную кадэнцыю.
15. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
16. Выбары новай Наглядняй Рады і Сяброўскага Суду.
17. Назначэнне Аўдытара.
18. Розныя справы.
19. Закрыццё З'езду і Нацыянальны Гімн.

Калі хто жадае ўнесці змены ці дапаўненні да гэтага праекту парадку дня, той павінен паведаміць аб гэтым Галоўную Ўправу не пазней, як 10 дзён перад тэрмінам З'езду, г. зн. да 18-га чэрвеня гэтага году.

Права чыннага ўдзелу на З'ездзе будуць мець толькі сябры, якія маюць аплачаныя сяброўскія складкі прынамсі да сакавіка гэтага году ўключна.

Багаслужбы для Ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю дня 30-га чэрвеня будуць адслужаны наступныя Багаслужбы:
Для каталікоў а гадз. 10.30 у капліцы Св. Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўз на Фінчлей.
Для праваслаўных а гадз. 12.45 у англіканскай царкве Св. Сіляс і Ўсіх Святых на Пэнтон Стр. Кінгс Крос.

За Галоўную Ўправу ЗБВБ

J. Michaluk

Я. Міхалюк, Старшыня

ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Галоўнае Управе ЗБВБ:

Я ______________________ пражываючы ________________ сябра ЗБВБ, вызначаю сп. _________, а у выпадку, каб успомнены ня мог гэтага выканаць, сп. _________ да галасавання ад майго імя на звычайным З'ездзе ЗБВБ, які адбудзецца _____________, і на кожным адложаным З'ездзе, што сцверджаю ўласнаручным подпісам.

Подпіс __________________

___________ дня ____________ 197__ г.

# К А М У Н І К А Т

## ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52 Пэнн Рд., Лёндан Н.7.

---

Нр. 76 Л ё н д а н сьнежань І974 г.

---

28 - МЫ АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ. 29-га чэрвеня І974 г. ў Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся чарговы 28-мы Агульны Зьезд ЗБВБ,на якім была выбраная новая Галоўная Управа ў складзе: сп. Я.Міхалюк - Старшыня, сп. Т.Кажаневіч і сп. А.Лашчук - Заступнікі Старшыні, сп. П.Асіповіч - Скарбнік, сп. А.Зданковіч - Сакратар, спадары П.Калбаса і П.Навара - Сябры Управы. У Наглядную Раду і Сяброўскі Суд былі выбраныя: адвакат Г.Пікарда, сп-ня А.Міхалюк, і сп. Я.Сяўковіч.

УПРАВА ХАРЫТАТЫЎНАЙ СЭКЦЫІ ЗБВБ. З прычыны неадпаведнага здароўя дасюлешні Старшыня - а. Ф. Журня звольніўся і на жаданьне Галоўнае Управы, абавязкі Старшыні прыняў а. Я. Пекарскі, Скарбнік-сп. П.Асіповіч і Сакратар - сп. Я. Міхалюк.

СЬМЕРЦЬ ОБЭРОНА ГЭРБЭРТА. 2І-га ліпеня І974 г., пражыўшы 52 гады адыйшоў на вечнасьць вялікі прыяцель беларусаў,пакідаючы прачулыя успаміны 20-ці гадовай супрацы. Тут не пералічыць веліч дабрадзейных учынкаў,толькі хаця-б у Ангельска - Беларускім Таварыстве,дзе быў Сябрам Управы, пазьней - яго Старшынёй. Натуючы глыбокім сумам гэтак дарагога прыяцеля,маецца надзея, што вольная прэса,беларускага грамадзтва на шырокім сьвеце,належна адзначыць ягоныя заслугі на сваіх балонках,ствараючы такім чынам добрую і вечную памяць. Згодна яго волі,паховіны былі адпраўлены біскупам Ч. Сіповічам у асысьце а. А. Надсона. На паховінах ад беларусаў прысутнічалі Старшыня ЗБВБ сп. Я. Міхалюк і сп-ня А. Міхалюк, ад Англа - Беларускага Таварыства - Сакратар - сп. Г. Пікарда і Сябры Управы. Шмат прысутнічала прадстаўнікоў ад розных нацыяў. Цела Обэрона Гэрбэрта пахована на могілках у Дальвэртон. Вечная памяць!..

ГАДАВАЯ ЗБОРКА КЛЮБУ "САКАВІК" у Брадфорд. Дня 28-га ліпеня І974 году у Беларускім Доме, Брадфорд, адбылася Гадавая Зборка Клюбу, на якойбыла выбраная новая Управа Клюбу"Сакавік" у складзе: Старшыня - сп. Т. Лемяшонак, Сакратар - сп. У. Омельяновіч, Скарбнік - сп. Н. Камароўскі.

ГАДАВАЯ ЗБОРКА БЕЛАРУСКАГА КЛЮБУ у Манчэстэр. І-га верасьня І974 году адбылася Гадавая Зборка Клюбу,на якой была выбраная новая Управа Клюбу у наступным складзе: сп. К. Шыбіцкі - Старшыня, сп. М. Яськевіч - Сакратар, сп. Т. Кажаневіч - Скарбнік.

ГАДАВАЯ ЗБОРКА АДДЗЕЛУ ЗБВБ У МАНЧЭСТЭР. І-га верасьня І974г. адбылася Гадавая Зборка на якой была выбраная новая Управа Аддзелу у складзе: сп. Т. Кажаневіч - Старшыня, сп. М. Яськевіч - Сакратар, сп. П. Шыркоўскі - Скарбнік.

ГАДАВАЯ ЗБОРКА АДДЗЕЛУ ЗБВБ У ЛЁНДАНЕ. І6-га лістапада І974 г. адбылася Гадавая Зборка,на якой была выбраная новая Управа Аддзелу ў складзе: сп. Я. Сяўковіч - Старшыня, сп. П. Навара - Сакратар, сп-ня Алёна Міхалюк - Скарбнік.

УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ. Сьвяткаваньне гэтае гадавіны адбылося ў беларускіх асяродках Лёндану, Манчэстэр, Брадфорд і іншых.

БІРМІНГАМ: Мужам Даверу Аддзелу ЗБВБ у Бірмінгам зьяўляецца сп. М. Баяроўскі.

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52 Пэнн Рд. Лёндан Н.7.

Нр. 77 Л ё н д а н І0-га траўня І975 году.

29-ты ГАДАВЫ З'ЕЗД ЗБВБ

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што згодна з пастановай Гал. Управы ЗБВБ з дня 8.3.75 /прат. нр.23І/ 29-ты Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня 7-га чэрвеня гэтага году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд разпачнецца а гадзіне 3-яй па паўдні.

Галоўная Ўправа падае наступны праект Парадку Дня З'езду:

І. Адкрыцьцё З'езду і малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма З'езду.
4. Прыняцце пратаколу з папярэдняга З'езду.
5. Справаздача ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача Аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфарм. з дзейнасьці Бел. Клюбаў у Манчэстэры і Брадфордзе.
9. Справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ.
І0. Справаздачы Адміністратараў дамоў ЗБВБ.
ІІ. Дыскусіі над справаздачамі.
І2. Справаздача Наглядной Рады ЗБВБ.
І3. Абсолюторыюм для ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
І4. Плян працы на наступную кадэнцыю.
І5. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
І6. Выбары новай Наглядной Рады і Сяброўскага Суду.
І7. Назначэньне Аўдытара.
І8. Розныя справы.
І9. Закрыцьцё З'езду і Нацыянальны Гімн.

Калі хто жадае ўнесці змены ці дапаўненні да гэтага праекту парадку дня, той павінен паведаміць аб гэтым Галоўную Ўправу не пазней, як І0 дзён перад тэрмінам З'езду, г. зн. да 28-га траўня гэтага году.

Права чыннага ўдзелу на З'ездзе будуць мець толькі сябры, якія маюць аплачаныя сяброўскія складкі прынамсі да сакавіка гэтага году ўключна.

-Багаслужбы для Ўдзельнікаў З'езду.-

У нядзелю дня 8-га чэрвеня будуць адслужаны наступныя Багаслужбы: для каталікоў а гадз. І0.30 у капліцы Св. Пятра і Паўла у Мар'ян Гаўз на Фінчлей. Для праваслаўных а гадз. І2.45 у англіканскай царкве Св. Сіляс і Ўсіх Сьвятых на Пэнтон Стр. Кінгс Крос.

- Падручнік беларускае мовы.-

Выйшаў з друку старанна апрацаваны англа-беларускі падручнік беларускае мовы. Апрача граматычных правіл ў мовах ангельскай і беларускай, падручнік зьмяшчае беларускія гутаркі, чытанкі, вершы, апавяданьні, практыкаваньні і беларуска-ангельскі ды ангельска-беларускі слоўнік. Заказы упрашваецца слаць на адрыс:

Mr. P. Pashkievich 32 Birchcroft Rd. Islington, Ont. Canada
M9A 2L4

БРАДФОРД, дня I5-га лютага Камітэтам Паняволеных Народаў быў наладжаны канцэрт на якім прысутнічала гарадзкая Управа на чале з мэер гораду, ад беларусаў прысутнічаў старшыня ЗБВБ сп. Я.Міхалюк.

ЛЁНДАН, у днях: 2-га і I6-га лютага сябры Гал. Управы ЗБВБ прысутнічалі на ўрачыстасьцях Угодкаў Незалежнасьці ў Украінцаў і Літоўцаў.

ЛЁНДАН, дня 22-га лютага Беларусы ўдзельнічалі ў дэманстрацыі ладжанай супроць увязьненьня югаслявянскіх вучоных, сярод іх пісьменнікі і прафэсары, праз пануючы рэжым.

ЛЁНДАН, дня 2-га сакавіка у памешканьні школы імя сьв. Кірылы Тураўскага тут была наладжана Акадэмія памяці ЮРКІ ВІЦЬБІЧА, якую вёў сп.Я.Міхалюк. Шырока апрацованы рэфэрат зрабіў біскуп Ч.Сіповіч. Выбраныя творы чыталі сп. сп. М. Залога і А. Зданковіч.

БРАДФОРД, дня 23-га сакавіка ў сваім грамадзкім памешканьні Беларусы Брадфоду і акругі урачыста аддзначылі 57-я Угодкі Акту 25-га Сакавіка. Урачыстасьць дня разпачата была Багаслужбай праўленай а. прат. Янам Абабуркам. Па Багаслужбе была зладжана Акадэмія. Рэфэрат Дня быў зачытаны Сябрам Гал.Управы ЗБВБ сп.Я.Калбасой. Прывітаньні ад Рады БНР на чужыне - прачытала сп-на Анна Лемяшонак. Пасьля Акадэміі было прыняцьцё ў часе якога выбіралася Каралева-Прыгажуня Беларусі і была выбранай сп-чна Дарыя Лемяшонак.

ЛЁНДАН, дня 23-га сакавіка у памешканьні школы сьв. Кірылы Тураўскага Управа Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ ладзіла Акадэмію 57-х Угодкаў Акту 25-га Сакавіка. Адкрыў і вёў Акадэмію старшыня Управы Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ сп. Я. Сяўковіч, было зачытана шмат прывітальных лістоў надасланых з гэтай нагоды з пазаморскіх краін ад існуючых там беларускіх арганізацый, ды і паасобных адзінак. Рэфэрат у ангельскай мове зачытаў Сябра Гал. Управы сп.П.Навара. Прывітальнымі славамі з гэтае нагоды, прамаўлялі нашы госьці: ад Палякаў -сп. Т.Трэмбіцкі, ад Украінцаў сп.В.Бабіцкі і праф. Васіленко. Пасьля Акадэміі было прыняцьцё.

МАНЧЭСТЭР, 30 - га сакавіка, Адзел ЗБВБ у Манчэстэр ладзіў у гэты дзень урачыстасьць 57-х Угодкаў Акту 25-га Сакавіка пачынаючы Багаслужбай у сваей царкве, адпрапленай а. прат. Янам Абабуркам. Пасьля Багаслужбы, у царкоўнай салі адбылася Акадэмія. Сп. П. Шыркоўскі зачытаў рэфэрат а сп. Хв.Кажаневіч зачытаў рэзалюцыю Рады БНР.

ДЭМАНСТРАЦЫІ Ў ЛЁНДАНЕ .У сувязі з прыездам у В.Брытанію старшыні "праф. саюзаў" СССР - сп. Шэлепіна ў Лёндане пачынаючы з днём 3І-га сакавіка, мелі мейса тут дэманстрацыі цупроць ягонага прыезду ў якіх бралі ўдзел і Беларусы.

БРАДФОРД. Дня I4-га чэрвеня I975-га г. у гэтым горадзе адбудзецца Лёрд Мэер Парад у якой возьмуць удзел у сваіх нацыянальных строях, групы з Нямеччыны, Францыі ды іншых краін ў тым ліку і шмат мясцовых нацыянальнасьцяў, сярод іх і Беларусы.

ЛЁНДАН, дня I0-га лютага, заступнік старшыні Царкоўнае Рады БАПЦ у В. Брытаніі а. Ян Пякарскі быў запрошаны да Экзарха Усяленскага Патрыярхата Атэнагораса II. Архіяпіскап, пазнаёміўшыся з дзейнасьцю і арганізацыяй Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, пахадаў а. Яну памыснае працы і даў яму дабраславенства.

Аўстралія. З сумам даведваемся, што сп. М. Нікан - былы старшыня ЗБВБ, меў самахадовы выпадак у якім жонка яго забілася а сам ён моцна пакалечыўся. Залучаем свае шчырыя спачуваньні.

ПАХВАЛЬНЫЯ ГРАМАТЫ БАПЦ. Лёндан дня II-га траўня, пасьля Багаслужбы а. Ян Пякарскі ўручыў Пахвальныя Граматы, дадзены за выдатную працу для БАПЦ сп-ні А. Міхалюк і сп-ру А. Лашук, прызнаныя Мітрапалітам Андрэям.

Галоўная Управа

Сакратар - А. Зданковіч.

А.Зданковіч

ESTABLISHED IN 1946

ASSOCIATION OF BYELORUSSIANS IN GREAT BRITAIN, LTD.

LIMITED BY GUARANTEE
52,Penn Rd., LONDON,N7 9RE

Telephones : 01.874.5342

Please reply to :
Mr. A. Laszuk
43,Haldon Rd.,
LONDON,SW18 1QF

Your Ref.:

Our Ref.: 3-14/76

# КАМУНІКАТ №78

## 30-ты гадавы звычайны зьезд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца сяброў ЗБВБ што згодна пастановы Галоўнае Управы ЗБВБ., з дня 20сакавіка 1976 /Прат.№234/ 30-ты агульны гадавы зьезд сяброў і дэлегатаў ЗБВБ., адбудзецца дня 19 чэрвеня 1976года у доме ЗБВБ., пад адрасам в/п.
Пачатак зьезду а гадз.15.00. Рэестрацыя удзельнікаў а14.00гадз

Галоўная Управа ЗБВБ. прапануе наступны парадак дня зьезду.

1. Адкрыцьцё і малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма зьезду.
4. Прыняцьцё пратакола з папярэдняга зьезду.
5. Справаздача ўступаючай Гал. Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці дапамаговае сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Справаздачы Упраў Аддз. ЗБВБ.
9. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.
10. Інфармацыі з дзенасьці клюбаў пры ЗБВБ.
11. Дыскусіі над справаздачамі.
12. Справаздача Наглядное Рады і Сяброўскага суду ЗБВБ.
13. Абсолюторыюм для ўступаючай Гал. Управы ЗБВБ.
14. Рэарганізацыя клюбаў.
15. Плян працы на наступную кадэнцыю.
16. Выбары Галоўнае Управы ЗБВБ.
17. Выбары Наглядное Рады і Сяброўскага суду ЗБВБ.
18. Назначэньне аўдытара.
19. Розныя справы.
20. Закрыцьце-Нацыянальны гімн.

Жадаючыя ўнесьці дапаўненьні да в/п. парадку, павінны паведаміць Гал. Управу ЗБВБ. не пазьней 5 чэрвеняггода.

Права голасу будуць мець тыя сябры, якія аплоцяць сяброўскія складкі да месяца травеня 1976года улучна.

Багаслужбы для удзельнікаў зьезду -будзе падана да ведама у часе зьезду.

За Гал.Управу ЗБВБ. -Сакратар [signature]

Лёндан, дня 15 травень 1976г.

/-/А.Лашук

P.S. 1) Здымкі [illegible] (але не усе — [illegible] — [illegible])
2) Прашу [illegible] са сп. Міхалюк [illegible] сябр. складкі за [illegible]

# КАМУНІКАТ

## ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London, N.7.

Нр.79 Лёндан Кастрычнік 1976 г

30-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ. З'езд адбыўся ў сыботу дня 19-га чэрвеня па паўдні ў Беларускім Доме ў Лёндане. На З'ездзе былі абгавораны і вырашаны шматлікія пытаньні і праблемы ў беларускім грамадзкім жыцьці. Па выслуханьні справаздач Уступаючай Галоўнай Управы, Наглядной Рады і Аўдытара, З'езд удзяліў Уступаючай Управе абсалютоrыю з падзякай. У новую Галоўную Управу ўвайшлі наступныя асобы : Сп. Янка Міхалюк - старшыня, Сп. Аляксандар Зданковіч - заст. старшыні, Сп. Павел Наваро - сакратар, Сп. Павел Асіповіч - скарбнік і Сп. Уладзімер Гінько - сябра Управы.
У Наглядную Раду-Сяброўскі Суд былі выбраны : Сп. Янка Сяўковіч - старшыня, Сп. Гаи Пікарда - сэкратар і Сп. Хведар Лемяшонак -сябра

Харытатыўная Сэкцыя ЗБВБ. Агульнаму З'езду ЗБВБ была прадстаўлена падрабязная справаздача з дзейнасьці гэтай інстытуцыі. Галоўная праца ляжыць у галіне дапамаговай, асьветнай і навуковай. Управа Харытатыўнай Сэкцыі ня выбіраецца на Агульным З'ездзе ЗБВБ а назначаецца Галоўнай Управай ЗБВБ на неакрэсьлены час. Цяпер Управа Харытатыўнай Сэкцыі складаецца з наступных асоб : а. Янка Пякарскі - старшыня, Сп. Янка Міхалюк - сакратар і Сп. Павел Асіповіч - скарбнік.
У Англіі харытатыўныя інстытуцыі, у тым ліку і Беларуская Харытатыўная Сэкцыя карыстаюцца вялікімі падаткавымі прывілегіямі. Сумы грошай у вышыні аж да £50000 даныя харытатыўнай арганізацыі ахвярадаўцам падчас свайго жыцьця або праз тэстамэнт не падлягаюць падатку "трансфэр такс", раней званы "эстэйт д'юты". Таксама шырока разпаўсюджаны спосаб збіраньня ахвяраў праз падпісваньне 7-і гадовых умоваў, т.зв. "ковэнантаў". У гэтым выпадку харытатыўная арганізацыя ня толькі атрымлівае грошы ад ахвярадаўцы, але таксама пабірае з дзяржаўнага скарбу /"інлянд рэвэнью"/ падатак на ахвяраваную суму грошай. Шматлікія Беларусы ўжо ад даўжэйшага часу даюць ахвяры Харытатыўнай Сэкцыі ў гэты спосаб. На гэтым месцы заклікаем усіх Беларусаў адклікнуцца і прыйсьці із шчодрай дапамогай.Мы маем перад сабой вялікія заданьні і праекты, асабліва ў асьветнай і навуковай галіне, зьдзейсьненьне якіх у вялікай меры залежыць ад падтрымкі беларускага грамадзтва. Пастаўма сабе такі прынцып: кожны з нас, хто сам не патрабуе дапамогі, хай лічыць сябе быць у стане прыйсьці з дапамогай агульнай беларускай справе і грошы выданыя на яе лічыць грашамі выданымі добра. Па ўсе інфармацыі ў гэтай справе просім звяртацца ў Харытатыўную Сэкцыю пры ЗБВБ пад вышэй паданым адрасам.

Гадавыя Зборкі Аддзелаў ЗБВБ.

Гадавая і перавыбарчая Зборка сяброў Аддзелу ЗБВБ у Брадфордзе адбылася дня 11-га ~~xxxxxxx~~ ліпеня г. году ў Беларускім Доме ў Брадфордзе. У новую Управу Аддзелу былі выбраны наступныя асобы Сп. Х. Лемяшонак - старшыня, Сп. У. Амельяновіч - сакратар, Сп. А. Сасна - скарбнік.

Гадавая і перавыбарчая Зборка Сяброў Аддзелу ЗБВБ ў Манчастары адбылася дня 15-га жніўня г. году ў Беларускім Доме . Кіраваў Зборкай Сп. Х. Кажаневіч, а сакратаром быў Сп. М. Яськевіч. Справаздачу з дзейнасьці Аддзелу здаў Сп. М. Яськевіч, а даклад аб адбыўшымся Агульным З'езьдзе ЗБВБ у Лёндане зрабіў Сп. П.Шыркоўскі. Уновую Управу Аддзелу былі выбраны наступныя асобы :

Сп. Пётр Шыркоўскі - старшыня, Сп. Міхась Яськевіч - сакратар, Сп. Эміль Бюмен - скарбнік.

Гадавой Зборкі Лёнданскага Аддзелу ў гэтым годзе яшчэ ня было. Управа Аддзелу з папярэдняга году ёсьць у наступным складзе Сп. Янка Сяўковіч - старшыня, Сп. Аляксандар Зданковіч - сакратар, Сп-я Алена Міхалюк - скарбнік.

Гадавыя Зборкі Беларускіх Клюбаў.

Беларускі Клюб у Манчастары адбыў Гадавую Зборку дня 15-га жніўня ў памешканьні Клюбу ў Беларускім Доме ў Манчастары. Гэты Клюб ужо дзейнічае праз 10 гадоў і ёсьць вельмі папулярны. У новую Управу Клюбу ўвайшлі. Сп. Кастусь Шыбіцкі - старшыня, Сп. Міхась Яськевіч - сакратар і Сп. Хведар Кажаневіч - скарбнік.

Гадавая Зборка Клюбу Сакавік у Брадфордзе адбылася дня 29га жніўня ў памешканьні клюбу ў Беларускім Доме ў Брадфордзе. Клюб Сакавік прайшоў многа крызісаў, але апошнімі часамі справы ўстаткаваліся і, спадзяёмся, што пры добрай волі і зразуменьні грамадзкіх абавязкаў брадфордзкімі Беларусамі, Клюб Сакавік будзе развівацца і асягне пастаўленыя перад ім заданьні.

Рэпрэзантацыйная праца.

Аддзел ЗБВБ у Брадфордзе ьбярэ актыўны ўдзел у Камітэце Паняволеных Народаў. 11-га ліпеня г. году наладжаны там быў Тыдзень Паняволеных Народаў. Прадстаўнікамі ў Камітэце ад ЗБВБ ёсьць Сп. Я. Калбаса і Сп. М. Віценчык.

У Лёндане існуе актыўная міжнародная арганізацыя пад назовам Эўропэан ліезон Ґруп, у скароце ЭЛҐ - Эўрапэйская Лучніковая Група У яе ўвайходзяць усе паняволеныя нацыі, у тым ліку і Беларусы. Гэта арганізацыя цесна супрацоўнічае з вельмі ўплывовай арганізацыяй, Брытанскай Лігай Свабоды. Гэтыя арганізацыі часта ладзяць мітынгі і дэманстрацыі. У мінулым чэрвені быў наладжаны масавы мітынг на Трафалґар Сквэр пратэстуючы проці прасьледаваньня дысідэнтаў у Савецкім Саюзе. Таксама ведамы пасол у парламент, сэр Бэннэт, у Палаце Рэпрэзэнтантаў,Гаўз оф Коммонс, зрабіў змястоўны даклад на тэму як Саветы перакручваюць на свой бок і выкарыстоўваюць дагаворы зробленыя ў Гэльсінках.
У наступным месяцы плянуецца вялікая Канфэрэнцыя супольна з арганізацыяй, якая дзейнічае ў Францыі пад назовам Парыская Група. Канфэрэнцыя і звязаныя з ёю акадэміі будуць трываць праз тры дні і закончацца прыняцьцем праграмных рэзалюцыяў і лісту амэрыканскаму прэзыдэнту.

5-ці Годдзе Сьвятарства а. Янкі Пякарскага. (4 верасьня 1971)

У мінулым месяцы споўнілася 5 гадоў ад часу рукапалажэньня ў сьвятара а. Янкі Пякарскага, які духоўна абслугоўвае Беларусаў праваслаўнага веравызнаньня ў паўднёвай і сярэдняй Англіі. З гэтай нагоды 5-га верасьня ў Волвэргамптоне была наладжана ўрачыстая Багаслужба ў саслужэньні сьвятароў БАПЦ і сьвятароў з пад Грэцкай юрыздыкцыі. Прысутнічала на Багаслужбе вялікая колькасьць праваслаўных Беларусаў. Ад ЗБВБ уручыў падарак а. Я. Пякарскаму Старшыня Гал. Управы, Сп. Я. Міхалюк. Гал. Упр. ЗБВБ тут складае найлепшыя пажаданьні поспехаў у працы на беларускай рэлігійнай ніве дарагому а. Янку Пякарскаму з нагоды гэтага ягонага юбілею.

50-ці Годдзе з дня нараджэньня а. Аляксандра Надсона.

8-га жніўня г. году а. Аляксандру Надсону споўнілася 50 год. З гэтай нагоды Гал. Упр. ЗБВБ складае яму найлепшыя павіншаваньні і пажаданьні доўгай і плённай працы, як на рэлігійнай так і на беларускай навукови ніве.

Галоўная Управа
ЗБВБ.

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London, N.7.

2

Нр.80 London Чэрвень 1977г.

## 31-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 31-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня 16-га Ліпеня 1977-га году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд разпачнецца а гадз. 3-й па паўдні.

Галоўная Управа ЗБВБ прапануе наступны Парадак Дня З'езду:

1 Адкрыцьцё З'езду і малітва.
2 Выбары Мандатнай Камісіі.
3 Выбары Прэзыдыюму З'езду.
4 Прыняцьце Пратаколу з Папярэдняга З'езду.
5 Справаздача Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6 Справаздача Аўдытара.
7 Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8 Інфармацыя з дзейнасьці Беларускіх Сяброўскіх Клюбаў.
9 Справаздачы Управаў Аддзелаў ЗБВБ.
10 Справаздачы Адміністратараў Дамоў ЗБВБ.
11 Дыскусіі над справаздачамі.
12 Справаздача Наглядной Рады ЗБВБ.
13 Абсалютырыюм для Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
14 Плян Працы на наступную кадэнцыю.
15 Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
16 Выбары новай Наглядной Рады і Сяброўскага Суду.
17 Назначэньне Аўдытара.
18 Розныя справы.
19 Закрыцьцё З'езду.

Калі хто жадае ўнесьці якія-колечы змены, ці дапаўненьні да гэтага Праекту Парадку Дня, той павінен паведаміць Гал. Управу ЗБВБ пісьмова не пазьней, як 10 дзён перад тэрмінам З'езду, г. зн. да 6-га Ліпеня г. году.

Пры гэтай нагодзе прыпамінаем, што права чыннага ўдзелу на З'езьдзе будуць мець толькі тыя сябры, якія маюць аплачаныя сяброўскія складкі прынамсі да Красавіка гэтага году.

## Багаслужбы для ўдзельнікаў З'езду.

У Нядзелю, дня 17-га Ліпеня будуць адслужаныя наступныя Багаслужбы: для каталікоў а гадз. 10.30 у капліцы Сьв. Пятра і Паўла на Фінчлей, а для праваслаўных а гадз. 12.45 у англіканскай царкве Сьв. Сіляс і Ўсіх Сьвятых на Пэнтон Стр.

## 59-я Ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Сьвяткаваньне 59-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў Лёндане адбылося ў нядзелю дня 27-га Сакавіка ў памешканьні Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны. Адкрыў Акадэмію Сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ. На Акадэміі быў прысутны Даст. Улад. Ч. Сіповіч,раднік гарадзкой Управы, Мр. Франк Гібсон, бальшыня лёнданскіх Беларусаў і прадстаўнікі ад шматлікіх нацыянальных арганізацыяў. Прынагодны рэфарат у ангельскай мове зрабіў сакратар Гал. Управы ЗБВБ. Па афіцыяльнай часьці было наладжана супольнае прыняцьце. Пра Акадэмію 59-х Угодкаў Незалежнасьці быў змешчаны прыхільны артыкул у мясцовай ангельскай прэсе.

Сьвяткаваньне 59-х Угодкаў Незалежнасьці было таксама наладжана і ў аддзелах ЗБВБ.

Анты-Савецкая Дэманстрацыя ў Лёндане.

У Нядзелю 8га Мая адбылася ў Лёндане на Трафальґар Сквэр масавая дэманстрацыя, скіраваная супроць надужыцьця псыхіятрыкі ў Саветах, як нарадзя ў руках КГБ дзеля прасьледаваньня там дысыдэнтаў. У дэманстрацыі бралі ўдзел Ангельцы і іншанацыянальныя групы з Лёндану, у тым ліку і Беларуская.
Прамаўлялі на дэманстрацыі наступныя асобы: др. Макс Ґаммон, Уладзімер Букоўскі, Леанід Плющ, Давід Маркгам і князь Грохольскі.
Па ўсіх прмовах дэманстрацыя прайшла праз цэнтральны Лёндан да Савецкай амбасады. Копіі рэзалюцыяў былі ўручаны Прэм'ер міністру Вялікабрытаніі, Прэзыдэнту Злучаных Штатаў Амэрыкі, які ў тым часе прабываў у Лёндане, і ў Савецкую амбасаду.

Гісторыя Беларускай Літаратуры.

Нядаўна выйшла з друку ў Нямеччыне кніга Праф. Арнольда Макміллiна ў ангельскай мове пад назовам "Гісторыя Беларускай Літаратуры ад яе Пачаткаў па сёньняшні Дзень. Дзеля адзначэньня гэтай важнай падзеі Ангельска-Беларуске Таварыства наладзіла спэцыяльнае прынящцце дня 21-га мая г. году ў памешканьні Беларускага Музэю і Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Адкрыў прынящцце Старш. Ангельска-Беларускага Таварыства Сп. Джон Джоліф, вітаючы ўсіх прысутных і асбліва ганаровага гасьця Праф. Арнольда Макміллiна. На прынящцы былі лічнымі прадстаўнікі акадэмічнага сьвету ў галіне моваведы, як Прафэсар параўнаўчай славянскай філялёгіі на Оксфардзкім Унівэрсытэце Робэрт Аўты, др. Віліям Раян, др.Гары Лімінг, др. Джорджэт Дончын са Школы Славянскіх і Усходне Эўрапэйскіх Студыяў пры Лёнданскім Унівэрсытэце, Сп-я Шырын Акінэр са Школы Усходніх і Афрыканскіх Студыяў Лёнданскага Унівэрсытэту, і інш. Прысутным на прынящцы таксама быў Яго Даст. Ул. Ч. Сіповіч, князь Грохольскі і прадстаўнікі ад шматлікіх нацыянальных групаў у Лёндане. Выступалі з прамовамі ў гэткім парадку: а. Аляксандар Надсон, Праф. Робэрт Аўты, Старш. ЗБВБ Сп. Я. Міхалюк і Праф. Арнольд Макміллін.

Яшчэ адзін Беларус выбраў свабоду.

Паводле паведамленьня швэдзкага радыё з дня 26-га мінулага месяца і шматлікай англамоўнай прэсы, савецкі інжынер беларускага паходжаньня змусіў самалёт Аэрафлоту АН24 нармальна абслугоўваючы толькі ўнутраную лінію, лящець у Швэцыю і прызямліцца ў Штокгольме. Прозьвішча Беларуса ня было апублікаванае. На самалёце было 4-х асобаў абслугі і 28 пасажыраў.
Па дакладным обыску Беларуса і самалёту аказалася, што ён ня меў ніякай зброі, а застрашыў абслугу самалёту блефам. Савецкі амбасадар у Швэцыі, Якаўлеў, дамагаўся ад швэдзкага ўраду неадкладнай выдачы Беларуса.
Швэдзкі ўрад на гэта не згадзіўся, вьясьняючы, што справа гэта вымагае даўжэйшага разгляду. Аб'еднаньне швэдзкіх лётнікаў паведаміла, што мае замер прасіць Урад, каб беларускага інжынера выдалі назад саветам.
Гал. Управа ЗБВБ напісала просьбу швэдзкаму амбасадару ў Лёндане і Прэмер міністру ў Штокгольме, каб Беларусу было прызнана права азылю. Таксама быў высланы ліст сакратару Аб'еднаньня швэдзкіх лётнікаў, падаючы шматлікія аргумэнты супроць выдачы Беларуса Саветам.

Галоўная Управа
ЗБВБ.

К А М У Н І К А Т
ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52, Penn Road, London, N.7.

Нр.81 Л ё н д а н Сьнежань 1977 г.

## 31-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

31-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ адбыўся дня 16-га ліпеня г. году ў Беларускім Доме ў Лёндане. На З'езьдзе былі прысутныя прадстаўнікі ад усіх беларускіх асяродкаў у Вялікаи Брытаніі. Былі таксама прысутныя на З'езьдзе, як госьці, прадстаўнікі ад Беларусаў з Францыі і Бэльгіі. Згодна з Павесткай Дня на З'езьдзе здаваліся шматлікія і абшырныя справаздачы, а менавіта, ад Галоўнай Управы ЗБВБ, ад Аддзелаў ЗБВБ, ад Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ, ад Беларускіх Грамадзкіх Дамоў ад Беларускіх Клюбоў і ад Наглряднай Рады. З усіх гэтых Справаздачаў было відаць, што, як і ў папярэднія гады, ЗБВБ прарабіла вялікую працу на карысьць беларускай нацыянальнай справы і Галоўная Управа поўнасьцю выканала ўзложаныя на яе абавязкі на мінулым Агульным З'езьдзе. Таму на прапанову Наглядной Рады, было ўдзелена ўступаючай Галоўнай Управе абсалюторыюм з падзякай. Ад імя Беларусаў з Бэльгіі прывітаў З'езд а. др. Я. Смаршчок і каратка разказаў аб умовах для грамадзкай працы ў гэтай краіне. Прадстаўнік ад Беларусаў у Францыі, Сп. М. Наумовіч, прывітаўшы З'езд аб дзейнасьці адной з найстарэйшых Беларускіх арганізацыяў у Заходняй Эўропе, Хаўрус Беларускіх Работнікаў у Францыі. Ад Ангельска-Беларускага Таварыства вітаў З'езд ягоны Сакратар, Сп. Гай Пікарда. Ен выразіў прызнаньне і падзяку для ЗБВБ за ягоную вялікую маральную і матарыяльную дапамог аказваную Ангельска-Беларускаму Таварыству ад даўжэйшага ўжо часу. Сп. Я. Міхалюк паведаміў З'езд аб прадчаснай сьмерці ў Нямеччыне былога сябру і аднаго із заклаадчыкаў ЗБВБ в.п. Часлава Кукеля. Хвілінай цішынёй прысутныя ўшанавалі памяць адышоўшага ў вечнасьць сябры.

Новая Галоўная Управа ЗБВБ на наступную кадэнцыю была выбрана, як наступна: - Сп. Я. Міхалюк - старшыня, Сп. А. Зданковіч - заст. старшыні, Сп. П. Наваро - сакратар, Сп. П. Асіповіч - скарбнік і Сп. У. Гінько - сябра Управы.

У Наглядную Раду/Сяброўскі Суд былі выбраныя наступныя: - Сп. Я. Сяўковіч - старшыня, Сп. Г. Пікарда - сакратар і Сп. Х. Лемяшонак - сябра.

## У Аддзелах ЗБВБ.

Манчэстарскі Аддзел ЗБВБ адбыў Гадавую Зборку Аддзелу дня 23-га кастрычніка. Сп. П. Шыркоўскі паведаміў Зборку аб прабегу Агульнага Гадавога З'езду ў Лёндане. Была выслуханая справаздача з дзейнасьці Управы Аддзелу і абгавораны Плян Працы на наступны год. Новая Управа Аддзелу была выбрана ў наступным складзе: - Сп. Х. Кажаневіч - старш. Сп. М. Яськевіч - сакратар, Сп. П. Шыркоўскі - скарбнік.

У гэтым-жа самым дні адбылася і Гадавая Зборка Сяброўскага Клюбу ў Манчэстэры. У Ўправу Клюбу былі выбраныя наступныя: - Сп. К. Шыбіцкі - старшыня, Сп. М. Яськевіч - сакратар і Сп. Х. Кажаневіч - скарбнік.

У Брадфордзкім Аддзеле ЗБВБ Гадавой Зборкі яшчэ не адбылося. Старшынёй Управы Аддзелу ёсьць Сп. Х. Лемяшонак, а сакратаром Сп. А. Сасна.

Гадавая Зборка Сяброўскага Клюбу "Сакавік" адбылася дня 23-га кастрычніка. У Ўправу Клюбу былі выбраны: - Сп. Х. Лемяшонак - старш. Сп-я А. Ясьвіловіч - сакратар, Сп. М. Швэдзюк - скарбнік.

У Лёнданскім Аддзеле ЗБВБ Гадавая Зборка адбылася дня 29-га кастрычніка. У Ўправу Аддзелу былі выбраны: - Сп. Я. Сяўковіч - старшыня, Сп. А. Зданковіч - сакратар, Сп-я Л. Міхалюк - скарбнік.

## Ахвяры і Тэстамэнты на Харытатыўную Сэкцыю.

Харытатыўная Сэкцыя пры ЗБВБ праводзіць вельмі важную і патрэбную дапамаговую дзейнасьць патрабуючым Беларусам і дапамогу на выдавецкую і рэлігійную дзейнасьць. Заклікаем усіх Беларусаў складаць

ахвяры на Харытатыўную Сэкцыю праз падпісваньне кавэнантаў умоваў ; а тых, што ня маюць сем'яў, апісваць тэстамэнтальна на Сэкцыю сваю маёмасьць.

В.П. а. Леў Гарошка.

Гал. Управа з сумам паведамляе, што 28-га ліпеня г. году неспадзявана памёр а. Леў Гарошка. Быў ён доўгагадовым сябрам ЗБВБ і вельмі актыўным у выдавецкай дзейнасьці. Напісаў шмат працаў на рэлігійныя і грамадзкія тэмы. Апошнім часам быў Кіраўніком Беларускай Сэкцыі Ватыканскага Радыя. Пахаваны ў Лёндане на Фінчлей.

Сябра Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ скончыў вышэйшыя студыі.

Сп. Марак Саўка-Міхальскі, сябра Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ і былы вучань Беларускай Школы імя Кірыла Тураўскага ў Лёндане пасьпяхова закончыў студыі ў Школе Славянскіх Студыяў пры Лёнданскім Унівэрсытэце з тытулам магістра (B.A.) . Маладому новаму навукоўцу жадаем найлепшых поспехаў, як у асбістай так і ў грамадзкай працы.

Слуцкія Ўгодкі ў Лёндане.

57-ыя Ўгодкі Паўстаньня Случчыны супраць расейска-камуністычнага імпэрыялізму Лёнданскі Аддзел ЗБВБ адзначыў урачыстай Акадэміяй у сыботу 26-га лістапада. Кіраваў Акадэміяй старшыня Аддзелу Сп. Я. Сяўковіч, а абшырны і змястоўны рэфарат на тэму дня зрабіў сакратар Аддзелу Сп. А. Зданковіч. Прывітаў удзельнукаў Акадэміі ад імя Беларусаў у Аўстраліі Сп. А. Качан і коратка пазнаёміў прысутных аб жыцьці і грамадзкай дзейнасьці Беларусаў у Аўстраліі, у асаблівасьці аб беларускіх радыёперадачах, якія там наладзіліся ўжо ад даўжэйшага часу і праслухаўшы некалькі з магнітафонных стужкаў усе прысутныя прышлі да высnаву, што ёсьць яны на высокім мастацкім узроўні.

У нядзелю 27-га лістапада Уладыка Ч. Сіповіч адслужыў малебен за ўсіх загінуўшых у змаганьні за Незалежнасьць Беларусі.

У гэтую-ж нядзелю ў Царкве Сьв. Нявінных на Актон адбылася ўрачыстая літургія ў саслужэньні а. Тарановіча, а. Броўна і а. Чэрнага і дыякана В. Мароза. Патрыятычнае казаньне на тэму дня сказаў а. Тарановіч Па Багаслужбе была наладжана Акадэмія на тэму Слуцкага Паўстаньня, якой кіраваў старшыня царкоўнага Камітэту Сп. Дзейко. Даклад у ангельскай мове зрабіў Сп. К. Глінскі, а ў беларускай Сп. М. Залога. на заканчэньне афіцыяльнай часткі Акадэміі арганізатары запрасілі прысутнага Уладыку Ч. Сіповіча прамовіць да сабраных. Ул. Ч. Сіповіч сказаў гарачую патрыятычную прамову, яеая выклікала буру воплескаў ад усіх прысутных.

У нядзелю 11-га сьнежня настаяцель Лёнданскай парфіі ўсіх Сьвятых а. Я. Пякарскі адслужыў у царкве на Кінг Крос малебен за загінуўшых слуцкіх гэрояў.

Праваслаўная Літургія ў Ангельскай Мове.

З нагоды 25-і годдзя караляваньня Брытанскай каралевы Эліжбеты II у сыботу 17-га сьнежня з ініцыятывы Каардынацыйнага Камітэту Арганізацыяў Паняволеных Народаў(E.L.G)у Унівэрсытэцкай Царкве Хрыста Цара была наладжана Урачыстая Праваслаўная Літургія ў ангельскай мове. Прысутнічаў Апостальскі Дэлегат на Вялікабрытанію Архіяпіскап Бруно Гайм, Віленскі Япіскап Мацьвей. Служыў румунскі сьвятар Люцыян Гафтон. Са Сьвятароў бралі ўдзел а. Я. Пякарскі, а. Браўн, а. Чэрны, а. С. Багатырэц, а. М. Галіца. Багаслужба распачалася ўрачыстым паходам з нацыянальнымі сьцягамі 9 нацыянальнасьцяў бяручых удзел, у тым ліку і Беларускім.

Беларускія Нацыянальныя Песьні ў Савецкіх Лягерах.

Адзін з жыдоўскіх дысыдэнтаў, прозьвішчам Вудка, які ў мінулым годзе выехаў у Ізраіль, паведамляе, што спаткаўся ў лягерах з беларускімі нацыяналістамі. Ён там напамяць навучыўся беларускую патрыятычную песьню на словы М. Багдановіча " Пагоня".

Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году.

Усім Беларусам жадаем Вясёлых Калядніх Сьвятаў, а ў надыходзячым Новым Годзе шчасьця, здароўя, памыснасьці і найлепшых поспехаў, як у грамадзкім , так і ў прыватным жыцьці.

Гал. Управа ЗБВБ.

# К А М У Н І К А Т

## ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London N.7.

---

Нр.82 Л ё н д а н 5-га Траўня І978 г.

---

## 32-гі Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што згодна з пастановай Гал. Управы ЗБВБ з дня 29-га Красавіка І978 г./прат. нр.242/ 32-гі Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня І0-га чэрвеня гэтага году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд распачнецца а гадз. 3-яй па паўдні.

Гал. Управа падае наступны праект Парадку Дня З'езду:

І. Адкрыцьцё З'езду і Малітва.
2. Выбары Мандатнае Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюма З'езду.
4. Прыняцьцё пратаколу з папярэдняга З'езду.
5. Справаздача ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Інфармацыя з дзейнасьці Бел. Клюбаў у Манчэстэры і Брадфордзе.
9. Справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ.
І0. Справаздачы адміністратараў дамоў ЗБВБ.
ІІ. Дыскусіі над справаздачамі.
І2. Справаздача Наглядная Рады ЗБВБ.
І3. Абсолюторыюм для ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
І4. Плян працы на наступную кадэнцыю.
І5. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
І6. Выбары новай Наглядная Рады і Сяброўскага Суду.
І7. Назначэньне аўдытара.
І8. Розныя справы.
І9. Закрыцьцё З'езду і нацыянальны гімн.

Калі хто жадае ўнесьці зьмены ці дапаўненьні да гэтага праекту парадку дня, той павінен паведаміць аб гэтым Галоўную Управу не пазьней,як І0 дзён перад тэрмінам З'езду, г. зн. да 3І-га траўня г. году. Права чыннага ўдзелу на З'ездзе будуць мець толькі сябры,якія маюць аплачаныя сяброўскія складкі прынамся да сакавіка гэтага году ўключна.

## Багаслужбы для Ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю дня ІІ-га чэрвеня будуць адслужаны наступныя Багаслужбы: для каталікоў а гадз. І0.30 у капліцы Св. Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўз на Фінчлей.
Для праваслаўных а гадз. І2.45 у англіканскай царкве Св. Сіляс і Ўсіх Сьвятых на Пэнтон Стр. Кінгс Крос.

## 60-ыя Ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

60-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі адзначаны ў беларускіх асяродках: у Брадфордзе дня І9-га сакавіка, у Манчэстэры дня 26-га сакавіка і ў Лёндане дня 2-га красавіка ў Фінчлей і 6-га красавіка ў Вэстмінстэр у палаце Лёрдаў, дзе прысутнічалі прадстаўнікі ад шмат якіх нацыянальнасьцяў,ды і Беларусы з Францыі ды Нямеччыны.

Гал. Управа ЗБВБ.

А. Зданковіч, Заст. Стр.

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London N. 7.

---

Нр.83 Лёндан Красавік 1979 г.

---

## 33-і Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 33-і Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня 12-га мая 1979-га году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд разпачнецца а гадз. 2-й па паўдні.

Галоўная Управа прапануе наступны Парадак Дня З'езду:

1. Адкрыцьцё З'езду і малітва.
2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду.
4. Прыняцьце Пратаколу з Папярэдняга З'езду.
5. Справаздача Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача Аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ.
9. Інфармацыя з дзейнасьці Беларускіх Сяброўскіх Клюбоў.
10. Справаздачы Адміністратараў Дамоў ЗБВБ.
11. Дыскусіі над Справаздачамі.
12. Справаздача Наглядной Рады ЗБВБ.
13. Абсалюторыюм для Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
14. Назначэньне вышыні рэнты на Клюбы ў Брадфордзе і Манчэстэры.
15. Перапісаньне агароду пры Лёнданскім Доме на Харытатыўную Сэкцыю.
16. Плян Працы на наступную кадэнцыю.
17. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
18. Выбары новай Наглядной Рады і Сяброўскага Суду.
19. Назначэньне Аўдытара.
20. Розныя справы.
21. Закрыцьцё З'езду.

Дадаткі ці дапаўненьні да гэтага Праекту Парадку Дня павінны быць надасланы ў Гал. Управу ЗБВБ прынамся 10 дзён перад тэрмінам З'езду, г.зн. да 2-га мая г. году.

Прыпамінаем сябром залягаючым з аплатай сяброўскіх складак аб неабходнасьці ўрэгуляваньня залегласьці.

Багаслужбы для ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю 13га мая будуць адслужаны наступныя Багаслужбы: для каталікоў а гадз. 10.30 у капліцы Сьв. Пятра і Паўла на Фінчлей, а для праваслаўных а гадз. 12.45 у англіканскай царкве на Пэнтон Стрыт.

Галоўная Управа ЗБВБ.

BYELORUSSIAN SOCIAL CLUB 'SAKAVIK'

Income and Expenditure Account for the year ended on 31st March, 1979.

| Year to: 31.3.78 | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | | **Receipts** | | |
| | 55 | Membership Fees | 47 | |
| | 667 | Gaming Machines | 930 | |
| | 18,026 | Takings | 25,655 | |
| 18,748 | | | | 26,632 |
| | | **Deduct:** | | |
| | 2,149 | Stock as at 1st April 1978 | 1,651 | |
| | 12,772 | Purchases and Rentals | 17,074 | |
| | 14,921 | | 18,725 | |
| | 1,651 | Less: Stock as at 31st March 1979 | 1,800 | |
| 13,270 | | | | 16,925 |
| 5,478 | | GROSS PROFIT | | 9,707 |
| | | **Deduct:** | | |
| | 15 | Postage and Stationery | 8 | |
| | 171 | Light and Heat | 341 | |
| | 112 | Licences | 109 | |
| | 70 | Telephone | 35 | |
| | 411 | General and Water Rates | 421 | |
| | 70 | Repairs and Replacements | 170 | |
| | 90 | Cleaning and Laundry | 197 | |
| | 95 | Captive Nations Committee | 104 | |
| | 42 | Club Maintenance Expenses | 543 | |
| | 125 | Fares and Travelling | 272 | |
| | 134 | Receptions and Presentations | 33 | |
| | 17 | Church Expenses | 110 | |
| | 44 | Library Expenses | 99 | |
| | 1,000 | Byelorussian Charitable Trust | 2,000 | |
| | - | Byelorussian Charitable Trust | 5,000 | |
| | 100 | Newspapers and Journals | 130 | |
| | 45 | Committee Expenses | 45 | |
| | 52 | Insurances | 51 | |
| | 26 | Sundry Expenses | 81 | |
| | | Depreciation: | | |
| | 30 | Alterations and Improvements | 35 | |
| | 85 | Furniture, Fittings & Equipment | 110 | |
| | 50 | Central Heating | 50 | |
| 2,784 | | | | 9,944 |
| £2,694 | | Surplus / Deficit for the year | | £(237) |

ARNOLD, DELL & CO.

PAUL ASIPOWICH. F.C.C.A., F.C.I.S.

CONSULTANT
N. RONALD DELL. F.C.A., A.T.I.I.

4. OVERTON ROAD.
LONDON N14 4SY
TEL. 01 - 360 2991

# BYELORUSSIAN SOCIAL CLUB 'SAKAVIK'

## Balance Sheet as at 31st March 1979

| 31.3.78 | | | Cost | Depreciation | |
|---|---|---|---|---|---|
| | FIXED ASSETS | | | | |
| 380 | Alterations and Improvements | | 891 | 350 | 541 |
| 760 | Furniture, Fittings & Equipment | | 1,649 | 668 | 981 |
| 500 | Central Heating | | 601 | 151 | 450 |
| 1,640 | | | £3,141 | £1,169 | 1,972 |
| | CURRENT ASSETS | | | | |
| | 4,077 | Cash at Bank | | 3,301 | |
| | 55 | Cash in Hand | | 190 | |
| | 1,651 | Stocks | | 1,800 | |
| | £5,783 | | | 5,291 | |
| | | Deduct: | | | |
| | 871 | Suppliers' Accounts | 819 | | |
| | 42 | Sundry Creditors | 171 | | |
| | £913 | | | 990 | |
| 4,870 | | Net Current Assets | | | 4,301 |
| £6,510 | | | | | £6,273 |
| | ACCUMULATED FUND | | | | |
| 3,816 | Balance as at 1st April 1978 | | | | 6,510 |
| 2,694 | Surplus/Deficit for the year | | | | (237) |
| £6,510 | | | | | £6,273 |

Certified to be in accordance with the books, records and information supplied.

Hon. Auditor

12th May, 1979.

## B Y E L O R U S S I A N   C H A R I T A B L E   T R U S T

Charity Commission No 229742 Inland Revenue No XN 4154

Tel. 01-360 2991
01-445 2537

52, Penn Road,
London, N7 9RE

### KAMUNIKAT za hod 1978-79

Charatatyŭnaja Sekcyja pry ZBVB nia hledziačy na šmatlikija ciažkaści ŭściaž rarvivajecca. Ab hetym śvietčyć jaje finansavaja spravazdača ŭ supastaŭleńni z minułahodniami abarotami:-

| PRYCHOD: | 31.3.79 | 31.3.78 | 31.3.77 |
|---|---|---|---|
| Salda z minułaha hodu | 1,381 | 1,461 | 895 |
| Achviary ad ZBVB i asobaŭ | 1,131 | 1,091 | 1,085 |
| Pracenty i dyvidendy | 786 | 403 | 331 |
| Atrymana ad Klubu ŭ Bradford | 7,000 | 1,000 | 1,000 |
| Atrymana ad Klubu ŭ Manchester | - | - | - |
| Zvarot padatku | 567 | 584 | 558 |
| | £10,865 | £4,539 | £3,869 |

| RASCHOD | | | |
|---|---|---|---|
| Zakuplena investycjaŭ | 659 | 2,361 | 856 |
| Zapamoha patrabujučym | 125 | 110 | 10 |
| Relihijnyja Ustanovy - BAPC | 84 | 80 | 50 |
| Navukovyja vudaviectva i dakłady | 710 | 606 | 1,486 |
| Roznyja | 2 | 1 | 6 |
| Salda na 31.3.79 | 9,285 | 1,381 | 1,461 |
| | £10,865 | £4,539 | £3,869 |

Charatatyŭnaja Sekcyja pry ZBVB vykazvaje usim achviaradaŭcam ščyraju padziaku. Uprava udzialaje zapamohi patrabujučym i biełaruskim vydaviectvam, asabliva ŭ anhielskaj movia. Majem vialikija patreby dla biełaruskaj navukovaj dziejnaści. Patreba kličyć Vašaje dapamohi i achviarnaści.

Skład Upravy Charatatyŭnaj Sekcyi pry ZBVB: a. J. Piekarski, Sp. J. Michaluk i Sp. P. Asipovič.

Skarbnik

12.5.79

---

Chaču achviaravać dla Charatatyŭnaj Sekcyi pry ZBVB praz siem hod sumy £....... i padpisać Kavenant:

Imia i Prozvišča..........................................................

Adras.....................................................................

B Y E L O R U S S I A N   C H A R I T A B L E   T R U S T

Charity Commission No 229742

Inland Revenue No XN 4154

Tel. 01-360 2991
01-445 2537

52, Penn Road,
London, N7 9RE

KAMUNIKAT za hod 1980-81

Charatatyŭnaja Sekcyja pry ZBVB padaje dla ahulnaha viedama nastupnyja kasavyja abaroty:

| PRYCHOD: | 31.3.81 | 31.3.80 | 31.3.79 |
|---|---|---|---|
| Salda z minułaha hodu | 6,465 | 9,285 | 1,381 |
| Achviary ad ZBVB i asobaŭ | 1,295 | 1,155 | 1,131 |
| Pracenty i Dividendy | 2,010 | 1,622 | 786 |
| Atrymana ad Klubu ŭ Bradford | 5,000 | 1,100 | 7,000 |
| Atrymana ad Klubu ŭ Manchester | - | - | - |
| Zvarot Padatku | 495 | 545 | 567 |
| Roznyja | 356 | - | - |
| | £15,621 | £13,707 | £10,865 |

| RASCHOD: | 31.3.81 | 31.3.80 | 31.3.79 |
|---|---|---|---|
| Zakuplena Investycjaŭ | 23 | 340 | 659 |
| Ramont 52, Penn Road | 13,750 | 5,000 | - |
| Zapamohi | 70 | 70 | 125 |
| Biełaruskija Relihijnyja Ustanovy | 30 | 300 | 84 |
| Navukovyja vydaviectva i dakłady | 2,291 | 1,529 | 710 |
| Advakat i Roznyja | 308 | 3 | 2 |
| Saldo na 31.3.81 | -(851) | 6,465 | 9,285 |
| | £15,621 | £13,707 | £10,865 |

Charatatyŭnaja Sekcyja pry ZBVB vykazvaje usim achviaradaŭcam ščyraju padziaku. Uprava udzialaje zapamohi patrabujučym i biełaruskim vydaviectvam, asabliva ŭ anhielskaj movia. Majem vialikija ptreby dla biełaruskaj navukovaj dziejnaści i patrabujem Vašaje dapamohi i achviarnaści.

Skład Upravy Charatatyŭnaj Sekcyi pry ZBVB: a. J. Piekarski, Sp. J. Michaluk i Sp. P. Asipovič.

P. Asipovič - Skarbnik

30.4.81

ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

Галоўнае Управе ЗБВБ:

Я ________________________ пражываючы ________________ сябра ЗБВБ, вызначаю сп. __________, а у выпадку, каб успомнены ня мог гэтага выканаць, сп. __________ да галасавання ад майго імя на звычайным З'ездзе ЗБВБ, які адбудзецца ______________, і на кожным адложаным З'ездзе, што сцверджаю ўласнаручным подпісам.

Подпіс ____________________

_____________ дня _____________ 197___г.

Атрымаў 14.V.75
- Сяр.

# К А М У Н І К А Т

## ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London N. 7.

---

Нр.83 Лёндан Красавік 1979 г.

---

### 33-і Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 33-і Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу дня 12-га мая 1979-га году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд распачнецца а гадз. 2-й па паўдні.

Галоўная Управа прапануе наступны Парадак Дня З'езду:

1. Адкрыцьцё З'езду і малітва.
2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду.
4. Прыняцьце Пратаколу з Папярэдняга З'езду.
5. Справаздача Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача Аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ.
9. Інфармацыя з дзейнасьці Беларускіх Сяброўскіх Клюбоў.
10. Справаздачы Адміністратараў Дамоў ЗБВБ.
11. Дыскусіі над Справаздачамі.
12. Справаздача Наглядной Рады ЗБВБ.
13. Абсалюторыюм для Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
14. Назначэньне вышыні рэнты на Клюбы ў Брадфордзе і Манчэстэры.
15. Перапісаньне агароду пры Лёнданскім Доме на Харытатыўную Сэкцыю.
16. Плян Працы на наступную кадэнцыю.
17. Выбары новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
18. Выбары новай Наглядной Рады і Сяброўскага Суду.
19. Назначэньне Аўдытара.
20. Розныя справы.
21. Закрыцьцё З'езду.

Дадаткі ці дапаўненьні да гэтага Праекту Парадку Дня павінны быць надасланы ў Гал. Управу ЗБВБ прынамся 10 дзён перад тэрмінам З'езду, г.зн. да 2-га мая г. году.

Прыпамінаем сябром залягаючым з аплатай сяброўскіх складак аб неабходнасьці ўрэгуляваньня залеглясьці.

### Багаслужбы для ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю 13га мая будуць адслужаны наступныя Багаслужбы: для каталікоў а гадз. 10.30 у капліцы Сьв. Пятра і Паўла на Фінчлей, а для праваслаўных а гадз. 12.45 у англіканскай царкве на Пэнтон Стрыт.

За Галоўная Управа ЗБВБ.
[signature]

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ у ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London, N.7.

---

Нр. 84 Лёндан Красавік 1980 г.

---

34-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 34-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу, дня 7-га чэрвеня 1980-га году ў Беларускім Доме ў Лёндане пад вышэй паданым адрасам. З'езд распачнецца а гадз. 2.30 па паўдні.

Галоўная Управа прапануе наступны Парадак Дня З'езду: -

1. Адкрыцьцё З'езду і малітва.
2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду.
4. Прыняцьце Пратаколу з Папярэдняга З'езду.
5. Справаздача Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача Аўдытара ЗБВБ.
7. Справаздача з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Справаздачы Управаў Аддзелаў ЗБВБ.
9. Справаздачы Управаў Беларускіх Сяброўскіх Клюбаў.
10. Справаздач Адміністратараў Дамоў ЗБВБ.
11. Дыскусіі над Справаздачамі.
12. Справаздача Наглядная Рады ЗБВБ.
13. Абсалюторыюм для Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
14. Плян Працы на наступную кадэнцыю.
15. Выбары Новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
16. Выбары Наглядная Управы і Сяброўскага Суду.
17. Назначэньне Аўдытара ЗБВБ.
18. Розныя справы.
19. Закрыцьцё З'езду.

Жадаючыя ўнесьці змены, ці дапаўненьні да гэтага Праекту Парадку ня павінны надаслаць іх у Галоўную Управу прынамся дзесяць дзён перад эрмінам З'езду, г.зн. да 28-га мая г. году.

Пры гэтай нагодзе прыпамінаем сябром залягаючым з аплатай сяброскіх складак аб неабходнасьці ўрэгуляваньня залегласьцяў. Права чыннага дзелу на З'езьдзе будуць мець толькі тыя сябры, якія маюць аплачаныя броўскія складкі прынамся да сакавіка г. году.

Багаслужбы для ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю 8-га чэрвеня будуць адслужаны наступныя Багаслужбы: для аталікоў а гадз. 10.30 у капліцы сьв. Пятра і Паўла на Фінчлей, а для равслаўных а гадз. 12.45 у англіканскай царкве на Пэнтон Стрыт.

За Галоўная Управа ЗБВБ.

[signature]

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London, N.7.

Нр. 85 Л ё н д а н Ліпень, 1980 г.

## 34-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Згодна з паведамленьнем у папярэднім Камунікаце ЗБВБ, 34-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ адбыўся ў суботу дня 7-га чэрвеня ў Беларускім Доме ў Лёндане. Адкрыў З'езд старшыня Ўступаючай Галоўнай Управы, Сп. Янка Міхалюк. Ен прывітаў усіх прысутных і запрапанаваў распачаць працу З'езду традыцыйна малітвай. Прысутны на З'езьдзе а. Я. Пякарскі сказаў малітву да сьв. Еўфрасініі Полацкай, дзень якой быў прыпаў на папярэдні чацьвер.

Мандатная Камісія, выбраная ў складзе. Сп. Я. Ясьвіловіч, Сп. В. Міхалюк і а. А. Надсон ствердзіла З'езд праўным і тады быў выбраны Прэзыдыюм З'езду ў складзе: Сп. Я. Міхалюк - старшыня і Сп-ы А. Зданковіч і П. Наваро - сакратары З'езду.

У сваей справаздачы старшыня, Сп. Я. Міхалюк, схарактэрызаваў заданьні і мэты арганізацыі і спосаб іх выконваньня. Галоўная Управа паклала шмат захадаў дзеля папулярызацыі ідэі незалежнасьці Беларусі як сярод ангельскіх урадавых чыньнікаў, так і іншых нацыянальнасьцяў. Рабіліся захады аб наладжаньні беларускіх перадачаў праз БіБіСі, на жаль, без пажаданых вынікаў, а гэта з прычыны блізарукасьці ангельскіх урадавых чыньнікаў.ЗБВБ шырока распаўсюдзіла саміздатнае выданьне якое было атрымана з Беларусі пад назовам "Ліст Расейскаму Прыяцелю" у расейскай мове разам з перакладам на ангельскую мову і камэнтарамі ў ангельскай мове. Выданьне гэтае выклікала аграмаднае запатрабаванне і шматлікія прызналі яго адным з найлепшых самаздатных выданьняў, якія трапілі сюды на захад. Адзін ангельскі парлямэнтарыст напісаў: мае прыемнасьць і гонар вітаць аўтара гэтай выдатнай працы".

Наступна З'езд праслухаў справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ, Управаў сяброўскіх Клюбоў, Управы Харытатыўнай Сэкцыі, Адміністратараў Беларускіх Дамоў, Аўдытара ЗБВБ і ў канцы Наглядной Рады. Усе гэтыя справаздачы і абшырныя дыскусіі над імі паказалі, што грамадская і нацыянальная праца ў ЗБВБ вядзецца актыўна і ўсебакова. З'езд прызнаў, што Ўступаючая Галоўная Ўправа поўнасьцю вывязалася з узложаных на яе заданьняў і абавязкаў і ўдзяліў ёй абсалютарыюм з падзякай.

З'езд выбраў Галоўную Управу на наступны год у такім складзе: Сп. Я.Міхалюк - старшыня, Сп. А.Зданковіч - заступнік старшыні, Сп. П. Наваро - сакратар, Сп. П.Асіповіч - скарбнік і Сп-ы А. Лашук і Я.Сяўковіч - сябры Ўправы. У Наглядную Раду былі выбраны: Сп. В.Міхалюк - старшыня, Сп-я Н.Шпігановіч - сакратар і Сп. Х. Лемяшонак - сябра.

## У Ангельска-Беларускім Таварыстве.

На заканчэньне 14-га гадавога цыклю дакладаў на тэмы беларускай гісторыі, літаратуры і мастацтва ведзеных Ангельска-Беларускі Таварыствам, Сп-я Шырын Акінэр, др.філязафічных навук, зрабіла вельмі цікавы даклад пад назовам "Сучасныя Беларускія Пісьменьнікі ў Польшчы". Даклад свой др. Ш. Акінэр распачала кароткім гістарычным нарысам - прагалашэньне незалежнасьці Беларусі Радай БНР, прагалашэньне заснаваньня БССР бальшавікамі, Заходняя Беларусь пад польскай акупацыяй у міжваенны пэрыяд, далучэньне Заходняй Беларусі да БССР у выніку пакту Молатаў - Рыббэнтроп, падараваньне Сталінам Беласточчыны камуністычнай Польшчы.

Адразу па вайне ўсякая беларуская дзейнасьць у Польшчы была забаронена, а гэта таму, што Ўрад прышоў да абсурдальнага пераканаиьня, што нібы Беларусаў у Польшчы ня было. Такі стан рэчаў трываў да паловы 50-ых гадоў, калі Беларусаў у Польшчы "адкрылі" і быў даны ім дазвол на арганізаванае жыцьцё.

Цяпер там існуе Аб'еднаньне Беларускіх Пісьменьнікаў пад назовам "Белавежа", куды належыць каля 25-ці пісьменьнікаў. Таксама пры Саюзе Польскіх Пісьменьнікаў ёсьць Беларускі Аддзел, у якім ёсьць 4-ы пісьменьнікі, а гэта: Віктар Швэд, Алесь Барскі, Сакрат Яновіч і Ян Чыквін.

Паэзія беларускіх пісьменьнікаў у Польшчы ёсьць вельмі багатая і разнастайная. Як тэматычна, так і паэтычнай формай, яна больш зблізана да заходня-эўрапэйскай паэзіі, чымся да беларускай паэзіі ў БССР. Шматлікія паэты адыйшлі ад традыцыйнай паэзіі на народныя тэмы; яны пішуць мадэрным стылем на інтэлектуальныя і філязафічныя тэмы. Былі прадэклямаваныя вершы наступных пісьменьнікаў па-беларускі і ў ангельскім тлумачэньні: Віктара Шведа, Алеся Барскага, Ул. Гайдука, Яшы Бурша, Яна Чыквіна, М. Шаховіча і Красоўскага.

Па дакладзе было наладжана прыняцьце ў гонар др.Шырын Акінэр з нагоды нядаўнага прызнаньня ёй Лёнданскім унівэрсытэтам тытулу Доктара Філязофіі за яе вялікую навуковую працу (600 бачын) пад назовам "Лексыкон Татарска-Беларускага Кітабу", па ангельскі Religious Dictionary of the British Library Tatar-Byelorussian Kitab.

Др. Аляксандар Баршчэўскі ў Англіі.

На пачатку чэрвеня на запрошаньне Рэдынгскага Ўнівэрсытэту ўжо другі раз наведаў Англію загадчык Кафэдры беларускай філялёгіі пры Варшаўскім Унівэрсытэце др. Аляксандар Баршчэўскі. Ён змог прыехаць і ў Лёндан, дзе зрабіў даклад аб беларускай дзейнасьці ў Польшчы.Паводле яго, цяпер там дзяржаўнага шавінізму няма і Беларусы поўнасьцю карыстаюцца ўсімі грамадзянскімі правамі. Урад аказвае маральную і матарыяльную падтрымку беларускім грамадзкім арганізацыям і інстытуцыям.

Пазаканчэньні дакладу дакладчык адказваў на шматлікія запытаньні. У Беластоцкай "Ніве" часта закрадаюцца моўныя дыялекты, з вялікай прымешкай украінізмаў. Дакладчык асабіста ёсьць супроць уводжаньня дыялектаў. У Бельшчыне і Гайнаўшчыне ёсьць досыць вялікія моўныя ўкраінскія ўплывы, аднак людзі там пачуваюцца беларусамі. Дарэчы, гэтыя паветы даюць прапарцыянальна найбольшую колькасьць беларускіх дзеячоў. Адносна заходня-эўрапэйскіх і савецкіх беларускіх уплываў набеларускую паэзію ў Польшчы пагляд дакладчыка такі. Пачынаючы ад Францішка Багушэвіча галоўнай мэтай беларускай паэзіі была абарона беларускай народнасьці. У заходня-эўрапэйскай паэзіі, ці нават польскай і рускай паэзіі на гэта няма патрэбы і таму яны могуць сабе дазволіць на інтэлектуалізм і сорам пачуцьцяў у адносінах да народнага. Некаторыя паэты думаюць, што яны могуць жыць і добра тварыць з чужой душой - такія нічога вялікага ня створаць. Савецкая беларуская паэзія стаіць на высокім узроўні, хаця шматлікія творы ёсьць занадта апісальныя і нагадваюць вершаваную прозу.Вялікі росквіт беларускай паэзіі быў асягнуты паэтамі-узвышэнцамі як Уладзімер Дубоўка, Язэп Пушча і іншыя.

Сямейная Ўрачыстасьць Сп-ва Зданковічаў.

Сп. Аляксандар Зданковіч, заст. старшыні ЗБВБ, із свёй сям'ёй, жонкай Гэдды, сынам Аляксандрам і дочкамі Крыстынай, Джанэт і Марыян, 25-га мая адзначылі вялікую сямейную ўрачыстасьць - сярэбраны юбілей свйго жанімства. З гэтай нагоды яны наладзілі для сваіх прыяцеляў вельмі прыемнае прыняцьце ў сьвятліцы ў Доме сьв. Кірыла Тураўскага на Фінчлей. Распачалося яно кароткай багаслужбай у капліцы сьв. Пятра і Паўла, падчас якой Ул. Часлаў Сіповіч прамаўляў да юбілянтаў па беларускі, ангельскі і нямецкі(Гэдды Зданковіч ёсьць родам з нямецкамоўнай часці Швайцары). Падчас прыняцьця, у сваей прамове старшыня ЗБВБ Сп. Янка Міхалюк між іншым сказаў, што Сп. Аляксандар Зданковіч можа служыць шматлікім прыкладам бацькі сям'і. Таксама дае ён добры прыклад для другіх, як трэба працаваць і на грамадзкай ніве, дзе яго актыўнасьць да гэтага часу нічуць ня прыцьмілася. Пазьней прамаўлялі старшыня Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ, Сп. Янка Сяўковіч, сам юбілянт і ягоная мама.
Гал.Управа ЗБВБ жадае Сп-у Зданковічам найлепшай памысласьці на прышласьць у іх супольным жыцьці, а Сп-у Аляксандру Зданковічу плённай працы на беларускай грамадзкай ніве.

Др. Юрка Геніюш у Англіі.

На днях прыехаў з Польшчы ў Англію на кароткі пабыт доктар мэдыцыны Юрка Геніюш, сын ведамай беларускай паэтэсы, Ларысы Геніюш.
У панядзелак 14-га ліпеня др Ю. Геніюш зробіць даклад для лёнданскіх Беларусаў.Гал. Управа ЗБВБ вітае др. Ю. Геніюша з ягоным прыездам сюды і жадае яму прыемна і весела правесьці тут час.

Галоўная Управа ЗБВБ.

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ
52, Penn Road, London, N.7.

---

Нр. 86 Лёндан Красавік, 1981 г.

---

35-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

Гэтым падаецца да агульнага ведама і паведамляецца ўсіх сяброў ЗБВБ, што 35-ы Агульны Звычайны Гадавы З'езд сяброў і дэлегатаў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбудзецца ў суботу, дня 16-га мая 1981-га году. З прычыны праектаванага рамонту Беларускага Дому ў Лёндане, дзе Агульныя З'езды нармальна адбываюцца, у гэтым годзе Гал. Управа пастанавіла, што З'езд адбудзецца ў салі пры Беларускай Бібліятэцы і Музеі ім. Фр. Скарыны на Гольдэн Роўд, Фінчлей даезд да станцыі падземнай чыгункі Вудсайд Парк. Разпачнецца З'езд а гадз. 3-й па паўдні.

Галоўная управа прапануе наступны Парадак Дня З'езду:

1. Адкрыцьцё З'езду і малітва.
2. Выбары Мандатнай Камісіі.
3. Выбары Прэзыдыюму З'езду.
4. Прыняцьце Пратаколу з Папярэдняга З'езду.
5. Справаздача Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
6. Справаздача Аўдытара.
7. Інфармацыя з дзейнасьці Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ.
8. Справаздачы Ўправаў Аддзелаў ЗБВБ.
9. Інфармацыя з дзейнасьці Беларускіх Сяброўскіх Клюбоў.
10. Справаздачы Адміністратараў Дамоў ЗБВБ.
11. Дыскусіі над Справаздачамі.
12. Справаздача Наглядной Рады.
13. Абсалюторыюм для Ўступаючай Галоўнай Управы ЗБВБ.
14. Плян Працы на наступную Кадэнцыю.
15. Выбары Новай Галоўнай Управы ЗБВБ.
16. Выбары новай Наглядной Рады і Сяброўскага Суду.
17. Назначэньне Аўдытара.
18. Розныя Справы.
19. Закрыцьцё З'езду.

Дадаткі, ці дапаўненьні да гэтага Парадку Дня павінны быць надасланы ў Галоўную Ўправу прынамся 10 дзён перад тэрмінам З'езду, г.зн. да 6-га мая г. году.

Прыпамінаем сябром залягаючым з аплатай сяброўскіх складак аб неабходнасьці ўрэгуляваньня залегласьці.

Багаслужбы для ўдзельнікаў З'езду.

У нядзелю дня 17-га мая будуць адслужаны наступныя Багаслужбы: каталіцкая а гадз. 10-30 раніцы ў капліцы сьв. Пятра і Паўла на Фінчлей, праваслаўная а гадз. 12-30 у англіканскай царкве на Пэнтон Стрыт каля Кінгс Крос.

Гал. Управа ЗБВБ.

К А М У Н І К А Т

ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАЙ БРЫТАНІІ

52, Penn Road, London, N.7.

Нр.87 Лёндан Ліпень, 1981 г.

35-ы Агульны Гадавы З'езд ЗБВБ.

35-ы Агульны Гадавы З'езд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі адбыўся ў суботу, дня 16-га мая ў салі пры Беларускай Бібліятэцы ім. Ф. Скарыны на Фінчлей у Лёндане. Адкрыў З'езд старшыня Ўступаючай Галоўнай Управы Сп. Я. Міхалюк. Ен прывітаў усіх удзельнікаў З'езду і асабліва Ўл. Ч. Сіповіча, які нядаўна меў тры цяжкія апэрацыі, і а.Я. Пякарскага, які праходзіў даўжэйшы курс лячэньня. Так як З'езд адбываўся ў доме пад назовам сьв. Кірылы Тураўскага і дзеньякога быў толькі нядаўна, а. Я. Пякарскі запрапанаваў распачаць працу З'езду малітвай да сьв. Кірылы Тураўскага, якую а. Я. Пякарскі і сказаў.

Была выбрана Мандатная Камісія ў складзе: а. Фэлікс Журня - старшыня, Сп. Ул. Гінько - сакратар і Сп. Хв. Дзімітраў - сябра. Па праверцы картатэкі ўліку сяброўскіх складак Мандатная Камісія абвесьціла З'езд праўным і тады быў выбраны Прэзыдыюм З'езду ў складзе: Сп. Я. Міхалюк - старшыня і Сп-ы А. Зданковіч і П.тНаваро - сакратары. Старшыня З'зду прачытаў надасланыя прывітаньні на З'езд ад Яго Блажэнства Мітрапаліта Андрэя Першаерарха БАПЦ, ад былага Старшыні ЗБВБ Сп. М. Нікана пражываючага цяпер у Аўстраліі. Сп. Я. Сяўковіч вусна перадаў прывітаньні З'езду ад новаўступіўшага сябры ЗБВБ, Сп. Петраша. Прыемнасьцю для прысутных было тэлефанічнае прывітаньне ў часе З'езду з Канады ад Прэзыдэнта Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіча.

Сп. Я. Міхалюк здаў справаздачу ад Уступаючай Гал. Управы. Як і ў мінулым годзе, Гал. Управа вяла натужную і актыўную дзейнасьць. Маюцца шматлікія доказы, што дзейнасьць беларускай эміграцыі мае поўнае прызнаньне і ацэну на Бацькаўшчыне. ЗБВБ шырока распаўсюдзіла выданыя неафіцыяльна на Беларусі дзве адкрыткі з нагоды 1000-ы годдзя дзяржаўнасьці Беларусі. Пры пераказаньні арыгіналаў была дана такая інструкцыя: перадайце Беларусам у Лёндане і яны будуць знаць, што з гэтым зрабіць. Лепшага прызнаньня і ацэны нашай дзейнасьці мы і не шукаем.

Пазьней былі зданы справаздач з дзейнасьці Аддзелаў ЗБВБ, Харытатыўнай Сэкцыі пры ЗБВБ, Беларускіх Клюбоў, Адміністратараў Беларускіх Дамоў, Аўдытара ЗБВБ і Наглядная Рады. Па абшырнай дыскусіі над усімі справаздачамі, Агульны З'езд прызнаў, што ЗБВБ працавала актыўна і Галоўная Ўправа поўнасьцю вывязалася з узложаных на яе абавязкаў і прызнаў Уступаючай Гал. Управе абсалютарыюм з падзякай.

Галоўная Ўправа на наступную кадэнцыю была выбрана ў такім складзе: Старшыня - Сп. Я. Міхалюк, заст. старшыні - Сп. А. Зданковіч, сакратар - Сп. П. Наваро, скарбнік - Сп. П. Асіповіч, сябры Ўправы - Сп-ы А. Лашук і Я. Сяўковіч.

У Наглядную Раду былі выбраны: Старшыня - Сп. В. Міхалюк, сакратар - Сп-чня Н. Шпігановіч, сябра - Сп. Хв. Лемяшонак.

У Ангельска-Беларускім Таварystве.

18-га чэрвеня г. году адбыўся Гадавы З'езд Ангельска-Беларускага Таварыства ў салі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны. Адкрыў З'езд заст. старшыні Сп. П. Наваро. Справаздачу з дзейнасьці, зробленую старшынёй Сп. Дж. Джоліфам адчытаў Сп. Гай дэ Пікарда. Таварыства робіць вельмі карысную працу ў папулярызаваньні беларускай справы. Яно выдае навуковы Журнал Беларускіх Студыяў у ангельскай мове. Рэгулярна вядуцца даклады (шэсьць дакладаў на год) на тэмы беларускай гісторыі, літаратуры і мастацтва. Сп. Дж. Джоліф, з прычыны выезду з Лёндану на стала, ня змог астацца надалей старшынёй, але выразіў згоду

быць віцэ-прэзыдэнтам Таварыства. У новую Управу Таварыства былі выбраны Сп. Джэймс Дінглей - старшыня, а. А. Надсон і Сп. Гай дэ Пікарда - заст. старшыні, Сп. П. Асіповіч - скарбнік, др. Ліндсэй Гюз, Сп-ы Я. Міхалюк і П. Наваро - сябры Управы.

Шлюб Сп. Віктара Міхалюка Са Сп-чняй Надзяй Шпігановіч.

У сыботу 20-га чэрвеня адбыўся ў Беларускай парафіяльнай царкве ў Манчэстэры шлюб Сп. В. Міхалюка, сярэдняга сына старшыні ЗБВБ Сп. Я. Міхалюка,са Сп-чняй Надзяй Шпігановіч, малодшай дачкой Сп-ва Шпігановічаў з Манчэстэру. Шлюбу ўдзяліў настаяцель царквы а. Я. Абабурка. Абое, Віктар і Надзя бяруць чынны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Віктар ёсьць старшынёй Нагляднай Рады ЗБВБ, скарбнікам Аддзелу ЗБВБ і сакратаром Беларускага Сяброўскага Клюбу ў Манчэстэры.

З нагоды гэтай важнай падзеі ў іхным жыцьці Гал. Упр. ЗБВБ складае Віктару і Надзі найлепшыя пажаданьні і жадае ім памыснасьці, здароўя, шчасьця і спаўненьня ўсіх лятуценьняў у іх супольным жыцьці.

Ведамы беларускі пісьменьнік у Польшчы, Алесь Барскі, прысьвяціў Віктару і Надзі наступны верш:-

Надзі і Віктару.

Любімая Надзя і Віктар Любімы
Пазвольце мне шчыра сягоньня адкрыцца,
І вершам свім - эмісарам Радзімы
Вам пакланіцца.
    Няхай панад Вамі і сонца і зоркі
    Надзею калышуць і песьцяць каханьне,
    Каб ведалі Вы аб агідным і горкім
    Толькі з паданьняў.
Як месяц і зорка Ты Віктар і Надзя
Пойдзеце разам у даль паднябесьсям,
Заўсёды у дружбе, заўсёды у ладзе,
І вечна з песьняй.
    Пара Вам падумаць аб абавязках,
    Дзетак заводзіць - досыць сваволяў -
    Каб Дзед Міхалюк ім баіць мог казкі
    Аб шчасьці і долі.
Любімая Надзя і Віктар любімы
Я шчыра захоплены Вашым каханьнем.
Я Вам пакланіўся асколкам Радзімы -
Вершам прызнаньня.

Варшава, сакавік 1981г.

"Таймс" праз дыскрымінацыю беларускага школьніцтва ў Польшчы.

Ангельская газэта "Таймс" у навучальным дадатку з дня 12-га чэрвеня пішучы аб магчымасьцях направы спосабу навучаньня гісторыі ў польскіх школах,дадае што мала зроблена ў напрамку направы беларускага школьніцтва на Беласточчыне. На працягу апошніх дзесяці год беларускае школьніцтва там амаль занікла. Хаця Беларускае Таварыства і пісала пратэст партыйнаму сакратару Ст. Кані яшчэ ў лістападзе мінулага году, аднак дасюль ніякага адказу на гэта яшчэ не атрымана. Актывісты з Салідарнасьці якія займаюцца навучальнымі справамі паведамілі карэспандэнта "Таймса" што яны даведаліся аб гэтай справе толькі прыпадкова шэсьць тыдняў таму назад.

Беларускае Таварыства ў Беласточчыне павінна больш настойліва дамагацца скасаваньня дыскрымінацыі беларускага школьніцтва. Гэта ёсьць іх абавязкам, і толькі яны змогуць гэта зрабіць, і ніхто іншы.

## Камітэт Паняволеных Народаў у Брадфордзе.

Гэты Камітэт быў заснаваны ў Брадфордз яшчэ ў 1963 ім годзе і ў яго ўвайшлі Вугорцы, Латышы, Літоўцы, Эстонцы і Украінцы. У канцы 1964-га году далучыліся да яго Беларусы і Палякі, але ў 1969-ым годзе Палякі выступілі. Такім чынам цяпер у Камітэт належаць шэсьць вышэйупомненых нацыянальнасьцяў. Беларусаў там рэпрэзэнтуе мясцовы Аддзел ЗБВБ.

Праз увесь час існаваньня Камітэт вельмі актыўна працуе. Кожны год у маі арганізуецца Гадавы Бал з выбарам каралевы. Кожны год трэйці тыдзень у ліпені адзначаецца як Тыдзень Паняволеных Народаў. Кожны год 10-га сьнежня адзначаецца як Дзень Правоў Чалавека. На ўсіх імпрэзах прысутнічаюць прадстаўнікі мясцовых уладаў і мясцовыя члены Парляманту. Мясцовая прэса, радыё і тэлевізія ніколі гэтых імпрэзаў не прамоўчваюць.

Нядаўна ў гэтым годзе Камітэт выдаў інфармацыйную брашуру ў ангельскай мове на 57 бачын. Шэсьць бачын прысьвечана Беларусі. Паказаны тут нацыянальны сьцяг і паданы кароткі гістарычны нарыс.

## В.п. Сп. Мікалай Лабанок.

29-га мая неспадзявана памёр на завал сэрца ў Ст.Мэры Госпітал Сп. Мікалай Лабанок. Нябожчыку 15-га лютага было споўнілася 81 гадоў. Ня гледзячы на так пажылы век да апошняга часу вёў ён актыўнае жыцьцё. Яго можна было спаткаць на ўсіх акадэміях і дакладах. Быў чынным сябрам Управы Праваслаўнага прыходу сьв. Еўфрасіні Полацкай, што належыць пад юрысдыкцыю япіскапа Матвея. У канцы мінулага году выдаў ратагатарным спосабам брашуру пад назовам "Жыцьцё працоўных у т. зв. першай сацыялістычнай краіне". Да вайны працаваў настаўнікам у 10-ці годцы ў Менску і асабіста знаў многіх уплывовых людзей, асабліва спасярод беларускі пісьменьнікаў. Шкада, што пакойнік за жыцьця не напісаў сваіх успамінаў, бо мог-бы шмат чаго цікавага разказаць.

Вельмі дзіўна і прыкра, што нябожчыка хаваў не праваслаўны, а англіканскі сьвятар, хаця ён і быў членам Управ Праваслаўнага прыходу. Пахаваны нябожчык на Кэнсал Грын Сэмэтэры. Няхай Яму пухам будзе ангельская зямля.

## Беларускі Дом у Лёндане.

Ад даўжэйшага часу Беларускі Дом у Лёндане патрабаваў грунтоўнага і капітальнага рамонту. Пару гадоў таму ужо былі апрацаваныя пляны перарабіць яго на чатыры поўнасьцю незалежныя апартамэнты і памешканьне пад канцылярыю ЗБВБ. У канцы пляны затверджаныя гарадзкой Управай і два тыдні назад будаўляная фірма разпачала над ім працу. Будзе гэтая праца трываць прыблізна каля трох месяцаў.

Галоўная Ўправа ЗБВБ.